БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік
Беларускага згуртавання татараў-мусульман*

## "АЛЬ-КІТАБ"

## № 2

Менск 1994

*БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ*

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ»

№ 2

МЕНСК 1994

***Рэдактарская група:***
*Я. Гучок,*
*І. Канапацкі,*
*А. Скрыцкі,*
*Г. Фатыхава,*
*Е. Фешчанка*

Рэдакцыя "Байрама" выказвае шчырую падзяку сям'і ***Кіпеляў (ЗША)*** за сродкі, якія яна ахвяравала на выданне нашага квартальніка.

*Надрукавана ў Навагрудку*

## АССАЛАМУ АЛЕЙКУМ, СПАДАРЫНІ І СПАДАРЫ, СУПЛЯМЕННІКІ-ТАТАРЫ, УСЕ МУСУЛЬМАНЕ!

*Першая палавіна лета вельмі засмуціла беларускіх татар — спрадвечных і патомных агароднікаў. Застаецца надзея, што надвор'е стане лепшым і на нашых градках нешта вырасце. Але харчовая праблема вырашаецца не на татарскіх градках, а на палетках пад збожжам, на сенажацях.*

*Адбыўся першы тур выбараў прэзідэнта. Лічбы для большасці выбаршчыкаў, ды і саміх прэтандэнтаў на найвышэйшую пасаду, аказаліся нечаканымі. Толькі ў гэтым выбары татары не адыгралі ніякай ролі, бо яны склалі не больш за 0,1% ад усіх выбаршчыкаў Беларусі.*

*Навучэнцы нядзельных мусульманскіх школак, бацькі навучэнцаў, настаўнікі падвялі вынік сваёй работы. Як ужо ў нас прынята гаварыць, што ўсё дзеілася значна лепш, чым у мінулым годзе і ў параўнанні з 1913 годам. Упершыню значная колькасць юнакоў і дзяўчат наведвалі ўрокі турэцкай мовы і захавалі цікавасць да самага канца заняткаў.*

*З задавальненнем можна адзначыць, што ўрад Беларусі прыняў рашэнне вылучыць памяшканне для культурна-нацыянальных згуртаванняў, у т. л. і "Аль-Кітаба". Мусульманскі новы 1415 год Хіджра мы адзначалі 10 чэрвеня ў Менску ў будынку № 21 па вул. Я. Купалы. Спадзяемся, што тут у нас будзе пакой, адрас і тэлефон, куды будзе магчымасць татарам звяртацца ў любы час.*

*Нашы татары старэйшага пакалення, якія нарадзіліся да Вялікай Айчыннай вайны, адзначаюць 50-годдзе вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Мяркуем, што больш за адну тысячу татар ваявалі з ворагам на франтах, у партызанскіх атрадах, у падполлі. Многія і многія з іх загінулі як на роднай зямельцы, так і за межамі СССР, калі дабівалі ворага ў яго логавішчы.*

*Каб ведалі ўнукі і праўнукі ўдзельнікаў гэтай цяжкай, але пераможнай вайны, мы на старонках нашага "Байрама" цяпер і ў 1995 г. (у наступным годзе споўніц-ца 50 гадоў завяршэння Вялікай Айчыннай вайны) будзем друкаваць расказы і звесткі пра гэту найвялікшую падзею 20-га стагоддзя.*

*Якуб Якубоўскі*

يَآأَيُّهَا الَّذِينَ أُوتُوا الْكِتٰبَ اٰمِنُوا بِمَا نَزَّلْنَا
مُصَدِّقًا لِّمَا مَعَكُم مِّن قَبْلِ أَن نَّطْمِسَ
وُجُوهًا فَنَرُدَّهَا عَلٰٓى أَدْبَارِهَآ أَوْ نَلْعَنَهُمْ كَمَا

# КУР'АН

## СУРА АЛЬ-НІСА—ЖАНЧЫНЫ

*(працяг)*

48. О вы, людзі, якія атрымалі Кнігу, верце ў тое, што паслалі Мы, выконвайце тое, што ёсць у вас, перш чым знішчым мы некаторых важакоў і павернем іх спіны і праклянём іх, як праклялі тых, хто парушыў Суботу. І пастанаўленне Аллага немінуча збудзецца.

49. Сапраўды, не даруе Аллаг, калі хто прылучыць роўнага да Яго, але ўсё, што акрамя гэтага, Ён даруе, каму заўгодна Яму. А хто далучае роўных да Аллага, сапраўды, робіць вялікі грэх.

50. Ці ж не ведаеш ты пра тых, якія лічаць сябе чыстымі? Не, толькі Аллаг ачышчае каго Яму заўгодна, і не будуць яны пакрыўджанымі ніколькі.

51. Глядзі! Як яны сплятаюць ману супроць Аллага. І дастаткова гэтага для яўнага граху.

52. Ці не ведаеш ты пра тых, каму дадзена была частка Кнігі? Вераць яны ў зло і ідуць за тымі, хто чыніць беззаконне, і яны гавораць да тых, хто не ўвераваў: "Яны на лепшай дарозе да веры, чым тыя, хто веруе".

أَمْ لَهُمْ نَصِيبٌ مِّنَ الْمُلْكِ فَإِذًا لَّا يُؤْتُونَ النَّاسَ

نَقِيرًا ﴿٥٤﴾

أَمْ يَحْسُدُونَ النَّاسَ عَلَىٰ مَا آتَاهُمُ اللَّهُ مِن فَضْلِهِ

فَقَدْ آتَيْنَا آلَ إِبْرَاهِيمَ الْكِتَابَ وَالْحِكْمَةَ وَآتَيْنَاهُم

مُّلْكًا عَظِيمًا ﴿٥٥﴾

فَمِنْهُم مَّنْ آمَنَ بِهِ وَمِنْهُم مَّن صَدَّ عَنْهُ ۚ وَ

كَفَىٰ بِجَهَنَّمَ سَعِيرًا ﴿٥٦﴾

إِنَّ الَّذِينَ كَفَرُوا بِآيَاتِنَا سَوْفَ نُصْلِيهِمْ نَارًا ۚ كُلَّمَا

نَضِجَتْ جُلُودُهُم بَدَّلْنَاهُمْ جُلُودًا غَيْرَهَا لِيَذُوقُوا

الْعَذَابَ ۗ إِنَّ اللَّهَ كَانَ عَزِيزًا حَكِيمًا ﴿٥٧﴾ ع

وَالَّذِينَ آمَنُوا وَعَمِلُوا الصَّالِحَاتِ سَنُدْخِلُهُمْ جَنَّاتٍ

تَجْرِي مِن تَحْتِهَا الْأَنْهَارُ خَالِدِينَ فِيهَا أَبَدًا ۖ لَّهُمْ

فِيهَا أَزْوَاجٌ مُّطَهَّرَةٌ ۖ وَنُدْخِلُهُمْ ظِلًّا ظَلِيلًا ﴿٥٨﴾

**КУР`АН. СУРА АПЬ-НІСА, АЯТЫ 54-58.**

53. Такіх пракляў Аллаг; а для таго, каго пракляў Аллаг, не знойдзеш ты памочніка.

54. І калі б мелі яны нейкую долю ў праўленні царствам, то не далі б людзям нават самага малога, як шалупінка з фінікавага насення.

55. Або зайздросцяць яны тым людзям, што Аллаг падараваў ім ад шчодрасці Сваей? Калі гэта так, то, сапраўды, Мы таксама далі Кнігу і Мудрасць сынам Ібрагіма і Мы таксама далі ім вялікае царства.

56. І былі сярод іх некаторыя, якія верылі ў Яго; і былі іншыя сярод іх, якія адвярнуліся. І дастаткова будзе пекла ім, у якім будуць гарэць яны вечна.

57. Тых, хто не верыць у знакі Нашыя, Мы скора ўкінем у агонь! Як толькі скура іх абгарыць, Мы дадзім заместа яе новую скуру, каб адведалі яны пакаранне. Сапраўды, Магутны і Мудры Аллаг.

58. А тых, якія вераць і робяць добрыя справы, увядзём Мы ў Сады, па якіх цякуць ручаі, каб жылі яны вечна; будуць у іх там сяброўкі чысцюткія. І Мы прымаем іх у месца прыемнай і густой зацені.

59. Сапраўды, загадвае вам Аллаг аддаваць тое, што было даверана тым, каму гэта належыць, і, калі вы судзіце паміж людзьмі, судзіце справядліва. І, сапраўды, дасканалае тое, у чым пераконвае вас Аллаг. Аллаг — Усявышні, Усёлюбны.

60. О вы, вернікі, павінуйцеся Аллагу, і павінуйцеся Пасланніку Яго і тым, хто мае ўладу сярод вас. І калі вы разыходзіцеся ў нечым паміж сабою, пакіньце гэта на вырашэнне Аллага і Пасланніка Яго, калі вы верыце ў Аллага і Апошні Дзень. Так будзе лепш і пахвальна.

61. Ці ты не бачыў тых, якія сцвярджаюць, што ўверавалі ў тое, што ім было абвешчана, і ў тое, што было абвешчана да цябе? Яны звяртацца на суд да бажка Тагута, тады як і сказана не верыць у яго; і хоча Шайтан іх завесці ў далёкае бездарожжа.

62. Калі ім кажуць: "Прыйдзіце да таго, што абвясціў Аллаг, і да Яго Пасланніка, то ўбачыш, як аблуднікі адварочваюцца ад цябе з агідай".

63. І як жа тое будзе, калі пасцігне іх якаясьць нядоля за тое, што раней зрабілі іх рукі. І калі яны пасля прыйдуць да цябе, клянучыся імем Аллага, гаворачы: "Мы не хацелі нічога, акрамя ўчынення дабра і аказання дапамогі".

64. Аллаг добра ведае тайны сэрца іх. Ты ў баку трымайся ад іх, а па магчымасці звярніся да іх са словамі пранікнёнымі.

65. І паслалі Мы Прарока не інакш, каб аказвалі яму падпарадкаванне па загаду Аллага. І калі б яны прыйшлі да цябе пасля таго, як прычынілі зло душам сваім і прасілі аб дараванні Аллага, і каб Пасланнік таксама прасіў аб тым, каб ім дараваў, то, сапраўды, знайшлі б яны Аллага, які Міласэрны і зварот да Яго прымае.

66. Але не. Клянуся імем Аллага. Яны не паверацъ, пакуль не паставяць яны Цябе суддзёй ва ўсім, аб чым яны спрачаюцца паміж сабою, і пакуль у іх сэрцах не будзе супраціву супроць рашэння Твайго, і не аддадуцца з поўнай пакорай.

67. І каб... "Мы загадалі ім: "Аддавайце сваё жыццё" або "Пакіньце свае хаты", - то толькі нямногія з іх маглі б гэта зрабіць. І калі б яны зрабілі ўсё, чаму навучаюць, для іх гэта было б лепш і ўмацавала б іх становішча і веру,

68. І далі б Мы ім Вялікую Узнагароду ад Сябе,

69. І павялі бы іх Дарогай Простай.

70. А хто слухае Аллага і Яго Пасланніка, будзе разам з тымі, каму Аллаг аказаў ласку Сваю, а менавіта: з Прарокамі і Праведнікамі, з пакутнікамі і святымі, слугамі Аллага, якія раздавалі тое, чым Ён іх надзяліў.

71. Вось такая шчодрасць Аллага, дастатковая для Яго, што ўсё Ён ведае.

**72.** О вы, хто вернікі. Вы захоўвайце асцярожнасць на вайне і рухайцеся наперад ці асобнымі шарэнгамі, ці ўсім складам.

**73.** І абавязкова знойдуцца сярод вас такія, хто ззаду, і калі нядоля спасцігне вас, ён кажа: "Сапраўды, Аллаг быў літасцівы да мяне, бо мяне не было з імі".

**74.** Але, калі пашле вам Аллаг якую-небудзь удачу, ён кажа: "Калі б я разам з імі быў, дасягнуў вялікага поспеху".

**75.** Значыць, няхай змагаюцца ў імя Аллага тыя, хто гатовыя аддаць сваё цяперашняе жыццё за жыццё будучае. І таму, хто змагаецца ў імя Аллага, загіне ён ці пераможа і застанецца жывым, неўзабаве даруем Мы ўзнагароду вялікую.

**76.** І што здарылася з вамі, што не змагаецеся вы ў імя Аллага дзеля слабых - мужчын, жанчын і дзяцей - просячых ратунку: "Уладыка наш, вывядзі нас з горада гэтага, населенага прыгнятальнікамі, і дай нам апякуна ад Цябе і пастаў нам ад Цябе памочніка".

**77.** Тыя, хто вернікі, змагаюцца ў імя Аллага, а тыя, якія не вераць, змагаюцца ў імя Шайтана. Дык змагайцеся супроць сяброў Шайтана; сапраўды, слабыя ваенныя задумы Шайтана.

**78.** Ці ж ты не ведаеш пра тых, якім было сказана: "Не давайце волю рукам вашым, выконвайце рэгулярна малітву, давайце міласціну для ачышчэння". Калі ж пасля прадпісана ім было ваяваць, то частка з іх, баючыся людзей такім ці нават большым страхам, чым Аллага, прасіла Аллага: "Уладыка наш! Навошта Ты прадпісаў нам ваяваць. Чаму не даеш нам адтэрміноўку". Скажы: "Малая карысць ад гэтага міру, і Будучае Жыццё будзе лепш для тых, хто баіцца Аллага; і не будзе вам крыўды нават на шалупінку фініка".

**79.** І дзе б вы ні знаходзіліся, вас спаткае смерць, калі б вы нават схаваліся ў высокіх вежах. Калі здараецца добрае з імі, тады кажуць яны: "Гэта - ад Аллага". І калі што дрэннае здараецца з імі, яны кажуць: "Усё ад Аллага. Што здарылася з людзьмі гэтымі, што так далёкія яны ад усякага разумення".

**80.** Усё добрае, што здараецца з табою, прыходзіць ад Аллага; усё дрэннае, што здараецца з табой, ідзе ад цябе самаго. І Мы паслалі цябе Сваім пасланнікам (каб ты іх пераконваў). І дастаткова Аллага як Сведкі.

**81.** І хто пасланніку паслушны, паслушны і Самаму Аллагу. А хто пойдзе, адвярнуўшыся (што ж...), цябе не пасылалі Мы апекуном іх набожнасці.

**82.** І кажуць яны: "Пакорнасць - асноўнае наша правіла; але калі пойдуць ад цябе, некаторыя з іх праводзяць ноч, раздумваючы зусім аб іншым, аб чым ты гаварыў. Але Аллаг ведае аб гэтых іх начных задумах. Ты ў баку ад іх будзь і Аллагу даверся. Яго, як Паручыцеля, дастаткова".

**83.** Дык ці не падумаць ім над Кур'анам. Не будзь Кур'ан ад Аллага, не прамінулі б яны знайсці ў ім супярэчнасці.

**84.** Калі паўстае якое-небудзь пытанне перад імі, якое не выклікае трывогі і не нясе небяспеку, яны аб гэтым тут жа абвяшчаюць. А калі б паставілі яны аб гэтым пытанне Пасланніку на суд, ці перад тым, хто мае між імі ўладу і можа зрабіць з гэтага праўдзівую выснову, уразумелі б яны. І калі б не благадаць Аллага на вас і не міласць Яго, пайшлі б вы за Шайтанам, акрамя нямногіх.

**85.** І змагайцеся на шляху Аллага — і кожны не нясе адказнасці і за каго, акрамя як за самога сябе — і заахвочвай да гэтага вернікаў. Быць можа, Аллаг зменшыць зло нявернікаў, — бо Ён — Наймацнейшы ў Сваёй моцы, Нацмайнейшы ў пакаранні Сваім.

86. І хто спрыяе добрай справе, той за гэта атрымае ўзнагароду, а хто ўдзельнічае ў дрэннай справе, той будзе пакараны за гэта. Аллаг, сапраўды, вядзе ўлік усяму.

87. Аллаг! Няма боства, акрамя Яго. Сапраўды, Ён усіх вас збярэ ў Дзень Уваскрошання, у якім няма ніякага сумнення. Хто ў слове можа быць больш праўдзівы чым Аллаг?

88. Аллаг ёсць Той, акрамя Каго ніхто не варты пакланення. Сапраўды, Ён будзе прадаўжаць збор вас у адно да Дня Ўваскрошання, які адбудзецца без усякага сумнення. І чыё слова больш праўдзівае, чым слова Аллага?

89. І што здарылася з вамі, што вы падзяліліся на два бакі ў адносінах да аблуднікаў? І Аллаг пакараў іх за тое, што яны гэтага заслужылі. Дык няўжо вы хочаце наставіць тых на Прамы Шлях тых, каго Аллаг пагубіў? І каго пагубіць Аллаг, для тых не знойдзеш ты Прамога Шляху.

90. Аблуднікам хацелася б, каб вы сталі такімі ж няверт нікамі, як яны, — каб з імі былі вы аднолькавымі. Вы іх не бярыце сабе ў сябры, пакуль не пераселяцца яны, ідучы па шляху Аллага. А калі яны адвернуцца і здрадзяць вам, то дзе б вы іх ні знайшлі, хапайце і забівайце іх; і не бярыце ніколі з іх ні сябра, ні памочніка сабе, -

91. Акрамя тых, каторыя звязаны з тым народам, што знаходзіцца ў саюзе з вамі, або тых, каторыя прыдуць да вас, калі сэрцы іх супраць барацьбы з вамі, або барацьбы з народам іх. І каб хацеў Аллаг, Ён даў бы ім уладу над вамі і сталі б яны з вамі ваяваць. І калі, не ваюючы з вамі, яны ад вас адступяць і прапануюць мір, Аллаг не дазваляе вам пачынаць вайну супраць іх.

92. Сярод крывадушнікаў вы і другіх знойдзеце, якія хочуць увайсці да вас у давер, і да свайго народа. Але кожны раз, калі іх заклікаюць да смуты, яны з гатоўнасцю ўключаюцца ў яе. І раз яны ад вас не адыйдуць у бок, не прапануюць вам мір і не стрымаюць рук сваіх, то дзе б вы іх ні знайшлі, хапайце іх, аддавайце смерці — Мы вам над імі аддаём уладу.

93. Не след верніку забіваць верніка. І хто незнарок забівае верніка, няхай вызваліць верніка-нявольніка і заплаціць нашчадкам забітага яго цану крыві, калі яны не адмовяцца ад таго з міласціны. Але калі забіты належыць да народа варожага вам, але вернік, тады няхай віноўнік вызваліць верніка-нявольніка; а калі ён належыць да народа, з якім у вас ёсць мірная дамова, тады няхай вінаваты заплаціць цану крыві нашчадкам яго, і вызваліць верніка-нявольніка. Але хто не мае сродкаў, няхай посціць два месяцы запар — гэта міласць Аллага. А Аллаг Усёвед, Мудры.

94. А хто забівае верніка знарок, таму адплатай будзе пекла, дзе ён будзе знаходзіцца. Гнеў Аллага будзе на ім і Аллаг пракляне яго і прызначыць яму кару.

95. О вы, вернікі! Калі на шляху Аллага адпраўіцеся ў паход, абачліва паводзьце сябе, — таму, хто з мірам сустрэне вас у дарозе, — не кажыце: "Ты — няверны", жадаючы заўладаць дабротамі бліжняга жыцця. У Аллага шмат багацця і даброт. Раней вы былі такімі, пакуль вас не памілаваў Аллаг. І таму абачлівымі будзьце, ведамы Аллагу ўчынкі вашыя.

96. І між сабою з вернікаў не зраўняюцца тыя, хто сядзіць спакойна дома і не нясе страт, і тыя, хто на шляху Аллага ўсе сілы аддае, дабро сваё і жыццё. Аллаг уздыме іх на ступень вышэй за тых, хто дабро сваё і сілы аддае над тымі, хто застаўся дома. Усім абяцаў Аллаг добрае, але тым, хто на Яго шляху шчыруе (за веру), Ён адрозніў перад тымі, хто сядзіць у хатах, узнагародай вялікай.

**97.** Прыблізіць іх на многія ступені да Сябе праз прабачэнне і міласэрнасць. Сапраўды, Аллаг Прабачлівы і Міласэрны.

**98.** Калі ж анёлы возьмуць на ўпакой тых, хто сябе ў зямных страсцях несправядлівасць учыніў, яны ім скажуць: "У якім становішчы вы былі?" Адкажуць яны: "Мы былі слабымі на зямлі". І скажуць анёлы: "Няўжо зямля Аллага цесная, што вы не маглі ад нечысці перасяліцца (як зрабілі гэта некаторыя мекканцы, якія перасяліліся ў Медыну)?". Для іх — пекла будзе прытулкам, — якое ж дрэннае гэта месца знаходжання —

**99.** Акрамя слабых з мужчын, жанчын і дзяцей, хто прыстроіцца не можа (да цяжкасцей зямной мітусні) і не знаходзіць Дарогі Простай.

**100.** Ім, можа быць, даруе Аллаг, які адпушчае і прабачае.

***(Працяг Суры — у наступным нумары)***

# З ХАМАІЛА

**Прышоўшы пасля гуслявання на мізар чытаць:**

АССАЛЯ́МУН А́ЛЕЙКЮМ Я Э́ГЛІЛЬ КУБУ́Р АЛЕ́ЙКЮМУС — САЛЯ́МУ Я СУДУ́Р РЭ́ХМАТУЛ - ЛА́ГІ ВА БАРАКЯ́ТУГУ.

اَلسَّلَامُ عَلَيْكُمْ يَا أَهْلِ الْقُبُورِ عَلَيْكُمُ السَّلَامُ يَا صُدُورْ
رَحْمَةُ اللّٰهِ وَبَرَكَاتُهُ

**І далей, узняўшы рукі, чытаць:**

БУДУНЬЯ́ ФА́НІ́ КЕЧКЕ́НЬ БУ́ МАКА́МДАНЬ ЯТАҐА́НЬ ЛЕР НІ́Н РУ́ХЫ́ УЧУ́НЬ Я РЭ́ББІ У́ЗЬ РЭХМЕ́ТЫКЕ СЕНЬ ЯРЛІҐА́ ҐЫЛЬ БІРЭХМЕ́ТЫКЕ Я Э́РХАМУР — РА́ХЫМІ́НА АЛЬХА́МДУ ЛІЛЛЯ́ГІ РЭ́ББІЛЬ А́ЛЯМІН.

بُودُنْيَادَانِي كَچْكَنْ بُومَقَاصْدَنْ يَتْغَانْ لَرْنِينْ رُوحِي

اُوچُونْ يَارَبِّ اُوزْ رَحْمَتِكْ سَنْ يَرْلِغَاغِيلْ بِرَحْمَتِكَ

يَا اَرْحَمَ الرَّاحِمِينَ اَلْحَمْدُ لِلّٰهِ رَبِّ الْعَالَمِينَ ❀

Паклаўшы на магілу правую руку, чытаць (гэта ў выпадку, калі хочаш успомніць канкрэтнага чалавека, пахаванага ў гэтай магіле):

Я МА́ЎШЫРАЛЬ ДЖЫ́ННІ ВА-ЛЬ-І́НСІ ІНІ́С - ТАТА́ЎТУМ АН ТАНФӮЗУ́ МІН АКТА́РЫС-СЕМАВА́ТЫ ВА́ЛЬ-Э́РДЫ ФАНФІЗУ ЛЯ ТАНФІ̄ЗУ́НА ІЛЛЯ́ БІСУЛЬТА́НІН ФАЛЯ́ ТА́ ХӮЗУГУ́ЛЬ А́ЛІЙЮЛЬ А́ЗЫ́М.

يَا مَعْشَرَ الْجِنِّ وَالْاِنْسِ اِنِ سْتَطَعْتُمْ اَنْ تَنْفُذُوا مِنْ

اَقْطَارِ السَّمٰوَاتِ وَالْاَرْضِ فَانْفُذُوا لَا تَنْفُذُونَ اِلَّا بِسُلْطَانٍ

فَلَا تَأْخُذُهُ الْعَلِيُّ الْعَظِيمُ ❀

І далей, паклаўшы руку на магілу, чытаць:

БІСМІЛЛЯ́ГІ-Р-РАХМА́НІР-РАХЫ́М.

АССАЛЯ́МУН А́ЛЕ́ЙКЮМ Я Э́ГЛІ. ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ Я́ ЭГЛІ. КЯ́ЙФА ВА-ДЖА́ЛЛЯ С̄УММА КА́ЎЛЯ ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ Я Э́ГЛІ. ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ БІХА́ККЫ.

ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ ВАХШУРНА́ МА А́ГУ́М ФІ́ ЗЮМРАТЫС-СА́ЛІХЫНЬ.

ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ ІҒФІРЛІ́ ЛІМА́Н КА́ЛЯ. ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ МУХАММЕ́Д РАСУ́ЛЮЛ-ЛА́ГУ СА́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ А́ЛЕЙГІ ВА СЕЛЛЕ́М. ЛЯ́ ІЛЯ́ГА І́ЛЛЕЛ-ЛА́ГУ ВА-ЛЛА́ГУ ЭКБЕ́Р, АЛЛА́ГУ

ЭКБЕР ВА-ЛІ́ЛЛЯГІ-ЛЬ-ХА́МДУ. ВА́ ГУВА́ ʼАЛЯ́ КЮЛЛІ ШАЙІН
КАДЫ́РУЎ ВА-ІЛЕ́ЙГІ-ЛЬ МАСЫ́Р. А́ЛЛАГУ́ММЕ ІННІ́ ЭСЬЭ́ЛЮКЕ
ВА БІХА́ККЫ МУХА́ММАДЫН ВА ʼАЛЯ́ А́ЛІ МУХА́ММЕД АН ЛЯ́
ТУʼА́ЗЗІБНІ (для мужЎыны- ГАЗА́ЛЬ МЕ́ЙИТЫ) (для жанЎыны -ГАЗА́ЛЬ МЕЙІТА́ТЫ) СЮБХА́НАЛ- ЛА́ГУ
ВА БІХА́МДЫГІ. А́ЛЛАГУ́ММЕ БА́РЭКЛІ ФІЛЬ-МЕ́ЎТЫ ВА ФІ́МА
БА́ЎДАЛЬ МЕ́ЎТЫ БІРЭХМЕ́ТЫКЯ Я Э́РХАМУР-РА́ХЫМІНА
ВАЛЬХА́МДУ ЛІЛЛЯ́ГІ РЭ́ББІЛЬ ʼА́ЛЯМІН.

---

بسم الله الرحمن الرحيم

السلام عليكم يا أهل ❀ لا إله إلا الله يا أهل ❀ كيف وجد
تم قول لا إله إلا الله يا أهل ❀ لا إله إلا الله بحق ❀ لا
إله إلا الله وحشرنا معهم في زمرة الصالحين ❀ لا إله إلا
الله اغفر لي لمن قال ❀ لا إله إلا الله محمد رسول الله

---

صلى الله عليه وسلم ❀ لا إله إلا الله والله أكبر الله
أكبر ولله الحمد ❀ وهو على كل شيء قدير وإليه
المصير ❀ اللهم إني أسألك بحق محمد وعلى آل
محمد ❀ أن لا تعذبني (هذا الميت — муж.) (هذه الميتة — жен.) سبحان
الله وبحمده ❀ اللهم بارك لي في الموت وفيما بعد
الموت برحمتك يا أرحم الراحمين والحمد لله رب
العالمين ❀

Над магілай нябожчыка таксама раіцца чытаць:

БІСМІЛЛЯ́ГІ-Р-РАХМА́НІ-Р-РАХЫ́М.

АЛЛАГУ́ММЕ СА́ЛЛІ 'АЛЯ́ МУХА́ММАДЫН МА ДА́МАТЫ-ЛЬ БАРАКЯ́ТЫ. ВА СА́ЛЛІ 'АЛЯ́ РУ́ХЫ МУХА́ММАДЫН ФІ́ЛЬ АРВА́ХЫ. ВА СА́ЛЛІ 'АЛЯ́ ХАСЬРАТЫН ФІ́ЛЬ АХСА́РЫ. ВА СА́ЛЛІ 'АЛЯ́ КА́БРЫГІ ФІ́ЛЬ КУБУ́РЫ. БІРЭХМЕ́ТЫКЕ Я Э́РХАМУ-Р-РА́ХЫМІ́НА, ВАЛЬ-ХА́МДУ ЛІЛЛЯ́ГІ РЭ́ББІЛЬ 'АЛЯМІН.

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ

اَللّٰهُمَّ صَلِّ عَلٰى مُحَمَّدٍ مَادَامَةِ الْبَرَكَاتِ ۞ وَصَلِّ عَلٰى رُوحِ

مُحَمَّدٍ فِى الْاَرْوَاحِ ۞ وَصَلِّ عَلٰى حَسْرَتٍ فِى الْاَحْسَارِ ۞ وَصَلِّ

عَلٰى قَبْرِهِمْ فِى الْقُبُورِ ۞ بِرَحْمَتِكَ يَا اَرْحَمَ الرَّاحِمِينَ ۞

وَالْحَمْدُ لِلّٰهِ رَبِّ الْعَالَمِينَ ۞

Выходзячы з мізара чытаць:

АЗ̄ КЯ́РРАХАРА́ДЖТА ФІ-Д-ДА́РЫ-Д-ДУ́НЬЯ АЛЕ́ЙКЮМУС-САЛЯ́МУН ШАГА́ДАТАН АН ЛЯ́ ІЛЯ́ГА ІЛЛЕЛ-ЛА́ГУ ВА А́ННА МУХА́ММАДАН РАСУ́ЛЮЛ-ЛА́ГУ РАТА́ЙТУ БІЛЬ-ЛЯ́ГІ РА́ББАН ВА БІ́ЛЬ-ІСЛЯ́МІ ДЫ́НАНЬ ВА-БІ-МУХАММАДЫ НІ́ЛЬ МУСТАФА́ САЛЛЕ-Л-ЛАГУ 'АЛЕ́ЙГІ ВА СЕ́ЛЛЕМ РАСЮ́ЛЯН НАБІ́ЙЯЎ ВА БІ́ЛЬ-КУР'А́НІ ІМА́МА.

اَذْكَرْ خَرَجْتَ فِى الدَّارِ الدُّنْيَا عَلَيْكُمُ السَّلَامُ شَهَادَتًا اَنْ

لَا اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ وَاَنَّ مُحَمَّدًا رَسُولُ اللّٰهِ رَضِيتُ بِاللّٰهِ رَبًّا وَبِالْاِسْلَامِ

دِينًا وَبِمُحَمَّدٍ الْمُصْطَفٰى صَلَّى اللّٰهُ عَلَيْهِ وَسَلَّمَ رَسُولًا نَبِيًّا

وَبِالْقُرْاٰنِ اِمَامًا ۞

Г̄ — цвёрдае (рускае) Г.

*Заўвагі:* Г — мякkае (беларускае) Г.

ʼА — мяккае А.

С̄, З̄ — С і З вымаўляецца, калі язык знаходзіцца крышачку між зубамі.

# МЫ ПАМЯТАЕМ ПРА ТЫХ, ХТО ЗМАГАЎСЯ З ВОРАГАМ

Гэтым летам народ Беларусі ў 50-ы раз адзначае дзень вызвалення сваёй зямлі ад фашысцкай навалы. Паўвека прайшло з тых незапамятных часін. Здавалася, падзеі апошняй вайны павінны былі б паступова адыходзіць у нябыт, бо вырасла ўжо не адно пакаленне, якое ведае пра вайну толькі па кніжках ды кіно, а ўдзельнікаў і сведкаў той вайны становіцца ўсё менш і менш. Магчыма, дзе-небудзь такое і мае месца, але толькі не на Беларусі. Для нас гэта вайна надоўга застанецца ў памяці як незабыўны, вечны боль. Наўрад ці знойдзецца на Беларусі сям'я, у якой хто-небудзь з блізкіх не загінуў ці прапаў без вестак на той вайне. Няўрад ці знойдзецца вёска, мястэчка, дзе б не было брацкай магілы, помніка ці абеліка. У гады вайны на тэрыторыі Беларусі акупанты стварылі больш за 260 лагераў смерці, у мястэчках і буйных гарадах існавалі гета, куды зганялася яўрэйскае насельніцтва перад яго масавым знішчэннем. Акупанты правялі на Беларусі больш як 140 буйных карных аперацый супраць партызан і насельніцтва партызанскіх зон і раёнаў, у выніку чаго былі знішчаны сотні вёсак разам з жыхарамі, цэлыя раёны былі ператвораны ў пустынныя зоны. За час акупацыі захопнікі знішчылі на Беларусі звыш 2,2 млн. чалавек, каля 400 тыс. вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Беларусь была пастаянным полем боя: праз яе тэрыторыю

толькі пры вызваленні праходзілі тры франты, у назве якіх было найменне "Беларускія". Яшчэ адзін фронт, нябачны, дзейнічаў у час акупацыі ў тыле ворага. Рух Супраціўлення акупантам на Беларусі налічваў звыш 70 тыс. чалавек у падпольных антыфашысцкіх арганізацыях, якія былі створаны ў асноўным камуністамі і камсамольцамі ў буйных гарадах, мястэчках і нават вёсках, звыш 370 тыс. байцоў у 1255 партызанскіх атрадах, якія ў сваю чаргу аб'ядноўваліся ў партызанскія брыгады (на Беларусі іх налічвалася 213), злучэнні. Існавалі цэлыя партызанскія зоны і раёны, дзе была адноўлена савецкая ўлада, дзейнічалі яе інстытуты.
У верасні-кастрычніку 1943 года Чырвоная Армія пачала вызваленне Беларусі, якое было завершана летам 1944 года. У баях за вызваленне беларускай зямлі вызначыліся прадстаўнікі амаль усіх народаў былога СССР, у т.л. і татарскага - 23 з іх было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза менавіта за ўдзел у вызваленні Беларусі. Іх біяграфіі, разам з біяграфіямі іншых герояў, уключаны ў Беларускую Энцыклапедыю, пра іх гаворыцца на старонках розных кніг, у т.л. такіх як "Навечно в сердце народном" (энцыклапедычны даведнік, які вытрымаў 3 выданні), гісторыка-дакументальныя хронікі "Памяць", у якіх таксама паімённа названы і тыя, хто загінуў за Беларусь у партызанах, падполлі, на франтах, ахвяры фашысцкага тэрору. Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" ужо выпусціла 11 такіх кніг, яшчэ каля дзесятка рыхтуецца да друку, у т.л. і іншымі выдавецтвамі. На жаль, і па сённяшні дзень застаюцца невядомымі прозвішчы тысяч салдат, што ляжаць у беларускай зямлі. Многія з іх ляжаць там, дзе і загінулі, непахаванымі. Іх пошукам і перапахаваннем займаюцца спецыяльна створаныя з ліку энтузіястаў маладзёжныя пошукавыя атрады. Час ад часу вайна нагадае пра сябе выбухамі міны на

ўзараным полі ці снарада ў руках заўсёды дапытлівых хлапчукоў, і тады лік ахвяр вайны, праз 50 год пасля яе сканчэння, павялічваецца яшчэ на некалькі адзінак. Не, не хутка сатрэцца вайна ў памяці людзей Беларусі. Занадта вялікай цаной заплацілі яны за 50 гадоў міру на гэтай зямлі.

## У БАЯХ ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ АКУПАНТАЎ

У гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі змагаліся з ворагам многія мільёны савецкіх грамадзян. У баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі за вызвыленне Беларусі загінула больш за 600 тыс. салдат і камандзіраў Чырвонай Арміі (без уліку ваеннапалонных, якіх па-зверску замучылі нямецкія фашысты).

Патрыёты нашай вялікай радзімы здзейснілі подзвігі, якія былі адзначаны ордэнамі і медалямі. Прадстаўнікі сарака аднаго народа былі ўзнагароджаны Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза. Аналіз звестак пра Герояў Савецкага Саюза, надрукаваных у кнізе "Навечно в сердце народном" (Менск, 1977) паказаў, што герaічныя подзвігі, якія мелі непасрэдныя адносіны да нашай рэспублікі, здзейснілі 1994 чалавекі — 309 беларусаў (у т. л. пры вызваленні іншых тэрыторый), 1196 рускіх (сярод іх некалькі дзесяткаў ураджэнцаў Беларусі), 251 украінец (некалькі дзесяткаў ураджэнцаў Беларусі), 37 яўрэяў (пераважна ўраджэнцы Беларусі), 27 казахаў, 23 татарыны, 20 узбекаў, 17 башкіраў, 12 мардоўцаў, 11 армян, 9 грузінаў, 8 чувашоў, 6 азербайджанцаў, па 5 чалавек — прадстаўнікоў асецінаў і туркменаў, 4 французы, па 3 прадстаўнікі ад кыргызаў, марыйцаў. палякаў, таджыкаў, па 2 чалавекі ад удмуртаў, якутаў, народа комі. Сярод

кавалераў Залатой Зоркі, якія здзейснілі гераічны подзвіг на Беларусі, ёсць алтаец, іспанец, калмык, карачаевец, карэл, кабардзінец, комі-пярмяк, кумык, лакцы, латыш, літовец, малдаванін, нанаец, нагайбак, славак, чачэнец, цюрк, шорац. Васемнаццаць Герояў Савецкага Саюза, што здзейснілі подзвіг на Беларусі, не вызначылі сваю нацыянальнасць.

Абарона нашай Айчыны ад нямецка-фашысцкага агрэсара была справай усеагульнай, святой.

## БЕЛАРУСЬ МНЕ ВЕДАМА З 1944 ГОДА: ТУТ ДАВЯЛОСЯ МНЕ ВАЯВАЦЬ І ЖЫЦЬ

*(расказ крымскага татарына)*

У 1953 годзе з дэсантных войск я быў пераведзены ў танкісты і, асвоіўшы спецыяльнасць афіцэра-танкіста, выехаў у Ніжні Тагіл па танкі. Мяне прызначылі начальнікам эшалона, у якім павінна было быць 30 баявых машын Т-34-85. Гэта была выдатная тэхніка! Маса гэтага сярэдняга танка 32 т, экіпаж 5 чалавек, гармата калібру 85 мм (прабівала браню нямецкіх танкаў нават з адлегласці 1 км), 2 кулямёты, таўшчыня бранi — 45-90 мм, максімальная хуткасць па дарозе 55 км/г, запасу паліва ў баках хапала на 420 км шляху.

Што азначала прыняць танкі на заводзе? Гэта стварыць экіпажы, падабраць іх так, каб у час бою яны разумелі адзін аднаго нават без слоў. Трэба было кожнаму экіпажу ў максімальна набліжаных да баявых умовах праверыць спраўнасць тэхнікі і ўзбраення. Вядома, многія раней удзельнічалі ў баях, амаль усе былі паранены. Навічкі механікі-вадзіцелі мелі вельмі малы вопыт, толькі па некалькі дзесяткаў гадзін ваджэння.

Калі ж я пабываў у цэхах, дык у мяне ўжо адпала ахвота нават у думках папракаць каго-небудзь за недастатковую падрыхтоўку экіпажаў. Працавалі толькі старыя мужчыны, жанчыны і дзеці, якія не даставалі да прылад і падстаўлялі пад ногі скрынкі. Усе былі схуднелыя ад голаду і знясільвачай працы. Усе яны прасілі нас біць ворага. Дык што ж заставалася нам? Вучыцца гэтыя апошнія дні перад адпраўкай эшалона да поўнай знямогі, ваяваць на фронце не шкадуючы свайго жыцця, каб знішчыць ворага.

Прывёўшы эшалон да месца прызначэння, я атрымаў загад заняць пасаду камандзіра танкавай роты (10 баявых машын) 350-га танкавага батальёна 159-й танкавай брыгады 1-га Прыбалтыйскага фронту.

Першы бой пад маім кіраўніцтвам новая рота прыняла каля Віцебска. Як мы даведаліся пазней, гэта была Віцебска-Аршанская аперацыя 1944 года — састаўная частка аперацыі "Баграціён" па вызваленню Беларусі. У Віцебска-Аршанскай аперацыі, мэта якой — разгром левага крыла (3-я танкавая і 4-я палявая арміі) нямецка-фашысцкай групы армій "Цэнтр" (камандуючы генерал-фельдмаршал Э. Буш) — бралі ўдзел 1-шы Прыбалтыйскі фронт (камандуючы генерал арміі І. Х. Баграмян) і 3-ці Беларускі фронт (камандуючы генерал-палкоўнік І. Д. Чарняхоўскі).

Вайна — гэта не шахматны турнір, калі сапернікі могуць выбіраць месца і час гульні. Для нашых танкістаў тут былі надзвычай складаныя ўмовы. Нямецка-фашысцкія войскі, выкарыстоўвалі ўмовы лясістай мясцовасці з шырокімі забалочанымі ляснымі поймамі. Глыбіня створанага імі абарончага рубяжа (немцы называлі яго "Пантэра") складала 20-45 км. Магчымыя месцы прарыву нашымі танкамі былі немцамі замініраваны і прыстраляны супрацьтанкавымі гарматамі.

22 чэрвеня, напярэдадні наступлення галоўных сіл франтоў (гэта была якраз трэцяя гадавіна пачатку Вялікай Айчыннай вайны) праводзілася разведка боем перадавых батальёнаў. У ноч на 23 чэрвеня праведзена папярэдняя авіяцыйная падрыхтоўка сіламі дзвюх армій (3-я паветраная генерал-лейтэнанта М. П. Папівіна і 1-я паветраная генерал-лейтэнанта М. М. Громава).

Ранкам 23 чэрвеня пасля артылерыйскай падрыхтоўкі галоўныя сілы франтоў перайшлі ў наступленне. У першы дзень абарона ворага на паўночным захадзе і поўдні Віцебска была прарвана на глыбіню 10-16 км. Развіваючы наступленне, войскі 43-й і 39-й армій 26 чэрвеня вызвалілі Віцебск. У раёне горада былі акружаны і рассечаны на 2 часткі 5 дывізій 3-й танкавай арміі гітлераўцаў. Непрыяцель страціў каля 20 тысяч салдат і афіцэраў забітымі і каля 10 тысяч — палоннымі, шмат зброі і тэхнікі. Працягваючы наступленне, да 28 чэрвеня войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту выйшлі на рубеж 30 км на паўднёвы ўсход ад Полацка, Лепеля.

Танкісты ў гэтых баях, нягледзячы на вялікія цяжкасці, разам з іншымі войскамі на сваіх баявых машынах здзейснялі масавы гераізм. У маёй роце былі падбіты 4 танкі, але мы і пасля гэтага лічыліся танкавай ротай і выконвалі задачы паўнацэннай баявой часці.

Далей наш 1-шы Прыбалтыйскі фронт удзельнічаў у Шаўляйскай аперацыі і ў баях за ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

Калі ў маёй роце засталіся толькі тры баявыя машыны, камандаванне накіравала мяне за танкамі ў Сталінград. Адтуль я ўжо трапіў на Украіну, быў адным з першых танкістаў 1-га танкавага корпуса Войска Польскага. Пад Варшавай 11 лістапада 1944 г. атрымаў званне маёра. У 1946 г. вярнуўся з Польшчы ў Беларускую ваенную акругу, у 1951 г. прысвоена званне падпалкоўніка. За амаль 30 гадоў вайсковай службы атрымаў 25 ордэнаў і

медалёў, некалькі разоў быў паранены (асколкі і цяпер глыбока заселі ў маім целе), мучыць боль у руцэ і хрыбетніку. Дзякуй Аллагу, што дажыў да гэтага часу, выгадаваў дзяцей, дачакаўся ўнукаў.

У маі гэтага года ў рэдакцыю "*Байрама*" прыслала ліст адна з татарак са Смілавічаў. Яна прапанавала напісаць у нашым квартальніку імёны тых мястачкоўцаў, якія ваявалі з ворагам у Вялікую Айчынную вайну. Дзякуй за цікавую прапанову. Спадзяемся, што гэта прапанова знойдзе падтрымку ва ўсіх татар Беларусі і пра ўсіх татар нашай шматпакутнай Радзімы.

## УДЗЕЛЬНІКІ І АХВЯРЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ З ЛІКУ СМІЛАВІЦКІХ ТАТАР

***Асановіч Сюлейман**, сын Мяр'емы і Хасеня.* Нарадзіўся ў 1925 годзе, у арміі з ліпеня 1944 года. Закончыў вайну ў Германіі. Жыве ў Смілавічах.

***Асановіч Бекір**, сын Мяр'емы і Хасеня.* Нарадзіўся ў 1920 годзе, у арміі з ліпеня 1944 года. Закончыў вайну ўГерманіі.

***Ільясевіч Мухась**, сын Зоні і Сафара.* Нарадзіўся ў 1901 годзе. У арміі з ліпеня 1944 года. Загінуў ў жніўні 1944 года, пахаваны ў Аўгустоўскіх лясах (Польшча).

***Ільясевіч Мустафа**, сын Аміні і Мухася.* Нарадзіўся ў 1926 годзе. У арміі з ліпеня 1944 года. Закончыў вайну ў Германіі. Памёр у 1994 годзе.

*Якубоўскі Алей, сын Сюлеймана.* Нарадзіўся ў 1926 годзе. У арміі з ліпеня 1944 года. Быў паранены і кантужаны. Закончыў вайну ў Берліне. Жыве ў Смілавічах.

***Палтаржыцкі Мустафа**, сын Айшы і Сапара.* Нарадзіўся ў 1918 годзе. У арміі з 1938 года, танкіст. Загінуў без вестак у кастрычніку 1944 года.

***Палтаржыцкі Ібрагім**, сын Айшы і Сапара.* Нарадзіўся ў1925 годзе. У арміі з 1944 года. Прапаў без вестак у лютым 1945 года.

***Гімбіцкі Сюлейман**, сын Танзілі і Якуба.* Нарадзіўся ў 1917 годзе. Быў паранены ў час Савецка-фінскай вайны, у выніку чаго страціў зрок. Памёр у 1939 годзе ў Смілавічах.

***Канапацкі Алюнь**, сын Аміні і Сюлеймана.* Нарадзіўся ў 1924 годзе. У арміі з 1944 года. Загінуў без вестак у 1944 годзе.

***Хасяневіч Алюнь**, сын Хоты і Зэха.* Нарадзіўся ў 1911 годзе. Расстраляны фашыстамі ў 1941 годзе як камуніст.

***Канапацкі Алей**, сын Разаліі і Зэха.* Нарадзіўся ў 1923 годзе. У арміі з 1944 года. Паранены ў 1945 годзе. Памёр ў 1975 годзе.

***Канапацкі Алей**, сын Шарыфы і Мухася.* Нарадзіўся ў 1904 годзе. У арміі з 1944 года. Быў паранены. Закончыў вайну ў Познані (Польшча).

***Маеўскі Мустафа**, сын Зоні і Алеся.* Нарадзіўся ў 1900 годзе. У арміі з 1944 года. Быў двойчы паранены. У дзень перамогі быў у шпіталі. Памёр у 1978 годзе.

***Асановіч Самуіл**, сын Гэлі і Кубы.* Нарадзіўся ў 1912 годзе. Расстраляны фашыстамі ў 1943 годзе за сувязь з партызанамі.

***Асановіч Разалія**, дачка Айшы і Асмана.* Нарадзілася ў 1924 годзе. Расстраляна ў 1943 годзе фашыстамі за сувязь з партызанамі.

***Якубоўскі Векір**, сын Евы і Зэха.* Нарадзіўся ў 1906 годзе. У арміі з 1944 года. Вярнуўся дамоў у 1945 годзе.

***Александровіч Ібрагім**, сын Фатымы і Ісмаіла.* Нарадзіўся ў 1922 годзе. У арміі з 1941 года. Прапаў без вестак.

***Якубоўскі Ібрагім**, сын Евы і Зэха.* Нарадзіўся ў 1918 годзе. У арміі з 1944 года. Паранены і кантужаны. Закончыў вайну ў Берліне. Жыве ў Смілавічах.

***Асановіч Сюлейман***, *сын Фатымы і Амурата.* Нарадзіўся ў 1920 годзе. У арміі з 1939 года. Прапаў без звестак пад Масквой ў 1942 годзе.

***Асановіч Якуб***, *сын Фатымы і Амурата.* Нарадзіўся ў 1927 годзе. У арміі з 1944 года. Памёр у запасным палку ў 1945 годзе ад сухотаў.

***Карыцкі Салех***, *сын Зюгры і Сюлеймана.* Нарадзіўся ў 1901 годзе. У арміі з ліпеня 1944 года. Загінуў у жніўні 1944 года ў Аўгустоўскіх лясах (Польшча).

***Хасяневіч Сюлейман***, *сын Хоты і Алея.* Нарадзіўся ў 1922 годзе. У арміі з 1944 года. Удзельнік абароны Ленінграда, ваяваў у Германіі і з японцамі ў 1945 годзе.

***Хасяневіч Мустафа***, *сын Хоты і Алюня.* Нарадзіўся ў 1926 годзе. У арміі з 1944 года. Закончыў вайну ў 1945 годзе ў Германіі.

***Канапацкі Мустафа***, *сын Зюгры і Мэты.* Нарадзіўся ў 1921 годзе. У арміі з 1941 года. Закончыў вайну ў Германіі. Памёр у 1975 годзе.

***Канапацкая Разалія***, *дачка Зюгры і Мэты.* Нарадзілася ў 1924 годзе. Служыла ў арміі сувязісткай. закончыла вайну ў Германіі ў 1945 годзе.

***(Працяг будзе)***

# З УСПАМІНАЎ СЯМЁНА ЯСІНСКАГА

У гэтым нумары мы пачынаем змяшчаць матэрыялы з успамінаў аб пражытым Ясінскага Сямёна Давыдавіча ветэрана і інваліда Вялікай Айчыннай вайны, жыхара Мінска з 1945 года, ураджэнца вёскі Слабодка Капыльскага раёна. Матэрыялы складзеныя намі на падставе пачутага ў час размоў з Сямёнам Давыдавічам, сталым мужчынам, які ўзрушвае сваімі апавяданнямі. Воблік яго адразу паўстае перад вачыма, як толькі ўзнікае малейшы ўспамін аб гэтым чалавеку, сіла волі якога і

поўная адсутнасць фальшы робяць хоць якое-небудзь прыстасоўніцтва да субяседніка немагчымым.

Ён нарадзіўся ў 1925 годзе і няцяжка падлічыць колькі пражытых ім гадоў. Але лёс Ясінскага С.Д. нельга супастаўляць з колькасцю пражытых гадоў. Бо яго лёс ніяк не ўкладваецца ў адну прамую лінію. Не аднойчы ён перажываў пачуццё, што жыццё скончана, было такое, што і самому не хацелася жыць, асабліва пасля таго, калі Сямён Давыдавіч страціў семнаццацігадовую дачку. Цяжка яму ўспомніць светлыя моманты свайго жыцця. Але нам здаецца, што гады жыцця не прайшлі марна і што па глыбіні перажытага ён ужо паспеў прайсці не адно кола зямнога ўдасканалення. Напэўна таму такая чысціня і глыбіня ў яго вачах, таму такая цеплыня зыходзіць ад гэтага здавалася б акамянелага сэрца.

Цеплыню сэрца можна адчуць, ад вачэй цяжка адарвацца. Вочы ж у Сямёна Давыдавіча маюць колер блакітнага неба і гэтым так не падобны на вочы большасці нашых супляменнікаў. А ў дадатак яшчэ белыя пасмы валасоў. Гэтыя валасы і вочы, а таксама адкрытая ўсмешка робяць твар добрым, безмяцежным і зусім дзіцячым. але вось вочы тухнуць, усмешка знікае, а твар закрываюць вялікія мужчынскія далоні, дрыжаць плечы і плач вырываецца з грудзей магутнага чалавека. І тут адразу разумееш, што валасы ў яго зусім не белыя, а сівыя, і сівыя яны ўжо аказваецца амаль 40 гадоў. Плача ж ён па бацьку, якога бачыў апошні раз, калі быў пяцігадовым хлапчуком. За бацькам прыйшлі і арыштавалі як "ворага народа" ў 1930 годзе, а займаў Ясінскі Давыд (сын Мар'емы) на той час пасаду старшыні сельсавета. Яшчэ бацька быў добрым майстрам па вырабу скур. У памяці Сямёна Давыдавіча засталася яго шчуплая постаць, ласкавыя рукі і цеплыня каленяў, на якія бацька пасадзіў сына, развітваючыся з ім, як аказалася назаўсёды.

Памятае ён, як ездзіла маці ў Капыль, вазіла бацьку перадачы, пасля вяртання плакала і вельмі

шкадавала двух сваіх сыноў - старэйшага Сіму ( так называлі ў дзяцінстве Сямёна Давыдавіча) і малодшага Зэха (Захара). Імя "Сіма" замяняла больш афіцыйнае "Сямён" яшчэ доўгі час, а вось самае першае імя не прыжылося, дакладней не было прынята, нават высмейвалася суродзічамі. А хацела назваць яго маці Валодзем. Хто ведае, магчыма гэтае імя магло бы вызначыць і іншы лёс чалавеку, яго атрымаўшаму. Атрымалася ж так, што праз нядоўгі час пасля страты бацькі, у яго з'явілася другая, як прынята называць, малая радзіма. Прыехаў з Бярэзаня (Беразіно) татарын Аляксандр Байрашэўскі, пасадзіў усіх на павозку і павёз іх на кані да сябе ў Беразіно. Дарога была доўгай і цяжкай. Калі прыехалі ў Беразіно, то многія людзі спыняліся і ўглядаліся на іх, а можа хутчэй не на іх, а на карову, якая засталася ад бацькі і вылучалася сярод мясцовых сваімі вялікімі памерамі.

Жыццё ў новым доме было гаротным. Айчым быў чалавекам непісьменным, працаваў грузчыкам на прыстані на Беразіне, любіў выпіць, на дзяцей амаль што не звяртаў увагі. І тым цяжэй было прыслухацца да просьбаў маці: называць яго татам. Вельмі доўга звінелі ў вушах шэпты маці: слухайся, слухайся. Сын, шкадуючы маці, слухаўся. Да яго часцей заўсё і звярталіся за дапамогай, паважалі за працалюбства. А працы было шмат. Маці, маючы двух сваіх сыноў, прыйшла яшчэ на чацвярых дзяцей айчыма (Зіна, Муня, Зюня, Гэля), а потым нарадзілася яшчэ двое (Роза, Ясь). Так што ёсць у Сямёна Давыдавіча браты і сёстры трох ступеняў блізкасці. Маці аднолькава клапацілася пра ўсіх. Была яна добрасумленнай мусульманкай, вельмі набожнай. Ніколі не ўжывала ў ежу свініну. Нават калі вымушана была варыць яе для дзяцей, то прасіла каго-небудзь пакаштаваць. Для сябе ж трымала асобны посуд. Посуд быў вельмі просты: драўляныя лыжкі, гліняныя міскі, гаршчкі. Яшчэ больш простай была ежа. Хлеб елі толькі ў абед па кавалачку. Міска была агульная на ўсіх, лыжку

затрымліваць у ёй было нельга, каб не выбіраць лепшае. Выратоўвала лета: шчаўе, грыбы і ягады з лесу, яблыкі ўжо з завязі. Маці гандлявала расадай капусты, а пазней агуркамі, была майстрыцай у агародзе. З надыходам халадоў непакоіла не толькі тое, чым пракарміцца, але і як апрануцца. Вопраткі сваёй амаль не было, людзі прыносілі абноскі; да самых маразоў хадзілі босымі. А яшчэ па начах заядалі вошы; калі хочаш заснуць, трэба было перабіць іх. Пазбавіўшыся ад вашэй, таксама не надта выспішся. Што ж за сон на састаўленых лаўках і зэдліках?

Вельмі няпроста пералічваць гэтыя цяжкасці, Сямён Давыдавіч перажыў іх у сваім дзяцінстве. Таму і кажа, што дзяцінства ў яго не было. І ўсё ж такі гэта было жыццё, жыццё малога хлопчыка і падлетка, некаму таксама знаёмае, некаму амаль што не ўяўляемае, але ўсім нам неабыякавае.

*(Працяг будзе)*

## 50-Я ЎГОДКІ ГВАЛТОЎНАГА ВЫГНАННЯ ТАТАР З КРЫМА

18 траўня 1944 г. — сумная дата ў гісторыі крымскіх татар. Менавіта ў гэты дзень пачаўся жудасны генацыд і "окончательное решение" крымскататарскай праблемы. У гэтым годзе споўнілася 50 год з таго часу, як былі выгнаны з Крыма яго карэнныя насельнікі — крымскія татары. Гэтай памятнай у жыцці ўсіх татар і мусульман падзеі быў прысвечаны жалобны вечар, які праходзіў 18 траўня 1994 г. у памяшканні Беларускага таварыства культурных сувязей з замежнымі краінамі. На вячары прысутнічалі народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў, вядучы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі АН РБ доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы,

старшыня камісіі па замежных сувязях Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" Валянціна Трыгубовіч, пасол Турэцкай Рэспублікі спадар Тансу Акандан, атташэ турэцкага пасольства спадар Актай Дэмірай, супрацоўнік гэтага ж пасольства спадар Ахмет Аскан, члены рэдкалегіі Беларускай энцыклапедыі: загадчык рэдакцыі Віталь Скалабан, навуковы рэдактар Вячаслаў Юшкевіч, рэдактар Юры Бажэнаў, музыказнаўца Браніслаў Смольскі і яго сын кампазітар Аляксандр Смольскі, загадчык аддзела часопіса "Мастацтва" Вячаслаў Вайткевіч, дырэктар кінакарціны "Татары тутэйшыя" Марыя Кір`янава, кінарэжысёр Юры Лысятаў, тэлеаператар Валянцін Айдамет, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лашкевіч, дэлегаты курултая крымскататарскага народа прафесар Рэза Фурунжыеў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны падпалкоўнік Ісмаіл Меметаў, лётчык грамадзянскай авіяцыі Юнус Сетараў, дацэнты Ібрагім і Мустафа Канапацкія, вучоны-аграном Алія Усманава, настаўніца Мадзіна Абязава, рабочая Галіна Бабіцкая, прадстаўнікі польскага гарадскога культурна-асветнага таварыства "Палонія" Тамара Гарождзіна, Ганна Шчасная, Яніна Якубоўская, Ірына Дунай, Яніна Бразанская, Аляксандр і Амелія Вечаравы, кандыдат геолага-мінералагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік інстытута геалогіі АН РБ Таццяна Якубоўская, мусульмане г. Мінска. Усяго прысутнічала каля 100 чалавек.

Былі прачытаны аяты Свяшчэннага Кур`ана за душы нявінна загінуўшых пад час сталінскага генацыду. На вечары выступілі з сумнымі ўспамінамі аб тых падзеях крымскія татары Ісмаіл Меметаў і Чангар Умераў. З кароткай гісторыяй дэпартацыі народаў з Крыма пазнаёміў прысутных віцэ-прэзідэнт згуртавання "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі

На вечары выступілі прэзідэнт згуртавання "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, муфцій мусульман

Беларусі Ісмаіл Александровіч, пасол Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі спадар Тансу Акандан, народны дэпутат Валянцін Голубеў, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, рэдактар часопіса "Байрам" Якуб Якубоўскі, старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы, паэт Яўген Гучок, прадстаўнікі польскага культурна-асветнага таварыства "Палонія". Самадзейныя артысты Рэнат Мінгажэеў, Рэнат Хакімаў, Ісмаіл Меметаў праспявалі жалобныя татарскія песні. Вучаніца нядзельнай школы Аня Ждановіч прачытала вершы крымска-татарскай паэтэсы Лілі Буджуравай "Некуплены білет" і "Калі мы вернемся".

Удзельнікі жалобнай вечарыны прынялі зварот да народаў і ўрадаў мусульманскіх краін, а таксама да ўрадаў Расіі, Украіны і Беларусі з просьбай аб неадкладнай дапамозе татарскаму народу ў яго вяртанні і ўладкаванні на сваёй гістарычнай радзіме. Адбылася прэм`ера дакументальнага фільма "Татары тутэйшыя", створанага беларускім калектывам у складзе М. Кір`янавай (дырэктар), Ю. Лысятава (рэжысёр), М. Сідорчанка (кінааператар). Удзельнікі вечарыны атрымалі спецыяльна выдадзены да гэтай падзеі рэдакцыяй часопіса "Байрам" зборнік "Крымскія татары. 1944-1994", пакаштавалі садаку (цукеркі, печыва), якую падрыхтавалі члены згуртавання татарскай моладзі Р. Шавырава і Б. Радкевіч.

Ніжэй падаюцца прынятыя на вечарыне дакументы, а таксама справаздача аб гэтай падзеі ў беларускіх газетах, тэлеграма ў Крым муфція мусульман Беларусі ды інш.

*У імя Аллаха Міласцівага, Міласэрнага*

# ЗВАРОТ ДА НАРОДАЎ І ЎРАДАЎ МУСУЛЬМАНКІХ КРАІН СЬВЕТУ

У 1944 годзе крымскататарскі народ (карэннае мусульманскае насельніцтва Крыма) рашэннем савецкага ўраду і камуністычнай партыі СССР падвергся жорсткай рэпрэсіі — быў абрабаваны і гвалтоўна высланы за межы сваёй Радзімы. У выніку палітыкі генацыду, якая праводзілася савецкім урадам у адносінах да крымскіх татар, больш за 40% гэтага народа было фізічна вынішчана. Маёмасць крымскіх татар: зямля, будынкі, свойская жывёла, дамашнія рэчы і інш. раздаваліся рускім і іншым савецкім народам, якімі інтэнсіўна засялялі Крым. На крымскай зямлі былі разбураны помнікі ісламскай культуры, спалены кнігі на крымскататарскай мове, старажытныя тапонімы Крыма (старыя назвы гарадоў і пасёлкаў — больш за 1,5 тыс.) былі заменены на рускія назвы, разбураны ўсе мячэці і мазары (мусульманскія могілкі).

Гэтае варварства ў адносінах да мусульман бярэ пачатак з часоў захопу ў 1783 годзе Крыма Расійскай імперыяй. Але тое, што было здзейснена камуністычным рэжымам, а менавіта: пагалоўнае выгнанне з Крыма татар — з'явілася для крымскататарскага народа катастрофай. Над ім навісла рэальная пагроза гібелі, таму татары рушылі на сваю гістарычную радзіму — зямлю продкаў, нягледзячы на вялікія цяжкасці. Гэты народны паток падобны непераадольным сілам прыроды, яго спыніць немагчыма.

Крымскія татары горды і працалюбівы народ, але змучаны і абрабаваны больш шматлікай нацыяй, сёння мае патрэбу ў неадкладнай дапамозе.

Для таго, каб крымскататарскі народ здолеў арганізавана вярнуцца на сваю радзіму, аднавіць сваю дзяржаўнасць, узняць эканоміку і культуру, пабудаваць жыллё, школы, мячэці і інш., патрэбны матэрыяльныя і фінансавыя рэсурсы.

Мы звяртаемся да ўсіх мусульман. Не пакіньце ў бядзе нешматлікі (цяпер ужо нешматлікі) мусульманскі народ Крыма, дапамажыце яму вярнуцца на родную зямлю.

Прынята на жалобнай вечарыне
18 траўня 1994 г.
г. Мінск, 21 гадзіна 30 мінут.

# ДАДАТАК ДА РЭЗАЛЮЦЫІ ЖАЛОБНАГА ВЕЧАРА, ПРЫСВЕЧАНАГА 50-ГОДДЗЮ ГВАЛТОЎНАГА ВЫСЯЛЕННЯ КРЫМСКІХ ТАТАР З КРЫМА — ІХ ГІСТАРЫЧНАЙ РАДЗІМЫ 18 ТРАЎНЯ 1944 ГОДА:

— Прасіць Урад Рэспублікі Беларусь, каб Урад Расійскай Федэрацыі і Урад Украіны істотна дапамаглі крымскім татарам вярнуцца на сваю гістарычную Радзіму — у Крым.

— Прасіць урады гэтых дзяржаў, каб яны вярнулі крымскім татарам будынкі, што належалі татарам да высялення, каб выплацілі адшкадаванне за маёмасць, якая была знішчана.

— Перастарэлым і інвалідам, непрацаздольным людзям, якія нарадзіліся ў месцах высылкі, фактычна зняволення, выдаць адпаведныя дакументы і рэальныя ільготы як ахвярам камуністычных улад.

— Прасіць Урад Рэспублікі Беларусь аб неадкладным прызнанні, выдачы адпаведных ільгот тым татарам, якія былі выселены ў 1944 г. з Крыма і іх дзецям, народжаным у месцах высылкі, калі гэтыя людзі цяпер пражываюць на Беларусі і з`яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Факс-27-43-53.
Симферополь, КРЫМ
Духовному Управлению Мусульман Крыма

18 мая 1994 г. в г. Минске по инициативе Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб" был проведен траурный вечер, посвященный 50-ой годовщине насильственного выселения крымскотатарского народа из Крыма. После зачтения молитвы из Кур`ана на вечере выступили с печальными воспоминаниями о тех событиях крымские татары Меметов Исмаил и Умеров Чонгар, ныне проживающие в Минске. С материалами, имеющимися в распоряжении историков по данному вопросу, ознакомил кандидат исторических наук, вице-президент "Аль-Китаб" Канапацкий Ибрагим.

На вечере выступили посол Турецкой Республики в Республике Беларусь господин Тансу Окандан, народный депутат Верховного Совета РБ В. Голубев, доктор исторических наук Л. Лыч, поэт Е. Гучок, представители польского культурного общества и др.

В заключение торжественной части вечера было единодушно принято Обращение к народам и правительствам мусульманских стран с просьбой о помощи крымскотатарскому народу в его возвращении и обустройстве на своей исторической родине.

Затем был показан недавно созданный 20-минутный документальный фильм о татарах Беларуси.

Участникам траурного вечера были розданы экземпляры специально изданного к этому дню журнала "Крымские татары. 1944-1994".

Исмаил Александрович

"ЗВЯЗДА", 19.V.1994.

## ЖАЛОБНЫ ЮБІЛЕЙ

18 мая ў памяшканні Беларускага таварыства культурных сувязей з замежнымі краінамі адбылася жалобная вечарына, прысвечаная 50-й гадавіне дэпартацыі крымскіх татар, грэкаў, армян і балгар з Крыма. Гэты сумны юбілей найбольш шырока адзначаецца на Украіне, дзе аб'яўлена жалоба. У Беларусі жывуць нашчадкі крымскіх татар, што прыйшлі да нас яшчэ пры Вітаўце, пасялілася ў нас і невялікая колькасць татар — выгнаннікаў 1944 года — каля 150 чалавек. Для іх гэтая дата — незагойная рана. Яны стварылі групу падтрымкі Арганізацыі крымскататарскага нацыянальнага руху, 8 беларускіх татар з'яўляюцца дэлегатамі курултая крымска-татарскага народа.

На жалобнай вечарыне выступілі людзі, перажыўшыя дэпартацыю, быў адпраўлены намаз за душы нявінна загубленых людзей, адбылася прэм'ера беларускага дакументальнага фільма "Татары тутэйшыя".

**Ібрагім КАНАПАЦКІ**

"ДОБРЫ ВЕЧАР", 20.V.1994.

## ВЕЧАРЫНА ТУТЭЙШЫХ ТАТАРАЎ

Як паведаміў нам старшыня Мінскага гарадскога згуртавання татараў Ібрагім Канапацкі, 18 мая ў памяшканні Беларускага таварыства культурных сувязей з замежнымі краінамі адбылася жалобная вечарына, прысвечаная 50-й гадавіне дэпартацыі татар з Крыма. Ладзілі імпрэзу Беларускае згуртаванне татараў-мусульман і група падтрымкі Арганізацыі крымска-татарскага нацыянальнага руху.

У вечарыне прынялі ўдзел прадстаўнікі нацыянальных суполак Беларусі, народны дэпутат Вярхоўнага Савета Валянцін Голубеў, прафесар Леанід Лыч, пісьменнік Яўген Лецка, кампазітары Смольскія.

Упершыню эманстраваўся толькі што створаны дакументальны фільм "Татары тутэйшыя".

**Уласн. інф. "ДВ".**

## У ІМЯ АЛЛАХА МІЛАСЦІВАГА, МІЛАСЭРНАГА
## МІР ВАМ, МІЛАСЦЬ УСЯВЫШНЯГА І ЯГО БЛАГАСЛАЎЛЕННЕ!

У многіх народаў ёсць трагічныя падзеі, якія не забываюцца гадамі, дзесяцігоддзямі і стагоддзямі. У сербскага народа гэта бітва на Косавым полі 15 чэрвеня 1389 г., пасля якой Сербія на 400 гадоў стала васалам Турцыі, у татарскага народа — захоп Казані 15 кастрычніка 1552 г., у выніку якога Казанскае ханства страціла сваю незалежнасць, а татарскі народ апынуўся пад рускім ігам вось ужо больш за 400 гадоў; у армян — гэта красавік 1915 г., калі пачаўся генацыд армянскага народа ў Турцыі і быў знішчаны 1 млн. чалавек і больш за 600 тысяч было выселена ў пустыні, дзе многія з іх загінулі. У яўрэйскага народа таксама ёсць свая сумная дата — верасень 1941 г. — пачатак знішчэння яўрэйскага насельніцтва нямецкімі фашыстамі ў Баб`ім Яры і масавых забойстваў яўрэяў па ўсёй тэрыторыі, дзе арудавалі нямецкія і іншыя фашысты.

Трагічныя падзеі ў Перадкаўказзі 1943 і 18 мая 1944 г., што прывялі да масавага высялення крымскіх татар, яшчэ свежыя ў памяці тых, каго з нечалавечай жорстасцю пад канвоем вывезлі ў месцы прымусовага пасялення і трымалі там доўгія гады ва ўмовах можа горшых, чым неграў-рабоў у Амерыцы.

## КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ДЭПАРТАЦЫІ НАРОДАЎ З КРЫМА

Гісторыя дэпартацыі народаў з Крыма бярэ пачатак у 1941 годзе, дакладна 17-20 жніўня, г. зн. за тыдзень да сумнасвядомага Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР "Аб перасяленні немцаў, пражываючых у раёнах Паволжа".

Менавіта ў жніўні 1941 года 50 тысяч крымскіх немцаў былі гвалтоўна перасelены ў Стаўропальскі край. "Перастаў існаваць 121 нямецкі калгас з насельніцтвам каля 40 тысяч чалавек", паведамляў у ЦК ВКП(б) першы сакратар Крымскага абкома В. Булатаў. У якасці прычыны высялення было высунута агульнае абвінавачванне ў садзейнічанні нямецка-фашысцкім захопнікам. "У той час я жыла ў Наймане, у Крыму, — успамінае немка Марыя Нэб. 16 жніўня паўсюдна, як з-пад зямлі, у сёлах, на палях, у цягніках з`явіліся супрацоўнікі НКУС і аб`явілі: праз 12 гадзін быць гатовымі да адпраўкі, рэчаў з сабою браць не больш за 50 кілаграмаў. Але потым на гэтую падрыхтоўку пайшло 3 дні — нас вывозілі 18 жніўня. Што мы маглі ўзяць? Муку і вопратку, канешне. Хоць нічога не казалі, мы ведалі: нас вязуць у Сібір..."

— Працяг сталінскіх дэпартацый адбыўся ў траўні 1944 года, калі, здавалася б, нічога не прадвяшчала бяды.

Не паспелі адгрымець залпы святочнага салюту з нагоды вызвалення 9 траўня 1944 г. Севастопаля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, я назаўтра — 10 мая 1944 г. — Нарком Унутраных Спраў СССР Лаўрэнцій Берыя дакладваў Іосіфу Сталіну:"Улічваючы здрадніцкія дзеянні крымскіх татар супраць савецкага народа і зыходзячы з *нежадання* далейшага іх пражывання у пагранічнай акраіне Савецкага Саюза, НКУС СССР уносіць на Ваш разгляд праект рашэння Дзяржаўнага Камітэту Абароны аб высылцы ўсіх татар з тэрыторыі Крыма.

Аперацыя па высяленню будзе пачата 20-21 мая і закончана 10 чэрвеня".

Далей у дакладной запісцы прапаноўвалася рассяліць крымскіх татар у якасці спецпасяленцаў у раёнах Узбекскай ССР для выкарыстання на работах як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці і на будоўлях. 11 траўня 1944 праект Пастановы ДКА быў падпісаны Сталіным.

Праз тыдзень, трагічнай ноччу 18 траўня (за 2 дні да вызначанага спачатку тэрміну) НКУСзістамі быў парушаны сон крымскіх татар, у большасці сваёй — жанчын, дзяцей і старых.

"НКУС СССР дакладвае, — гаварылася ў тэлеграме ГКА і Саўнаркому СССР, што сёння, 18 траўня, пачата аперацыя па высяленню крымскіх татар".

"Рабілася ўсё па шаблону — успамінае Насібе, маці двойчы Героя Савецкага Саюза Амет-хана Султана — спачатку ставілі ва ўсіх населеных пунктах воінскія падраздзяленні, казалі, што быццам на адпачынак. Але людзі разумелі, што адбываецца нешта дзіўнае. Былі выпадкі, калі салдаты з гэтых воінскіх часцей цішком спрабавалі папярэдзіць аб тым, што рыхтуецца: вышлюць вас, рыхтуйцеся. Людзі верылі і не верылі. У 4 гадзіны 18 мая 1944 г. усім мясцовым жыхарам загадалі сабрацца ў дарогу. З сабою дазволілі ўзяць вузельчыкі з рэчамі, не больш 10-15 кг. Нам ставілася ў віну, што крымскія татары супрацоўнічалі з фашысцкімі акупантамі. "Вінаватым аказаўся ўвесь народ..."

У першы дзень па дадзеных НКУС было падвездзена да чыгуначных станцый, пагружана і адпраўлена да месцаў рассялення 48400 чалавек, знаходзіліся пад пагрузкай 25 эшалонаў.

"На 19 траўня, на 18 гадзін, — паведамлялі ў тэлеграме на імя Берыі яго падручныя Кабулаў і Сяроў — падвезена спецкантынгенту да станцый пагрузкі 165515 чалавек. Накіравана да месцаў прызначэння 50 эшалонаў колькасцю 136412 чалавек. Менавіта з гэтага часу доўгіх 12 гадоў крымскія татары, як і іншыя высланыя з Крыма народы, у афіцыйных дакументах пачалі называцца "спецкантынгентам", "спецперасяленцамі".

К 16 гадзінам 20 траўня аперацыя па высяленню татарскага народа з Крыма была завершана. На яе правядзенне спатрэбілася ўсяго толькі 60 гадзін. "Выселена ўсяго 180014 чалавек, —

паведамлялася ў чарговай тэлеграме наркому Унутраных Спраў СССР. Гэта былі ў асноўным жыхары Бахчысарайскага, Алушцінскага, Ялцінскага, Судакскага, Куйбышаўскага раёнаў Крыма. Для гэтага спатрэбіўся 71 эшалон.

У хуткім часе Берыя ў тэлеграме на імя Сталіна дакладваў, што ўсе татары да месцаў рассялення прыбылі і расселены ў абласцях Узбекскай ССР — 151604 чалавекі, у абласцях РСФСР — 31551 чалавек.

У ходзе дэпартацыі загінулі, як сцвярдаюць сёння гісторыкі, 46% крымскататарскага насельніцтва. Усяго вясною 1944 года з Крымскай АССР было вывезена 194111 крымскіх татар. У выніку ў многіх сёлах, дзе раней жылі крымскія татары, наогул не засталося жыхароў.

27 траўня 1944 г. СНК Крымскай АССР і абком партыі ў адпаведнасці з распараджэннем СНК СССР прынялі пастанову "Аб мабілізацыі рабочай сілы для правядзення неадкладных сельгасработ у паўднёвых раёнах Крыма", у адпаведнасці з якой з гарадоў і раёнаў паўвострава былі мабілізаваны на 2 месяцы 13800 чалавек працаздольнага насельніцтва для "дагляду за вінаграднікамі, табакамі і іншымі пасевамі і пасадкамі ў былых татарскіх калгасах і на прысядзібных участках, правядзенні сельгасработ у іх".

"Да збору пасеваў збожжавых культур на плошчы 200 тыс. га пераважна ў былых татарскіх і нямецкіх калгасах" былі прыцягнуты ў адпаведнасці з распараджэннем СНК СССР ад 21 чэрвеня 1944 г. часці Асобай Прыморскай арміі і рабочыя батальёны. 7 раёнаў і звыш 912 населеных пунктаў, насіўшых татарскія назвы па прадстаўленню СНК Крымскай АССР былі перайменаваны і атрымалі іншыя назвы Указам Прэзідыўма Вярхоўнага Савета РСФСР ад 14 снежня 1944 г.

Сумны лёс крымскіх татар напаткаў і іншыя народы Крыма. "НКУС лічыць мэтазгодным, —

дакладваў Берыя Сталіну 29 траўня 1944 г., — правясці высяленне з тэрыторыі Крыма ўсіх балгар (12075 чал.), грэкаў (14300), армян (9919). Тут жа растлумачваліся і прычыны: "У перыяд нямецкай акупацыі значная частка балгарскага насельніцтва актыўна ўдзельнічала у мерапрыемствах, якія праводзілі немцы па падрыхтоўцы хлеба і прадуктаў харчавання для германскай арміі, садзейнічала германскім ваенным уладам у выяўленні і затрыманні ваеннаслужачых Чырвонай Арміі і савецкіх партызан, атрымлівала "ахоўныя пасведчанні" ад германскага камандавання. Немцамі арганізоўваліся паліцэйскія атрады з балгар, а таксама праводзілася з балгарскага насельніцтва вярбоўка для пасылкі на работу ў Германію.

... Значная частка грэкаў, асабліва ў прыморскіх гарадах, з прыходам акупантаў занялася гандлем і дробнай прамысловасцю. Нямецкія ўлады аказалі садзеянне грэкам у гандлі, транспарціроўцы тавараў і г. д.

... Арганізаваны немцамі Армянскі камітэт актыўна супрацоўнічаў з немцамі і праводзіў вялікую антысавецкую работу. Існавалі так званыя "армянскія рэлігійныя абшчыны", якія акрамя рэлігійных і палітычных пытанняў ... аказвалі немцам дапамогу, асабліва шляхам "збора сродкаў", на ваенныя патрэбы Германіі. Армянскімі арганізацыямі быў сфарміраваны так званы "армянскі легіён", які ўтрымліваўся за кошт сродкаў армянскіх абшчын.

"... У ноч на 27 чэрвеня 1944 г., — успамінае былы радавы стралковай роты 222-га асобнага стралковага батальёна 25-й стралковай брыгады войск НКУС, — з баявым начыннем мы выйшлі з Керчы і пайшлі ў бок Феадосіі. раніцою падыйшлі да вялікага сяла. Нам сказалі: гэта Марфаўка, тут жывуць балгары, якіх мы павінны выселіць. Акрамя балгараў, у гэты дзень з Крыма высяляюцца таксама грэкі і армяне. Жыхарам вёскі мы павінны сказаць,

што прыйшлі дапамагаць касіць сена. А калі ў вёску ўедуць аўтамашыны, па сігналу ракеты пачнецца аперацыя... Размеркаваны былі ўсе ўчасткі.

Людзі сустракалі нас радасна: братушкі прыйшлі, ды к таму ж дапамагаць у рабоце. Частавалі нас белым хлебам, смятанаю. Адчувалася, што аб маючай адбыцца трагедыі яны не маюць ніякага ўяўлення. У вызначаны час у вёску ўехалі аўтамашыны... На зборы было адпушчана толькі 20 хвілін, а з сабою браць — што панясецца ў руках. Да таго ж было аб`яўлена спаборніцтва: хто раней закончыць "работу" на сваім участку. Людзі мітусіліся, "прыспешвалі", піхалі прыкладамі аўтаматаў да выхаду. Гэта была цяжкая карціна.

4 ліпеня 1944 г. Берыя дакладваў старшыні ГКА Сталіну аб тым, што "высяленне з Крыма спецпасяленцаў — татар, балгар, грэкаў, армян завершана". (Усяго па дадзеных камісіі СНК СССР, з Крыма падверглася дэпартацыі каля 230 тыс. чалавек). У аперацыях па Крыму ўдзельнічалі 23 тысячы байцоў і афіцэраў войск НКУС і да 9 тыс. чалавек аператыўнага саставу органаў НКУС і НКДБ. І трэба ж такому быць, што менавіта ў гэты дзень, калі Берыя пісаў сваю чарговую дэпешу Сталіну, Саўнарком СССР прыняў пастанову "Аб першачарговых мерапрыемствах па аднаўленню гаспадаркі Крыма". Але каму яе было аднаўляць?

У выніку гвалтоўнага высялення з Крыма народаў 6 нацыянальнасцей, а таксама мабілізацый і прызываў у Чырвоную Армію, эвакуацыі мірнага насельніцтва, страты на 20% усяго даваеннага насельніцтва Крымскай АССР (звыш 185 тыс. крымчан былі фашыстамі расстраляны, замучаны і вывезены ў Германію), насельніцтва паўвострава к лету 1944 г. скарацілася да 370 тыс. чалавек. Менавіта гэта і паслужыла прычынай таго, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР Указам ад 30 чэрвеня 1945 г. зацвердзіў Пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі аб

Табе аднаму мы пакланяемся і Цябе аднаго мы молім аб дапамозе.
Накіруй нас на шлях праўдзівы.
Шлях тых, каго ты адарыў сваім дабром, тых, хто не наклікаў на сябе тваёй няміласці, і тых, хто не заблудзіўся.
Не дай Аллах Усемагутны загінуць і пайсці ў нябыт майму народу.
Дай Аллах яму волю і лепшую долю.
Ассаляму Алейкум уа рахматуллагі Тааля уа берякятугу. Мір Вам, Міласць Аллага Ўсявышняга і яго благаслаўленне.

Ібрагім Канапацкі, віцэ-прэзідэнт
Беларускага згуртавання татар-мусульман
"Аль-Кітаб", кандыдат гістарычных навук

## ДЗЕПЯ ЗГОДЫ І РАЗУМЕННЯ

(ЛіМ, 10 чэрвеня 1994 г.)

Як бы ні было, але нашу дзяржаву пакуль мінулі міжнацыянальныя канфлікты. Здаўна на гасцінная беларускай зямлі ў хаўрусе і згодзе жывуць прадстаўнікі самых розных народаў. Калі верыць статыстыцы, дык гэтая лічба пераваліла за 120.

Цяпер жа, калі адбываецца адыход ад ідэалагічных догмаў, на першы план выступаюць агульначалавечыя каштоўнасці, і ўсе яны — рускія і яўрэі, украінцы і татары, латышы і літоўцы, гэтаксама, як і беларусы, жывуць ідэямі свайго нацыянальнага Адраджэння. Бо, будзем справядлівымі, дзесяцігоддзямі адбывалася нівеліроўка розных культур у імя адной — сацыялістычнай. Але, каб жыць годна, валодаць правам заставацца самім сабой, трэба мець для гэтага адпаведныя ўмовы. Балазе, у гэтых адносінах у суверэннай Беларусі робіцца нямала. Апошнім часам

створаны розныя нацыянальныя культурна-гістарычныя суполкі, таварыствы, прыняты Закон аб нацыянальных меншасцях, правы іх агаворваны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

І вось яшчэ адзін важны крок у гэтым кірунку: у мінулую пятніцу (3 чэрвеня — рэд.) у Мінску адкрыўся Цэнтр нацыянальных культур Беларусі. Размясціўся ён у Доме ветэрана на вуліцы Янкі Купалы. Тут адбылася афіцыйная ўрачыстасць і вялікі святочны канцэрт.

Адкрылі сустрэчу народная народная артыстка Беларусі З. Бандарэнка і старшыня Савета нацыянальных меншасцей Беларусі Б. Шабановіч. Стварэнне гэтага цэнтра, падкрэслілі яны, дар урада нашай дзяржавы.

Да прысутных звярнуўся Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч. Мы ўсе ў нашай суверэннай маладой дзяржаве, сказаў ён, павінны імкнуцца да адной мэты і аднаго жадання — усвядоміць сябе і быць заўсёды адзіным народам Рэспублікі Беларусь. Наша палітыка будуецца на паважных адносінах да усіх народаў, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі. Ствараючы новую суверэнную дзяржаву, мы ўжо заклалі асноватворныя прынцыпы ўзаемадзеяння дзяржавы з прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцей. Гэта грамадзянская роўнасць, аднолькавыя сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя гарантыі для ўсіх жыхароў рэспублікі, нягледзячы на іх нацыянальную прыналежнасць, права на нацыянальна-культурнае развіццё, дэпалітызацыя нацыянальных адносін... Гэта вялікі набытак, калі ў сацыяльна-гістарычную канву адной нацыі ўплятаюцца культурныя традыцыі многіх нацыянальных супольнасцей. Гэта павышае інтэлект дзяржавы, больш духоўна багатым і насычаным становіцца жыццё ўсяго грамадства.

Але, падкрэсліў прэм`ер-міністр, кожны з нас мае права (і гэта святое права) берагчы нацыянальныя традыцыі свайго народа, яго гістарычную культуру, яго духоўныя каштоўнасці. Гарантам гэтага і з`яўляецца дзяржава. А гарантыі гэтыя вызначаны Канстытуцыяй і правамі нашых грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове, на выкарыстанне нацыянальных культурных традыцый, на нацыянальна-палітычную роўнасць. Як зазначыў В. Кебіч, толькі нацыянальны спакой і згода могуць дапамагчы вырашыць нам тыя складаныя задачы, што стаяць сёння перад усім грамадствам.

Стварэнне нашага культурнага цэнтра, сказаў у заключэнне прэм`ер-міністр, гэта добры фундамент для будучых спраў. Сюды будуць прыходзіць дарослыя і дзеці, адсюль будуць набіраць сілу вытокі таго, што называецца адным добрым словам — Радзіма.

Да прысутных звярнуліся міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, прэзідэнт яўрэйскіх арганізацый Беларусі Л. Левін, міністр адукацыі В. Гайсёнак, прэзідэнт Канфедэрацыі творчых Саюзаў Беларусі М. Яроменка, народны мастак СССР М. Савіцкі, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі А. Ваніцкі.

У святочным канцэрце прынялі ўдзел вядомыя прафесіянальныя і самадзейныя выканаўцы. Выконваліся танцы, гучалі песні розных народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі. Панавала атмасфера сардэчнасці і цеплыні.

# СВЯТА КУРБАН-БАЙРАМ НА БЕЛАРУСІ

21-24 мая 1994 г. у розных кутках Беларусі мусульмане адзначалі вялікае гадавое сьвята ахвярапрынашэння (іль аль-адха або па-цюрску КУРБАН-БАЙРАМ). Яно прайшло арганізавана ва ўсіх 13-ці мусульманскіх абшчынах Рэспублікі Беларусь. У гэтым нумары квартальніка мы змяшчаем паведамленні нашых карэспандэнтаў аб святкаванні КУРБАН-БАЙРАМА, што паступілі ў рэдакцыю.

У найпрыгажэйшым кутку Беларусі на Мядзельшчыне ўзвышаецца над возерам Мястра паўвостраў, які вабіць вока любога чалавека хараством сваіх шумлівых дрэў; азёрныя хвалі нібыта падхопліваюць яго і нясуць ў мір іншы. Гэта і ёсць татарскія могілкі — мазар. Здаўна мусульмане Паўночна-Заходняй Беларусі і Літвы хавалі сваіх памерлых на гэтым святым месцы. На вялікае сьвята — КУРБАН-БАЙРАМ на мазары сабраліся мусульмане з усіх куткоў Беларусі і Літвы: Адам Сулейманавіч Ясінскі з братамі Раманам і Хасенем, Аляксандр Мустаф. Смольскі з — Вільні, Давыд Мустаф. Канапацкі з жонкай Таняй— з Глыбокага, Браніслаў Сулейманавіч Палтаржацкі з жонкай Лідай, Таццяна Якаўлеўна Палтаржацкая, Таццяна Ібрагімаўна Галямедзінава, Марыя Амуратаўна Шуцкая з Пастаў.

Старэйшыя мусульмане, каторыя чытаюць Кур`ан, маліліся на мізары за сваіх родных і блізкіх, як, напрыклад, браты Адам і Мустафа Хасяневічы, Смольскія, Мустафа Якаўлевіч Якубоўскі,Хасень Адамовіч і многія іншыя.

На сваце прысутнічала шмат мусульман (як дарослых, так і дзяцей) з вёсак Пруднікі, Нарач, Гірыны, Нікольцы, Баяры. Усе дзялілі садагу за сваіх родных і за ўвесь мазар.

М. І. Юлбарысава

## АХВЯРА НА КУРБАН-БАЙРАМЕ

У мінулую суботу а 6-й гадзіне раніцы, за гадзіну да ўсходу сонца, у Горадні мясцовыя мусульмане ўпершыню па-сапраўднаму адзначылі сваё рэлігійнае сьвята Курбан-байрам — "сьвята ахвярапрынашэньня".

У ім таксама прынялі ўдзел арабскія студэнты, якія навучаюца ў Гарадзенскім мединстытуце. Замежныя студэнты купілі на свае грошы быка, якога закалолі, згатавалі і ўсіх ахвотных частавалі мясам.

Курбан-байрам адзначаўся таксама ў Іўі і Слоніме.

А. Верамейчык

"Свабода", 24-30 траўня 1994 г.

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

## ІДЭЛЬ-УРАЛ ПАД РУСКІМ ІГАМ

### *Першы раздзел*
### *Змаганне за самастойнасць*
*(працяг)*

Пад націскам рускага гандлёвага і прамысловага саслоўя і праваслаўнага святарства рускі ўрад у другой палавіне XIX ст. перамяніў сваю палітыку ў адносінах да цюрка-татарскага насельніцтва як у эканамічным, так і ў культурна-палітычным жыцці.

Справа ў тым, што многія з цюрка-татараў, якія гвалтам (фізічнай сілай і эканамічнымі рэпрэсіямі) былі ахрышчаны, пры першай мажлівасці вярталіся да сваёй веры, даючы тым прыклад фіна-вугорскім язычнікам. Праваслаўнае святарства, прыклаўшае пры матэрыяльнай і маральнай дапамозе рускага ўрада шмат намаганняў для хрысціянізацыі іншаверцаў і ў асаблівасці мусульман, марны вынік

сваёй працы тлумачыла ліберальнай палітыкай урада. Акрамя святарства, жорсткай палітыкі ў адносінах да мусульман патрабавала і гандлёва-прамысловае саслоўе.

Як мы ўжо зазначылі, з першых дзён абвяшчэння свабоды гандлю для цюрка-татараў, прамысловае і гандлёвае саслоўе апошніх, як і ў самым Ідэль-Урале, так і за межамі яго — у Туркестане і Кітаі, заваявалі надзейныя пазіцыі на рынку для сваей прадукцыі і капіталу. Рускі гандлёвы капітал, які на першым часе канкурыраваў з цюрка-татарскім, пры магчымасці свабоды гандлю ўпэўніўся ў сваёй слабасці і пачынае, як мы адзначылі раней, скардзіцца на ўсё мацнейшую цюрка-татарскую канкурэнцыю. Урад стаў на бок рускага гандлёва-прамысловага саслоўя і прыступіў для збройнага заваявання новага рынку — Туркестана, дзе цюрка-татарскі капітал укараніўся настолькі моцна, што рускі капітал не мог канкурыравць з ім, пакуль вольны Туркестан будзе існаваць. Рускае гандлёва-прамысловае саслоўе гэта добра ведала, а таму патрабавала ад урада не толькі заваяваць Туркестан, але і канчаткова знішчыць непрыяцеля - цюрка-татарскае гандлёва-прамысловае саслоўе.

Рускаму гандлёва-прамысловаму саслоўю і святарству ўдаецца дасягнуць сваёй мэты. Урад пры дапамозе сваіх адміністрацыйных і фінансавых органаў прыступіў да рэпрэсій у адносінах да цюрка-татараў. Ён ужо не дазваляе ім будаваць новыя заводы і фабрыкі і ўзмацняе ціск на тых, каторыя актыўна дзейнічаюць, адмаўляе ў крэдыце фінансавым установам і забараняе адкрыццё крэдытных суполак цюрка-татарам і г.д. Аднachасова з такой палітыкай урад штучна падтрымлівае рускае гандлёва-прамысловае саслоўе, аказваючы яму ўсялякую дапамогу. У выніку Казань як гандлёва-прамысловы цэнтр пачынае з дня на дзень слабець, а Масква ўзмацняцца.

У галіне духоўнай культуры цюрка-татар урад таксама мяняе сваю палітыку. Зачыняюцца некаторыя медрэсе, не дазваляецца адкрыццё новых, з вялікімі намаганнямі ўдаецца будаваць мячэці; нярэдка бывае адмова ў дазволе.

Такая палітыка рускага ўрада выклікала зноў шэраг паўстанняў, хоць яны не мелі ўжо агульнанароднага характару. Была і эміграцыйная хваля цюрка-татараў у Турцыю, але яна не выклікала зацікаўленасці сярод свядомай часткі насельніцтва, а таму гэта эміграцыйная хваля не набыла тых памераў, як гэта было ў крымскіх цюрка-татараў і ў каўказкіх горцаў.

Непасрэдным наступствам узмацнення ўціску рускага ўрада было ўзмацненне рэлігійнага фанатызму, які праявіўся ў стварэнні рэлігійных ордэнаў (братстваў) на чале з ішанамі (ішан — тое самае, што шэйх). Ішанізм, ці шэйхізм, які тады вельмі пашырыўся ў мусульманскім свеце, прапаведуе аскетызм, гаворыць аб нікчэмнасці зямнога існавання, аб неабходнасці выратавання душы і г.д.

Самым вядомым ордэнам ва ўсім мусульманскім свеце трэба лічыць ордэн "Накшбэнды", які існуе яшчэ ў Аравіі і існаваў у Турцыі да самай рэформы Кемаль пашы ў галіне рэлігіі. Гэта ордэн існаваў і ў нас у Ідэль-Урале. Трэба адзначыць і тое, што ён быў самым шматлюдным. Заснавальнікам гэтага ордэна сярод цюрка-татараў быў ішан Алі з Цюнцяра, празваны Алі ішан Цюнцяры. Неабходна згадаць яшчэ двух ішанаў гэтага ордэна, якія мелі дзесяткі тысяч мюрыдаў (мюрыд — паплечнік ішана), а менавіта: Зейналлу Ішмухамеда (г.Троіцк, Арэнбурскай губ.) і Закіра Кемала (г. Чыстапаль, Казанскай губ.). Калі ў Аравіі і Турцыі асноўнай мэтай ішанізму была пропаведзь выратавання душы, то ў Ідэль-Урале, акрамя гэтага рэлігійнага элемента, вучэнне ўтрымлівала і элемент палітычны. Ішаны і мюрыды, прапаведуючы аскетызм* сярод

садзейнічала ўзмацненню ішанізму і яго антырускай дзейнасці.

Заваяванне Туркестана рускімі і выкарыстанне метадаў, якія прымяняліся да цюрка-татар у Ідэль-Урале, у адносінах да туркестанцаў выклікала да жыцця новую ідэалогію сярод свядомай часткі цюрка-татараў. Неабходна арыентавацца на Еўропу — вось у чым сутнасць гэтай новай ідэалогіі.

Пры адмоўных адносінах цюрка-татарскага насельніцтва да ўсяго "немусульманскага" пад уплывам ішанізму, якое было тады, не магло быць і мовы аб магчымасці засваення еўрапейскай культуры. Вось гэтыя абставіны і выклікаюць наватараў уступіць у зацятую барацьбу з ішанізмам. Першым быў праслаўлены ў далейшым на ўвесь мусульманскі свет Шыхабетдзін Марджані, які вядзе змаганні супроць застарэлых абрадаў, супроць затворніцтва жанчын, звяртае ўвагу на неабходнасць вывучэння роднай мовы, якая была тады занядбанай, бо ішаны ўкаранялі арабскую і персідскую мовы.

Не менш значную ролю ў гэтай барацьбе адыграў і Каюм Насыры, які, атрымаўшы адмову на сваё хадайніцтва выдання газеты, выпускае каляндар на цюрка-татарскай мове, які набывае значэнне перыядычнага выдання.

Уступленне Турцыі на шлях еўрапеізацыі ў эпоху царавання султана Абдул-Азіза аказвае пэўны ўплыў на наватараў цюрка-татараў, збліжэнне якіх з ліберальна настаўленымі турэцкімі інтэлегентамі было даволі моцнай. У барацьбе супраць старога традыцыйнага побыту наватары цюрка-татараў чэрпалі маральную падтрымку ў рэформах, што праводзіліся ў Турцыі.

Цюркска-татарскія наватары вялікую ўвагу надаюць барацьбе супроць схаластычных школ, якія, адыграўшы сваё культурна-палітычнае значэнне, ператварыліся ў тормаз для далейшага руху ўперад. Выключна выдатную ролю ў гэтай справе адыграў Ісмаіл Гаспралы (Гаспрынскі) і рэформай сваіх школ

усе цюркі, якія жылі ў межах былой Расіі, абавязаны менавіта яму.

Ісмаіл Гаспралы нарадзіўся каля горада Бахчысарай у 1853 годзе. Спачатку бацькі аддалі яго ў мусульманскую школу, але разумелі, што схаластычная школа не можа даць добрых ведаў, яны адправілі Ісмаіла ў Маскву ў адно з вайсковых вучылішчаў (ваенную гімназію). Тут школьнымі калегамі Гаспралы былі дзеці самых заўзятых панславістаў. Адзін раз летнія вакацыі Ісмаіл жыў у сям'і рэдактара "Московских Ведомостей" - Каткова. Такім чынам Ісмаіл выпадкова трапляе ў цэнтр панславізму (тады ён пазнаёміўся з Тургеневым, што дало яму магчымасць атрымаць у пісьменніка працу перапісчыка твораў класіка рускай літаратуры ў час пражывання Ісмаіла ў Парыжы - заўвага рэд.).

Глыбокае знаёмства з ідэямі панславізму, пастаянныя размовы аб гэтым і непадробна шчырыя артыкулы Каткова, прысвечаныя гэтаму пытанню, натуральна, ставілі перад Ісмаілам Гаспралы шмат пытанняў, у тым ліку і пытанні аб будучыні той нацыі, да якой належыў ён сам. У панславісцкім асяроддзі ён не мог знайсці адказ на гэтыя пытанні, а таму рашэннем гэтых пытанняў ён мусіў займацца сам. Такім чынам, крышталізацыя палітычных поглядаў Ісмаіла цесна звязана з яго вучобай у маскоўскай ваеннай гімназіі і знаёмствам з панславіцкім асяроддзем. У час Крыцкага паўстання, калі яго калегі запісваліся ў добраахвотнікі ў грэчаскія паўстанцкія атрады, Ісмаіл прабіраецца ў Турцыю і таксама хоча паступіць добраахвотнікам у турэцкую армію, але Турцыя па нейкіх меркаваннях не прымае яго ў сваю армію. Тады Ісмаіл із Стамбула адправіўся ў Парыж, дзе жыве каля года. З Парыжа ён зноў вяртаецца ў Стамбул, дзе знаёміцца з грамадска-палітычным жыццём Турцыі, якая ўступіла ўжо на шлях еўрапеізацыі. У 1877 годзе Ісмаіл працуе на радзіме настаўнікам пачатковай школы і складае падручнік, заснаваны на

фанетычным метадзе, і праграму для пачатковых школ. Для прапаганды ідэй рэформы школ і еўрапеізацыі, а таксама пашырэння сваіх грамадска-палітычных поглядаў, Ісмаіл хадайнічае перад урадам аб дазволе на выданне газеты. Пасля доўгіх клопатаў гэта мэта ажыццявілася. Яшчэ да гэтага ён піша некалькі брашур, у якіх у агульным выглядзе выкладае сваю палітычную праграму. У 1883 годзе 23 красавіка (па новаму стылю) Ісмаіл Гаспралы выпускае першы нумар сваёй газеты, якая была названа "Тэрджуман" (Перакладчык). То была першая цюркская газета, якая адыграла ў грамадска-палітычным жыцці ўсіх цюркскіх народнасцяў былой Расіі вялікую гістарычную ролю. Хоць яшчэ ў 1875 годзе Хасан Малік Зердабі выдаваў у Баку газету "Ігінчы" (Земляроб), але з прычыны вузкасці сваёй праграмы яна не змагла доўга праіснаваць. Ісмаіл вельмі добра разумеў, што народ можа засвоіць еўрапейскую культуру "толькі цераз школу", а таму "Тэрджуман" з першага нумара стаў даводзіць перавагу новага метаду выкладання і растлумачваць недахопы старой сістэмы.

Аднак асноўнай мэтай "Тэрджумана" было выхоўванне ўсіх цюркаў у духу іх адзінства без адрозненняў племені, роду і тэрыторыі. "Адзіная ідэалогія, адзіны фронт работы і адзіная мова — вось лозунг "Тэрджумана". Дзякуючы гэтаму ўся інтэлегенцыя Ідэль-Урала і Крыма пранікаецца ідэей адзінства і той жа дух пранікае на Каўказ і ў Туркестан. Новаметадызм, высцясняючы свайго непрыяцеля - схалыстычную школу, пашыраецца з неверагоднай хуткасцю. Нацыянальная літаратура, якая была ў самых цяжкіх цэнзурных умовах, стараецца данесці ў народную свядомасць ідэю ў еўрапейскім значэнні слова, а таму зусім слушна гаварыў Вараб'ёў, што "перамога новаметадызму, якая адчыніла дзверы ў татарскія масы для еўрапейскай культуры, у той жа час з'явілася пачаткам нацыянальнага адраджэння татар.

Пачынаецца вывучэнне і распрацоўка народнай татарскай мовы, ствараецца нацыянальная літаратура і спроба месіянераў-русіфікатараў, якія падышлі на гэты раз ужо з боку культурнага фронту, татарская інтэлегенцыя магла супрацьпастаўляць нацыянальную культуру, у якую еўрапейская культура мела свой доступ, але без паглынання нацыянальнай фізіяноміі татарскай культуры і без прымесі місіянерскіх тэндэнцый" (Матэрыяльная культура казанскіх татар, стар. 36). Вельмі характэрна і тое, што ў барацьбе двух цячэнняў — старога і новага пачатку, урад стаў на бок першага, баючыся „з'яўлення новых ідэй і развіцця нацыянальнага руху сярод цюрка-татарскіх мас, калі атрымаюць перамогу наватары. "З гэтай прычыны вядомы місіянер Ільмінскі, у адным з лістоў пракурору свяцейшага сінода Пабеданосцаву выказаўся ў тым сэнсе, што лепш не чапаць старых татарскіх медрэсе, чым пускаць татарскую моладзь у рускія гімназіі, бо ў той час, як адзін з тых, хто скончыў медрэсе Гірэй быў ахрышчаны, а другі, каторы скончыў рускую гімназію, Муса Ак'егід, напісаў раман на татарскай мове" (Губайдуллін. "З мінулага татар"). Але паны-русіфікатары, аднак, ужо не маглі астанавіць нацыянальнае адраджэнне цюрка-татараў, яны маглі зрабіць адно (што і рабілі) — гэта аслабіць тэмп руху.

***(Працяг будзе)***

Ібрагім Канапацкі сустрэўся з вядомым беларускім гісторыкам і літаратарам Мікалаем Багадзяжам і атрымаў яго згоду на тое, каб квартальнік "*Байрам*" мог передрукаваць артыкул "Ахвяра страсцей", які быў апублікаваны ў газеце "Чырвоная змена" 2 снежня 1993 г. за подпісам Мікола Багадзяж.

# АХВЯРА СТРАСЦЕЙ

*Чалавек жыве і дзейнічае ў адпаведным гістарычным асяроддзі. Яно фарміруе яго светапогляд, кіруе ўчынкамі, накладвае адбітак на характар. Пры знаёмстве з дзейнасцю таго ці іншага дзеяча мінулага неабходна ўлічваць усе гэтыя фактары. Менавіта іх меў на ўвазе славуты рускі паэт К.Рылёеў, калі казаў пра аднаго нашага земляка:*

*Хвалы бы он вечной был в мире достоин:*
*Когда бы не буря страстей.*

Аўтар гэтых радкоў без сумнення меў на ўвазе не толькі асабістыя страсці героя свайго твора, але і тыя, што бушавалі вакол яго. Страсці эпохі, страсці, якія бударажылі думкі людзей таго часу, страсці, якія прымушалі думаць і дзейнічаць менавіта так, як было прынята ў тыя даўнія часы.

Паэма, з якой узята вышэйназваная цытата, прысвечана бурнаму, поўнаму самых невераготных падзей і здарэнняў жыццю чалавека, які навечна ўвайшоў у гісторыю як Беларусі, так і Расіі. Яна прысвечана Міхалу Глінскаму.

Паходжанне роду Глінскіх губляецца ў Залатой Ардзе. Менавіта адтуль выехаў у Прыдняпроўе пасля бітвы на Куліковым полі сын хана Мамая Мансур-Карыят. Яго нашчадкі прынялі праваслаўе і атрымалі прозвішча Глінскія (ад аднаго з атрыманых імі гарадкоў). У хуткім часе яны падпарадкаваліся Вітаўту. Прадстаўнікі гэтага роду займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім.

Маёнткі, якія яны выслужылі, ставілі гэты род па багаццю і магутнасці ў адзін рад з нашчадкамі Уладзіміра і Гедыміна. Глінскія валодалі велізарнымі плошчамі на Кіеўшчыне і Тураўшчыне. У апошнім з іх ўбачыў свет Міхал. Адбылася гэта падзея ў 1470 годзе.

Ужо ў дзіцячым узросце княжыч праявіў незвычайныя здольнасці да навукі. Таму бацька вырашыў, што хатняй адукацыі яго нашчадку мала, і накіраваў сына за мяжу. Міхал Глінскі вучыўся ў Італіі. Пад уплывам мясцовых светароў ён перайшоў ў каталіцтва. Пасля заканчэння вучобы княжыч вырашыў паспрабаваць сябе ў ваеннай справе. Амаль дванаццаць гадоў ваяваў ён у Еўропе. Служыў у Іспаніі. У саксонскага курфюрста Альбрэхта, Імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліяна І. На баку апошняга ваяваў у Італіі. У час гэтай кампаніі ён паказаў сябе з найлепшага боку. Яго ваенныя таланты і асабістая адвага настолькі ўразілі імператара, які і да гэтага ставіўся да нашага земляка з вялікай сімпатыяй, што той надаў Міхалу тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі.

Міхал Глінскі вярнуўся на радзіму. Патрапіў да двара вялікага князя Аляксандра. Хутка стаў ягоным улюблёнцам. У 1498 годзе атрымаў усвяцкае намесніцтва. Праз два гады, на пачатку зімы 1500 года, прызначаецца дворным маршалкам. У канцы наступнага года атрымаў яшчэ і Мерацкае намесніцтва. Пасада дворнага маршалка дазваляе хутка палепшыць свой дабрабыт шляхам атрымання новых зямель і маёнткаў. Наш зямляк, выкарыстаў гэту магчымасць. Потым пачаў "умацоўваць" свой тыл. Карыстаючыся ўплывам на Аляксандра, дабіваецца высокіх дзяржаўных пасад для сваіх братоў. Іван атрымаў ваяводства ў Кіеве, Васіль — у Бярэсці. Аднак наваспечаны вяльможа займаўся ў гэты час не толькі асабістымі справамі. Ён, акрамя ўсяго іншага, выкарыстаў вопыт, які набыў пад час

вайсковай службы ў еўрапейскіх уладароў. Міхал спрабуе правесці рэарганізацыю арміі. Стварае першыя гусарскія эскадроны (тых самых славутых "польскіх" крылатых гусараў).

Вокамгненнае ўзвышэнне Глінскага і тое, што Аляксандр цалкам падпаў пад яго ўплыў, не спадабалася іншым магнатам. Не задаволены яны былі і палітычнымі поглядамі Міхала. Справа ў тым, што ён выступаў за неабмежаваную манархію. Таму настройваў Аляксандра супраць паноў рады. Падбухторваў ліквідавць гэты орган улады.

Паны рады пайшлі на змову. Узначаліў змоўшчыкаў ваявода трохскі і маршалак земскі Ян Забярэзінскі. Ю.Вольф у працы "Князі па абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV стагоддзя" даў гэтаму пану вельмі кароткую, але красамоўную характарыстыку: "Амбіцыйны ды сквапны да ўлады..." Змоўшчыкі пачалі распаўсюджваць плёткі, паклёпы. Сцвярджалі, быццам Міхал таемна перапісваецца з Масквой, жадае адасобіць Кіеўшчыну і нават ... авалодаць велікакняжацкім прастолам. Увесь гэты бруд уводзіўся ў вушы Аляксандра. Аднак той не даў гэтаму веры. Тады вырашылі прымяніць радыкальныя меры. Забіць Глінскага. Міхалу стала вядома аб намерах змоўшчыкаў. Ён звяртаецца да караля са скаргай. Абвінавачвае Забярэзінскага ў тым, што той наняў забойцаў. Паведамляе, што мае сведку. Аднак абвінавачаны клянецца-божыцца ў тым, што нічога падобнага не было. Аляксандру ж не да грызні паміж яго прыдворнымі. Кароль загадаў Міхалу і Яну памірыцца і жыць у вечнай згодзе. Аднак Забярэзінскі не супакойваўся. Ды і Глінскі не збіраўся даравацъ крыўду. Яго гарачая ўсходняя кроў "кіпела" пры адным толькі ўспаміне аб тых, хто нагаворваў на яго і хто збіраўся падаслаць забойцаў. Ён працягвае патрабаваць прыняць меры супраць яго ворагаў. У рэшце рэшт кароль загадаў пазбавіць некаторых змоўшчыкаў — Ільінскага (зяця Забярэзінскага) і Варфаламея (брата Віленскага

біскупа) пасад. Гэтыя дзеянні раз'юшылі змоўшчыкаў. На Брэсцкім сойме 1506 года Міхала Глінскага зноў абвінавачваюць у дзяржаўнай здрадзе. Галоўным абвінаваўцам (чытай, паклёпнікам) выступае ўсё той жа Забярэзінскі. Цярпенне караля лопаецца. Ён распускае, разганяе сойм. Забярэзінскі пазбаўляецца пасад.

Гэтыя падзеі прывялі да ўсеагульных хваляванняў. Становішча ў дзяржаве ўскладняецца. У наступным годзе Аляксандр вымушаны быў склікаць сойм. Ён адбыўся ў Радоме. Дэлегаты засыпалі свайго ўладара папрокамі. Асабліва моцна крытыкаваў дзеянні караля Віленскі біскуп (пэўна, узыграла асабістая крыўда за брата). Ён скончыў сваё выступленне не словам "Амэн", як гэта адпавядае яго пасадзе, а ледзь не праклёнам. Усклікнуў:"Ты кляўся перад святым крыжам не парушаць прывілеі шляхты, а зараз забыў гэтую клятву. Бог цябе пакарае як клятвапарушальніка". Аляксандр, які і без таго знаходзіўся апошні час на мяжы нервовага зрыву, не вытрымаў. Езуіт А.Каяловіч, які напісаў "Гісторыю Літвы ў 1677 годзе", і польскі гісторык М.Стрыйкоўскі ў адзін голас сцвярждаюць, што караля адразу пасля гэтых слоў разбіў параліч. Так гэта, ці не — сказаць цяжка. Аднак дакладна вядома, што ў хуткім часе пасля Радомскага сойма кароль моцна захварэў.

Чуткі аб гэтым разнесліся вокамгненна. Хан Менглі-Гірэй паслаў на землі Вялікага княства Літоўскага сваіх сыноў Біці-Гірэя і Бурната з трыццацітысячным войскам. Крымчакі пранесліся па беларускай зямлі, бы вогненны ўраган. Яны пакідалі за сваёй спінай толькі вогнішчы і целы забітых. Спустошылі Слонім, Ваўкавыск. Пераправіліся цераз Нёман і пачалі пустошыць Міншчыну. Частка іх трымала ў аблозе Слуцк. Узнікла пагроза, што яны накіруюцца да Вільні.

Аляксандр аб'явіў аб зборы ў сталіцы княства паспалітага рушэння (шляхецкага войска, якое

склікалася пад час ваеннай небяспекі для дзяржавы). Аднак на заклік адгукнуліся толькі тры тысячы чалавек, ды і тыя заявілі, што не выступяць у паход без караля. З-за гэта хворы Аляксандр быў вымушаны прыехаць з Польшчы. Дзякуючы яго намаганням колькасць войск была даведзена да 7 тысяч. З гэтымі сіламі "...король... Вельми хорый рушился з Вилни до Лиды..." Аднак стан яго здароўя яшчэ больш пагоршыўся. Кароль напісаў тастамент, па якому велікакняжацкі і каралеўскі прастолы наследаваў ягоны брат Жыгімонт. Перадаў кіраўніцтва воскам гетману Станіславу Кішку і князю Міхалу Глінскаму. Сябе ж загадаў на насілках аднесці ў Вільню.

А тым часам татары аблажылі Наваградак. Запылалі вёскі, маёнткі, палілася кроў. Шляхта зразумела неабходнасць рашучых дзеянняў і пачала збірацца ў Лідзе. Хутка войска абаронцаў павялічылася да 10 тысяч чалавек. Усе гэтыя ваяры былі конныя і добра ўзброеныя. Яны нанеслі татарам некалькі паражэнняў, ачысцілі наваколле Наваградка. Тыя татары, якія засталіся жывымі, уцякалі да Клецка, ля якога размясціўся іх асноўны лагер — кош. Яны паведамілі царэвічам аб набліжэнні варожага войска.

Над ваярамі ж Вялікага княства Літоўскага нібы раскінуў свае крылы злы рок. Яны толькі-толькі разлучыліся з хворым каралём. А тут і новага кіраўніка скруціла хвароба. Захварэў Кішка. Пры чым так, што "...иж для хворобы свое и на коня ехати не мог". Гетман загадаў вазіць сябе на возе. Аднак і гэты спосаб прычыняў яму невыносны боль. Узначаліць войска прапанавалі князю Глінскаму. Усе разумелі, што толькі Міхал з яго вялікім ваенным вопытам, рашучасцю і энэргіяй зможа адолець ворага. А калі прайграе, дык і з гэтага можна выгадаць. Лёгка будзе пакончыць з ненавісным любімцам Аляксандра.

5 жніўня 1506 года войскі Міхала падышлі да Клецка і спыніліся на беразе рэчкі Лань. З узгорка ўбачылі татар, якія чакалі іх на супрацьлеглым беразе. Пачалася бітва. Паколькі пераправа была вельмі нязручнай, то больш чым тры гадзіны біліся цераз рэчку. Гучалі стрэлы. Над вадой з шыпеннем праносіліся хмары стрэл. У гэты ж час ваяры Глінскага зрабілі дзве гаці. Першымі вырваліся на процілеглы бераг харугвы левай рукі. Татары абрынуліся на іх. Пачалася жахлівая сеча. У гэты час Міхал Глінскі начале харугваў правай рукі перайшоў па другой гаці і ўдарыў татарам у фланг. Націск яго ваяраў быў настолькі моцны, а ўдар настолькі нечаканы, што татарскія палкі былі раздзелены надвая. Затым пачалося бязлітаснае знішчэнне і тых, хто апынуўся паміж двух крылаў войска Міхася, і тых, хто кінуўся наўцёкі. Уцякаючых татар секлі, рэзалі, калолі, стралялі. Гналі іх аж дваццаць вёрст, аж да ракі Цепра. Воды яе і забалочаныя берагі, паводле слоў летапісу Быхаўца, сталі магілай для большай часткі беглякоў. Аўтар гэтага летапісу сцвярджае, што войскі Вялікага княства Літоўскага пераязджалі верхам, пераходзілі пешшу па мёртвых целах татар і іх коней. Рэшткі крымчакоў, якім удалося пазбегнуць смерці на полі бітвы і ў водах рэчкі, накіраваліся да дому.

Пераможцы ж "вярнуліся ... у Клецк, ведучы за сабою многа палонных, і папоўнілі рукі золатам і серабром, і зброяй, і адзеннем, і ўзялі коней многа (30 тысяч. — М.Б.)". З ардынскага палону было вызвалена 40 тысяч чалавек.

Вестка аб перамозе разнеслася па ўсім краі. Даведаўся пра яе і Аляксандр. Аднак доўга радавацца перамозе свайго сябра ён не змог. Бо 9 жніўня караля і вялікага князя не стала.

Гэта адразу змяніла становішча Глінскага. Яго ворагі, якія спачатку прыціхлі, зноў пачалі мянціць языкамі. Зноў пайшлі плёткі. Глінскі расказаў аб абвінавачваннях супраць яго. Растлумачыў іх

недарэчнасць. Потым суправаджаў Жыгімонта да Вільні. Удзельнічаў у цырымоніі ўзвядзення на вялікае княжанне. Нават ездзіў з ім на каранацыю ў Польшчу. Аднак новы вялікі князь не толькі не наблізіў Міхала да сябе, не выказаў яму павагі, а, наадварот, пачаў аддаляць. Глінскага пазбавілі гетманскай булавы, потым адабралі бельскае намесніцтва. Яшчэ крыху пазней забіраюць пасаду дворнага маршалка. А ў брата Івана адабралі ваяводства ў Кіеве і далі значна менш прэстыжнае ў Наваградку. Міхал пакрыўдзіўся. Яго гарачая ўсходняя кроў бушуе. Гонар патрабуе дзейнічаць. А тут яшчэ неўтаймоўны Забярэзінскі зноў пачаў паліваць яго імя брудам. У якіх толькі смяротных грахах не абвінавачвае ён свайго ворага. І ў імкненні да вярхоўнай улады, і ў тым, што менавіта Глінскі вінаваты ў вайне паміж Аляксандрам і Іванам III, нават у тым, што быццам бы Міхал атруціў Аляксандра.

Глінскі раззлаваўся і патрабаваў суда над паклёпнікам. Аднак кароль адмовіўся выканаць яго патрабаванне. Міхал звяртаецца па дапамогу да венгерскага караля (брата Жыгімонта) і да крымскага хана. Аднак і іх заступніцтва не дапамагае. Міхал едзе ў Кракаў. Спрабуе зноў дабіцца паразумення з каралём. Усё марна. Тады раз'юшаны князь кідае такія словы: "Адважуся на такую справу, пра якую ты, кароль, і я потым пашкадуем". Той не звярнуў ніякай увагі і на гэта.

Міхал вяртаецца ў Тураў у свой маёнтак. Ён пачынае абдумваць план помсты. Збірае вакол сябе сваякоў і сяброў. Яшчэ раз патрабуе ад Жыгімонта поўнага задавальнення сваіх прэтэнзій. Прызначыў тэрмін.

Чуткі пра гэтыя падзеі дасягнулі Масквы. У ёй заўжды добра ведалі ўсё, што адбываецца ў заходняга суседа. Новы маскоўскі вялікі князь Васілій III прыслаў у Тураў вопытнага дзяка Мікіту Губу Маклакова. Той запрасіў Глінскіх на маскоўскую

службу. Прапанаваў ім ад імя Васіля абарону, міласць, жалаванне. Паведаміў, што яго вялікі князь абяцае пакінуць ім усе гарады, якія яны змогуць захапіць. Аднак браты захоўвалі прыстойнасць. Яны чакалі рашучага каралеўскага адказу на іх патрабаванні. Не дачакаліся.

І вось атрад з 800 вершнікаў выступіў на Гродна. Недалёка ад гэтага горада знаходзіўся маёнтак таго, па чыёй міласці Міхал "...стое неласки королевское маючи сэрце скрвавенае" — Яна Забярэзінскага. Яго захапілі 2 лютага 1508 года ў першай гадзіне ночы. Паднялі з ложка ў адной кашулі. Засеклі. Глінскі загадаў: "...стяти Турчыну своѐму слузе, голову его (Забярэзинскага. — М.Б.) через мѣсто Городно на древцу нести казал, потом в озеро в колку милях укинено".

Чуткі аб гэтай падзеі разнесліся вельмі хутка. Адны спалохаліся, другія зларадлічалі, трэція ўхвалялі дзеянні Міхала. А некаторыя рыхтаваліся да абароны ад яго. Вільня зачыніла свае вароты. Коўна захапіць мяцежнікі не змаглі. Аднак полымя мяцяжу распаўсюджвалася. Спрыяла гэтаму тое, што Глінскі абвясціў сябе барацьбітом за поўную незалежнасць ад Польшчы. А яшчэ больш тое, што абяцаў абараняць правы праваслаўных. Для Жыгімонта ж гэта выступленне было нібы гром з яснага неба. Кароль вырашыў выйграць час, каб сабраць войскі. Паабяцаў выслаць свайго прадстаўніка. Запэўніў, што "усякую ўправу ўчыніць у іх справах". Глінскія згадзіліся. Аднак паставілі адну ўмову — весці перамовы яны будуць толькі з Альбрэхтам Гаштольдам. Абавязаліся чакаць яго да саборнай нядзелі (12 сакавіка). Яны ўсё яшчэ спадзяваліся на справядлівы разбор сваёй справы. Аднак Жыгімонт нават не адказаў ім. А вось з Масквы зноў прыслалі дзяка. Мяцежнікі зразумелі, што абяцанні караля так і застануцца абяцаннямі, і ў маі 1508 года прысягнулі Васілію III. І адразу пасля гэтага прадоўжылі ваенныя дзеянні. Яны захапілі

Гомель і Крычаў, Капыль і Клецк, аблажылі Оўруч. Мазыр здаўся без бою. Мазырскі ваявода Якуб Івашэнцаў быў сваяком Глінскіх, таму загадаў адчыніць браму. Аднак галоўную задачу — захоп Мінска і Слуцка — выканаць не ўдалося. Міхал сам накіраваўся да Слуцка. Ён ... пасватаўся да маладой удавы слуцкага князя Сямёна Анастасіі. Аднак тая выдатна разумела, што жаніха цікавіла не яна, а багацці роду Алелькавічаў, а галоўнае — горад, які ўяўляў сабой моцную фартэцыю. Тады Глінскі паспрабаваў захапіць Слуцк. Узяў яго ў аблогу. Спустошыў усё наваколле. Не аднойчы яго войскі кідаліся на штурм. З вялікімі стратамі адкочваліся назад. Спрабавалі запаліць умацаванні з дапамогай прымётаў. І гэта не атрымалася. Анастасія не раз ужо кіравала абаронай горада ад татар. Яна не толькі адбівала з-за сцен іх напады, але біла іх і ў чыстым полі. Гарнізон і жыхары Слуцка стаялі за сваю княгіню сцяной. Яны не толькі адбівалі праціўніка з бланкаў, а і непакоілі частымі вылазкамі. У рэшце рэшт "жаніх" зняў аблогу і адышоў. Не атрымалася нічога і з Мінскам. Праўда, быў заняты шэраг невялікіх гарадоў. Аднак мяцежнікі страчвалі ініцыятыву. Маскоўскі князь прыслаў ім на дапамогу войскі. Але яго ваяводы дзейнічалі нерашуча, імкнуліся пазбегнуць сутычак з войскамі Жыгімонта. А тым часам кароль сабраў сілы. У маі 1508 года ён быў у Брэсце, потым у Слоніме. У пачатку чэрвеня яго войскі выйшлі да Дняпра недалёка ад Оршы, якую якраз аблажылі Глінскі і маскоўскія атрады. Тыдзень стаялі арміі адна супраць адной. Потым маскоўскія ваяводы адвялі сваіх ваяраў і накіраваліся да Вязьмы. Міхал зразумеў, што за яго спіной вядзецца вялікая палітычная гульня і разлічваць на дапамогу маскоўскага войска немагчыма. Зразумеў ён і тое, што мяцежнікі без знешняй падтрымкі перамагчы не змогуць. Таму ён спыніў мяцеж, распусціў сваіх людзей і з братамі і шэрагам прыспешнікаў пакінуў радзіму. Бегляні

знайшлі прытулак у Маскве. Васілій III прыняў іх вельмі цёпла. Пры яго двары ўтварылася вялікая група, якая мела назву "Литва дворовая". Міхал Глінскі атрымаў гарады Яраславец і Баройск, а Васіль з Іванам — Медынь. Маскоўскі ўладар вельмі даражыў нашым земляком. Ён разлічваў з дапамогаю Міхала заваяваць усю "Літву". І на сувязі з тымі прыхільнікамі князя, якія засталіся на радзіме і займалі высокія дзяржаўныя пасады. Памятаў і пра сяброўскія адносіны з шэрагам уладароў. Таму пакатваў сваю "ласку". Глінскі абжыўся ў Маскве. У хуткім часе ў яго жыцці адбылася вялікая падзея — ён ажаніўся з дачкой яшчэ аднаго выхадца з Вялікага княства Літоўскага Івана Абаленскага. Такім чынам, наш герой параднішся з нашчадкамі Гедэміна. Праз пэўны час у сям'і Міхала з'явіўся прадаўжальнік роду. Сына назвалі Васілём.

Здавалася б, усё выдатна. Аднак атмасфера маскоўскага двара прыгнятае нашага земляка. Ён вельмі адрозніваецца ад двароў тых заходнееўрапейскіх уладароў, пры якіх неаднойчы давялося бываць і жыць Міхалу. Пры двары Васіля III ставілі за галоўнае не заслугі чалавека і не яго здольнасці, а паходжанне. Ад прыдворных патрабавалі не ініцыятывы, а рабскай пакоры, безагаворачнай паслухмянасці, сабачай адданасці. Глінскі ж заўжды быў прамы. Да таго ж меў гарачы нораў. У глыбіні душы яго тлела крыўда і на Васіля III і на яго ваяводаў, таму што тыя не выканалі свае абавязкі і не дапамаглі ў барацьбе. Лічыў, што больш страціў, чым займеў. Без сумнення неаднойчы прыходзілі да яго думкі аб тым, што ён памыліўся, калі даверыўся маскоўскаму вялікаму князю. Аднак ён гнаў іх. Спадзяваўся на тое, што зможа праявіць сябе ў ваеннай справе і заняць адпаведную пасаду. Магчымасці для гэтага былі. Васілій III пастаянна намагаўся захапіць Смаленск. Першыя дзве яго спробы былі беспаспяховымі. Зразумеўшы, што ў адзіночку яго дзяржаве не адолець магутнага суседа,

маскоўскі князь пачаў шукаць саюзнікаў. А ў гэты час іншы еўрапейскі ўладар — імператар Максіміліян збіраў хаўрус, з якім разлічваў разарваць на часткі і Польшчу, і Вялікае княства Літоўскае. Да яго далучыліся Тэўтонскі ордэн, Данія, Брандэнбург, Саксонія, Валахія. Імператар знайшоў агульную мову і з Маскоўскім княствам.

30 мая 1514 года маскоўскія раці выступілі ў паход на Смаленск. Вакол горада стала ў аблогу васьмідзесяцітысячнае войска. Кіраваў ім сам Васілій. На муры горада абрынуліся ядры 300 гармат. Адзін з маскоўскіх летапісцаў так апісаў бачанае ім:"...ад гарматнага і пішчальнага груку, людскога крыку і ляманту таксама і ад гарадскіх людзей супраціўнага бою гармат і пішчаляў зямля дрыжэла. І адзін аднаго не бачыў, не чуў, і ўвесь горад у полымі і ў родыме лецць не ўздымаўся". Аднак смаляне адбівалі ўсе прыступы. Пасля прапанавалі пачаць перамовы. Маскоўскі князь з радасцю згадзіўся на гэта. Ён абяцаў гараджанам захаваць усе іх вольнасці, кіраваць горадам "по старине", "не вступаться" у вотчыны баяр і манастыроў, гарантаваў свабодны выезд усім, хто не пажадае застацца. Вёў перамовы з абаронцамі Міхал Глінскі. Васілій III абяцаў яму, што ў выпадку поспеху прызначыць яго ваяводам Смаленска. Глінскі паручыўся за маскоўскага князя. Смаленск здаўся. І тут жа маскоўскі ўладар паказаў сваю двурушнасць. Ён не толькі не выканаў абяцання, якое даў Міхалу, але яшчэ і пасмяяўся з яго:" Навошта табе горад? Я аддаю табе ўсю Літву". Глінскі ледзь-ледзь стрымаўся, каб не адказаць яму ў тым жа тоне. Аднак пакляўся ў душы, што адпомсціць і за абразу, і за падман. Не ў першы раз ён са шкадаваннем успомніў словы, якія кінуў калісьці Жыгімонту. Тады ён папярэджваў, што прыйдзе час, калі і ён, і кароль будуць шкадаваць аб тым, што не знайшлі паразумення. Міхал даўно ўжо шкадаваў аб зробленым. Але і Жыгімонт даўно ўжо разабраўся ў

гэтай справе. Зразумеў, што ў тым выпадку памыляўся ён. Усвядоміў, каго не толькі страціў, а нават зрабіў ворагам сваёй дзяржавы. Не раз ужо прыходзілі да Міхала лісты ад яго. Кароль прапаноўваў вярнуцца на радзіму. Абяцаў дараванне ўсіх дзеянняў. Запрашаў да сябе на службу.

Міхал вагаўся. Зараз жа рашыў канчаткова. Тым больш, што падвярнуўся выпадак лёгка здзейсніць задуманае. Яго паслалі на чале войска, якое рухалася ў глыб Беларусі. З маршу збегчы з купкай верных людзей будзе няцяжка. І Глінскі пасылае ўперад сябе вернага чалавека — шляхціца Трэпку, які павінен быў паведаміць аб рашэнні свайго князя. Аднак Трэпку перахапілі. Дапыталі. Пад час катавання ён выдаў планы Глінскага. Міхала схапілі, закавалі ў кайданы і павезлі ў стаўку Васілія, якая размяшчалася ў Дарагабужы. Раз'юшаны маскоўскі ўладар паабяцаў-прыгразіў: "Злахітры, я ўчыню табе вартае пакаранне, па заслугах". На што Міхал з годнасцю адказаў:"Не прызнаю абвінавачванне ў злахітрасці, бо калі б ты застаўся верны сваім абяцанням, дык меў бы ў ва мне самага вернага з усіх слуг. Але калі ты не выконваеш абяцанні, а акрамя таго, ты з мяне пасміхаешся, дык мне асабліва шкода, што я не мог выканаць таго, што задумаў супраць цябе. Смерць я заўжды зневажаў і без жаху сустрэну яе хаця б з тае прычыны, каб не бачыць твайго твару, тыран".

Васілій III загадаў адвезці Глінскга ў Маскву і кінуць у турму. Ён меркаваў пакараць сваю ахвяру. Міхал прыдумаў хітры ход: прызнаўся, што яшчэ ў маладосці, пад час вучобы ў Італіі, перайшоў у каталіцкую веру. Выказаў жаданне вярнуцца да веры бацькоў. Узрадаваны "прасвятленнем" нашага земляка мітрапаліт маскоўскі Варлаам дабіўся адмены для "аблуднай авечкі" смяротнай кары". Пачаў апякаць вязня і праз пэўны час перахрысціў. За гэты час Міхал даведаўся, што весткі аб паражэнні маскоўскай раці пад Оршай настолькі ўразілі свет,

настолькі паднялі прэстыж Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, што кааліцыя, што склалася супраць іх, развалілася. Краіна была вызвалена ад знішчэння.

Што ж, жыццё Міхал выратаваў. Аднак волі не атрымаў. Кайданы на руках і нагах, прыцемкі, вільгаць, пацукі, закрытае кратамі акенца амаль пад столлю. Дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам. Часамі здавалася, што там, за сценамі турмы, пра яго забыліся, што ён так і не ўбачыць чыстага неба. Аднак адбыўся цуд. Праз дзесяць гадоў Міхал зноў апынуўся на волі. І зноў стаў прыдворным вялікага князя. Гэты цуд адбыўся дзякуючы жанчыне. Справа ў тым, што Васілій III закахаўся ў пляменніцу Міхала, дачку Васіля Алену. Ён загадаў пастрыгчы ў манахіні сваю жонку Саламею Сабураву (ад якой за 21 год не дачакаўся дзіцяці) і ажаніўся з дачкой былога берасцейскага ваяводы. Па яе настойлівых просьбах і быў вызвалены з цямніцы Міхал. Быламу вязню вярнулі ўсе званні, далі гарады Рапалаў, Юр'евіц, Старадуб. Зноў удзельнічае ён у ваенных паходах. Зноў стаў адным з бліжэйшых да вялікага князя людзей.

Здаюцца дзіўнымі такія адносіны да таго, каго 10 гадоў трымалі ў цямніцы. Маскоўскі князь, зразумела, не забыўся аб даўняй спробе здрадзіць. Можна меркаваць, што гэта вынік дзейнасці Алены. Выдатна вядома, як кахаў Васілій III "абраную лепоты ради ее лица и благообразия возраста" жонку. І як імкнуўся выканаць яе капрызы. Ён нават не раз парушаў з-за яе традыцыі. Ды і Міхал імкнецца дапамагчы і дзеяннямі і парадамі быламу ворагу, які нечакана стаў родзічам. Гэта было заўважана. І менавіта яго прызначыў паміраючы ўладар галоўным апекуном малалетняга сына Івана. Менавіта Глінскаму даручыў узначаліць тых самых "бояр немногих", якім "...приказа беречи его (Ивана. — М.Б.) до пятнадцати лет..." Пэўна, спадзяваўся, што Міхал з яго адвагай, розумам, энергічнасцю і

асцярожнасцю зможа абараніць і сваю пляменніцу і яе сына ад замахаў на іх жыццё з боку магутнай удзельна-княжацкай арыстакратыі і баярства.

Кіраўніцтва краіны фактычна перайшло ў рукі прызначаных нябожчыкам апекуноў. Старэйшым сярод іх быў Міхал. Ён з годнасцю выконваў запавет. Дзякуючы намаганням апякунскага савета, малалетняга Івана паспяшаліся каранаваць. Зроблена гэта ў сувязі з небяспекай спроб захапіць вялікакняжацкі прастол.

Аднак у Маскве шмат хто быў незадаволены такім становішчам. Членаў Баярскай думы — вышэйшага органа дзяржаўнай улады, які складаўся з найбольш радавітых прадстаўнікоў кіруючых вярхоў княства, адсунулі на другі план.

Магчыма Глінскі з паплечнікамі змог бы справіцца з незадаволенымі. Уціхамірыць іх. Аднак перашкодзіў сямейны канфлікт. Справа ў тым, што Алена завяла сабе фаварыта — князя Івана Аўчыну-Целяпнёва-Абаленскага. Міхал, без сумнення, і сам не быў святым. Пра яго юнацкія амурныя паходжанні ў свой час шмат расказвалі. Аднак у дадзеным выпадку размова ішла аб удаве і маці вялікіх князёў. Міхал не аднойчы размаўляў з Аленай на гэту тэму. Паводле слоў М.М.Карамзіна, ён "...смело и твердо говорил племяннице об стыде распутства, всегда гнусного, еще гнуснейшего на троне, где народ ищет добродетели, оправдывающей власть самодержавную".

З другога боку на Алену нагаворваў фаварыт, які, дарэчы, з'яўляўся адным з самых знатных прадстаўнікоў Баярскай думы. Яна апынулася перад альтэрнатывай. Калі выбраць дзядзьку, то можна быць спакойнай за сваё жыццё. Але прыйдзецца развітацца з каханкам. А галоўнае — давядзецца змірыцца са становішчам княгіні на ўдовіным удзеле (як прадугледжваў тастамент) і падпарадкоўвацца апякунскаму савету. Калі ж даверыцца фаварыту, то стане паўнапраўнай уладаркай. Аднак для гэтага

трэба пазбавіцца ад дзядзькі. Як жа гэта зрабіць? Іван падказаў план і прапанаваў дапамогу...

Па Маскве папаўзлі плёткі, што Міхал Глінскі атруціў Васілія. Што збіраецца выдаць сям'ю вялікага князя палякам. Што імкнецца захапіць вялікакняжацкі прастол. Зразумела, што ўсё гэта выдумкі баяр. Аднак ім трэба толькі прычына, каб пазбавіцца ад непажаданага Глінскага і разагнаць апякунскі савет. Абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе Міхал зноў апынуўся ў той жа цямніцы, у якой сядзеў раней. Больш з яе ён не выйшаў. М.М.Карамзін напісаў пра яго: "Муж, знаменитый в Европе пылкими страстями, счастьем и бедствием, вельможа и предатель двух государств, помилованный Василием для Елены и замученный Еленою, достойный гибели изменника и славы великодушного страдальца в одной и той же темнице".

## "ПАСКРАБЁМ КРЫХУ РУСКІХ"

Наўрад ці знойдзецца ў нас чалавек, які б не ведаў прыказку "Нязваны госць, горш за татарына". А знаёмства з ёю не можа не адбыцца, прынамсі хаця б для тых, хто дайшоў да 7-га класа сярэдняй школы, дзе вывучаюць "Капитанскую дочку" А.С.Пушкіна. Менавіта там гэта прыказка папярэднічае восьмай главе, у якой апавядаецца аб захопе Белагорскай крэпасці — месцы службы Грынёва — Емяльянам Пугачовым і яго людзьмі. Як бачым, наперакор прамому сэнсу прыказкі, прыйшоў не татарын, а свой — рускі казак. Не думаем, каб Пушкін, акрамя як рэтраспектыўна, інакш падаў чытачу тую жыццёвую мудрасць. Бо гісторыя распарадзілася так, што расійскае жыццё задоўга да з'яўлення паэта на свет настолькі ўвабрала ў сябе цюркскі (а калі больш дакладней, няхай у больш вузкім сэнсе — татарскі свет), што пачала ганарыцца многімі і многімі яго прадстаўнікамі. Праўда, ужо як рускімі. Аб гэтым

крыху ніжэй. Тую самую прыказку, толькі са зваротным значэннем (а іменна: "Нязваны госць горш за рускага") мне даводзілася чуць сёння не толькі ў Казані, але і ў Маскве. Адлюстраваўшы настроі многіх татар пасля ўзяцця Казані Іванам Грозным (на Беларусі яго называюць Жахлівым) і многае іншае, і яна адыйдзе ў рэтраспектыву і нікольki не мае сваёй мэтай выклікаць якія-небудзь пагромныя настроі; тым больш у нашы дні. Цяпер гэта проста бяскрыўдны бытавы ўзровень.

А цяпер крышку аб нязваных гасцях-гаспадарах у рускай гісторыі і культуры. Яшчэ задоўга да мангола-татарскага нашэсця рускія (урусы) мелі кантакты і сувязі з татарамі і, вядома, іх продкамі — булгарамі, куманамі, кыпчакамі, полаўцамі і іншымі. Кантакты былі і мірнымі (к прыкладу, дынастычны шлюб князя Уладзіміра Ігаравіча, сына сумна славутага князя Ігара Северскага, з дачкой палавецкага хана Канчака; дарэчы, ад гэтага шлюбу ўзыходзіць радаслоўная Аляксандра Неўскага) і нямірнымі і незаўсёды гэта нямірнасць зыходзіла ад стэпнякоў. Хіба ж не вялікі князь кіеўскі Святаслаў, адзін з будаўнікоў Імперыі Рурыкавічаў, хадзіў вайной на балгар дунайскіх? Вяртаючыся крыху да таго, што было сказана, хачу прывесці змешчаныя ў Іпацьеўскім летапісу словы князя Ігара (у кампазітара А.Барадзіна ён спявае аб *свабодзе* для сябе: "О дайте, дайте мне свободу..." А дзеля чаго яна яму? Аб яго дзеяннях сярод сваіх жа — русічаў казалі: "... И все были в смятении: тогда был полон и скорбь, живые мертвым завидовали, а мертвые радовались, что они, как святые мученики, в огне очистились от скверны этой жизни. Старцев пинали, юные страдали от жестоких и немилостивых побоев, мужей убивали и рассекакли, женщин оскверняли. И все это сделал я..." Вядома, што да руху мангольскай арды некаторыя цюркскія народы, прадчуваючы гэта і таксама ахопленыя працэсам вялікага перасялення народаў, накіроўваліся на захад. Сярод іх была

частка булгар, якую ўзначальваў хан Аспарух. Гэта ён прывёў іх на Дунай у будучую Балгарыю, якая тады была населена фракійцамі (чый цар Спартак калісці ўзначальваў паўстанне рабоў у Рыме) і саюзам пяці славянскіх плямёнаў. Вядома, што фракійцы, як і пазней булгары, былі пазней асіміляваны славянамі. Сёння гэта — балгары. Тыя булгары, што засталіся на Волзе (Іціле, Ідэлі), як і куманы, кыпчакі і іншыя былі заваёваны манголамі (маголамі). Пазней заваёўнікі растварыліся сярод заваяваных, перадаўшы ім у спадчыну ў першую чаргу свой ваенны патэнцыял. Вось чаму, відаць, сустракаецца як бы блытаніна ў найменні той грознай сілы: то мангола-татары, то татара-манголы. Пазней яны ў сваёй большасці растварыліся ў рускім свеце, па-свойму вызначыўшы яго менталітэт. У Еўропе (Цэнтральнай і Заходняй) сімбіёз манголаў і цюркаў назвалі татарамі, рэмінісцэнтна далучаючы і пераартыкуліруючы антычнае вызначэнне пекла, бездані (тартарары), якога страшыліся нават насільнікі Алімпа на чале з самім Зеўсам-грамавержцам. Адначасова зазначым, што тэрмін татары існаваў і ў мангольскім свеце.

Такім чынам не будзем забываць, што цюркі (у дадзеным выпадку — татары) дамангольскай пары былі блізкімі суседзямі славян і што паміж імі ва ўсіх сэнсах граніца была рухомай. Гэта азначае, што ад адных да другіх прыходзілі людзі, адбываўся абмен рознымі рэчамі, назвамі гэтых рэчаў і г.д. Такія кантакты не перарываліся і ў часы панавання над Руссю Залатой Арды і пасля. Сляды славянска-татарскіх сувязей праглядваюцца шырока. Так, напрыклад, культура грэчка ў славакаў завецца татаркай; прыбярэжную рачную раслiннасць аер на поўдні Расіі завуць татарскай травой (на Беларусі таксама называюць татарскі корань). На крымска-татарскай мове жаніх — кіеў. Прыгадаем легенду і аднаго з траіх маладых палянскіх князёў — Кія у гэтай легендзе, чыім імем названы горад Кіеў. А

колькі населеных пунктаў на зямлі усходніх славян з назвамі Татарка, Татаршчызна і г.д. Апошняе — гэта не "азлобленае вымаўленне", а зусім нейтральнае, калі нават і з афарбоўкай, то такою ж як і іншыя шматлікія на Беларусі назвы тыпу Лотва, Прусы. На тэрыторыі Беларусі да нядаўняга часу адно паселішча насіла назву Гуля Палавецкая. Там калісці жылі полаўцы і ахоўвалі Берасцейскую зямлю. Вядома, яны асіміляваліся, назва ж іх паселішча зусім нядаўна заменена савецка-бальшавіцкім — Пагранічная. Не гаворым ужо аб тым, што там была цэлая акруга, што яна так і называлася — Палавецкая.

А цяпер паглядзім на некаторыя рускія прозвішчы, якія празрыста сведчаць аб прысутнасці ў іх татарскага пачатку. Відавочна, і гэта ў свой час асяніла Напалеона на славуты выраз: "Паскрабі любога рускага — і знойдзеш у ім татарына". З нагоды абмежаванасці плошчы ў квартальніку не станем даваць апісанні радаслоўных і гербаў прыведзеных намі прозвішчаў. Такім чынам, вось некаторыя з іх, вельмі, зазначым, славутых. Паўтараем, аналізуем з пункту гледжання філалогіі, а не генеалогіі. Цюркскае ***айда, гайда*** — "*прэтэндэнт на ханскі тытул*" — з'явілася вытворным для прозвішчаў **Айдаравы, Гайдаравы**; цюркска-татарскае ***аксак, оксак*** — "*кульгавы*" — **Аксакавы**; цюркскае ***алибей*** — "*старэйшы бай*" — **Алиб'евы**; араба-цюркскае ***анис, анич*** — "*сябра*" — **Анічкавы**; казанска-татарскае ***багрим (бахрим)*** — "*сэрца маё*", "*душачка*" — **Багрымавы** (прыгадаем імя беларускага паэта Паўлюка Багрыма, чалавека з цвёрдым характарам); цюркскае ***бекет*** — "*выхавацель ханскага сына*" — **Бекетавы** (ад Бекетавых па мацярынскай лініі вядзе сваю радаслоўную паэт Аляксандр Блок, а па бацьку паходзіць ад Блокаў, аславяненых яўрэяў); цюркскае ***берди*** — "*падораны*" — **Бярдзяевы**; цюркска-

татарскае ***булгак*** — "*горды чалавек*" — **Булгакавы;** ад цюркскага ***булгары*** — "*саманазва народа*" — **Булгарыны** і ў скажоным выглядзе **Булганіны;** цюркска-персідскае ***гарша*** — "*адважны правіцель*", "*герой*" — **Гаршыны;** татарска-башкірскае ***кірей*** — "*чорны баран*" — **Кірэевы, Кірэеўскія;** цюркска-булгарскае (чувашскае) ***гогуль, когуль*** — "*сіняя птушка*" — **Гогалі;** ***годун, гудун*** — "*дурны, безразважны чалавек*" — **Гадуновы;** цюркскае ***кутуз*** — "**шалёны, запальчывы**" — **Кутузавы** (адсюль жа паходзіць і *кутузка* — *турма*, арыштанцкае памяшканне); цюркскае ***гарчак*** — "*лялька*" — **Гарчаковы;** цюркскае ***елчы, елцы*** — "*вястун*", "*вяшчальнік*" — **Ельцыны;** цюркскае ***епыш, япыш, ябыш*** — "*прыблізіцца*", "*прымацавацца*" — **Епішавы;** цюркска-мусульманскае ***загоско*** — "*пераможца*" — **Загоскіны;** булгарска-цюркскае ***кальта*** — "*мяшок*", "*кашалёк*" — **Каліта, Каліціны;** цюркска-мангольскае ***каму*** — "*захопліваць*" — **Камаевы, Камай;** цюркскае ***кара мурза*** — "*чорны пан*" — **Карамзіны;** цюркскае ***келдыш*** — "*той, хто прыйшоў у хату няверпага*" — **Келдышы;** цюркскае ***корсак*** — "*стэпавы ліс*" — **Корсакавы;** цюркскае ***ураз гельди*** — "*шчасце прыйшло*" — **Разгільдзяевы;** цюркскае ***растопча*** — "*разява*" — **Растопчыны;** цюркскае ***сувор*** — "*яздок*" — **Суворавы;** цюркска-мусульманскае ***Муса*** — вытворнае ад "*Майсей*" — **Мусіны, Мусіны-Пушкіны;** цюркскае ***таг йолдыз*** — "*цотная зорка*" — **Талызіны;** цюркска-татарскае ***таный, таней*** — "*які ведае*", "*які памятае*" — **Танеевы;** цюркскае ***тимир язы*** — "*жалезны воін*" — **Ціміразевы;** цюркскае ***турген*** — "*хуткі*", "*адважны*" — **Тургеневы;** цюркскае ***улан*** — "*малойца-хлопец*", "*коннік*" — **Уланавы;** цюркскае ***тухачи*** — "*сцяганосец*" — **Тухачэўскія;** цюркскае ***ушак*** — "*малы, невысокі чалавек*" — **Ушаковы;**

цюркскае ***чаадатай*** — *"храбры"* — **Чаадаевы**; цюркскае ***чамадан*** — *"куфар"* — **Чамаданавы**; цюркска-булгарскае ***шеремет*** — *"небарака"* — **Шарамецьевы**; цюркскае ***шишка*** — *"апухлы"* — **Шышкіны**; цюркска-араба-старыжтнаяўрэйскае — ***Якуб (Яков)*** — *"які ідзе следам"*, *"паслядоўнік"* — **Якубавы, Якубоўскія.**

Гэта толькі нязначная частка якая добра і праглядаецца і праслухоўваецца. Прозвішча Дзяржавін, вядома, не скажа нам, што яго носьбіт Г.Р. Дзяржавін паходзіў з татар. У цюркскім свеце бярэ свой пачатак і паэт В.А. Жукоўскі і яго далёкі сваяк нобелеўскі лаўрэат па літаратуры І.А. Бунін. Дарэчы, апошні ў сваіх успамінах гаворыць аб мангольскім паходжанні маці А.П. Чэхава. Вядома, што А.І. Купрын вельмі ганарыўся сваёй татарскай радаслоўнай. А калі хто не ведае далёкіх продкаў Ф.М. Дастаеўскага па бацькоўскай лініі, у прыватнасці, няхай зазірне ў гісторыю яго рода. Там ён убачыць, што Ірцішчы прыйшлі на землі Беларусі з Арды і адзін з іх (Даніла) выслужыў у пінскага князя вёску Дастоева (цяпер гэта ў Брэсцкай вобласці, у Іванаўскім раёне), дзе жылі дастойныя князя людзі. Так з'явілася ў нас прозвішча Дастаеўскія. Прозвішча ж Ірціш, напэўна, паходзіць ад назвы ракі Іртыш.

А возьмем нядаўна адышоўшага ад нас беларускага пісьменніка і даследчыка беларускай гісторыі і культуры С.Х. Александровіча. Гаворачы аб яго вялікім беларускім патрыятызме, тут жа шкадуем, што знойдзецца вельмі мала беларусаў, хто б у гэтым сэнсе мог бы з ім, татарынам, стаць поруч. Зазначым, што ахову князя Вітаўта ў асноўным складалі татары. Трэба звярнуць увагу на тое, што татары — госці прошаныя і няпрошаныя, заўсёды здзіўляліся непрымірымай варожасці, што была паміж русічамі і наогул паміж славянамі. Паказальна такая пазіцыя і сёння, асабліва ў свеце галасавання за лідэра ЛДПР — У.В. Жырыноўскага. Калі ў Расіі

галасы раздзяліліся і большасць з іх вызначылася не ў бок Дабра і Святла, то ў Татарстане гэтыя выбары зусім не адбыліся.

А завяршыць наша эсэ мы зусім не хочам вывадам у адрас аматараў паразважаць аб рускай літаратуры, што, маўляў, без татар і культуры не было б, не, а тым, што любая вуліца (у дадзеным выпадку ў пераносным сэнсе) павінна быць з двухбаковым рухам, г.зн. калі вырашылі гаварыць аб чужых недахопах, дык давайце не забываць і аб годнасцях людзей, і, вядома, аб сабе пры такім падыходзе таксама не забудзем. Вось як гэта зрабіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расіі паэт Алег Чухонцаў:

Наше дело — табак,
Коль из грязи да в князи
Вышло столько рубак,
Как собак на Кавказе.

Вышло столько хапуг
Из холопов да в бари,
Аж спохватишься вдруг —
Что за иго татары?!

# ТАТАРЫ Ў ГЛЫБОКІМ

Згодна дадзеных Усесаюзнага перапісу насельніцтва на 1989 год, на Глыбоччыне пражывала 127 асобаў татарскай нацыянальнасці, з іх у Глыбокім — 102 чалавекі.

З`яўленне татар у Глыбокім можна аднесці да другой паловы XIX ст., бо згодна інвентароў за 1702, 1752, 1789 і 1809 гг., у радзівілаўскай частцы горада не трапляюцца татары, затое вельмі многа яўрэяў. Шматлікія гарбары (гарбарства было адным з асноўных заняткаў татар) пры Замкавай вуліцы ў 1752 г. былі хрысціянамі. Сярод рамеснікаў-хрысціян, што жылі па вуліцы Друйскай і мелі ўласныя майстэрні, магчыма, толькі шавец Пётр Сабалеўскі з сынам Паўлам і кравец Хвесь Сабалеўскі маглі быць татарскага паходжання.

Татары ўтваралі ў гарадах і мястэчках звычайна кампактныя асяродкі, якія мелі назвы татарскіх вуліц, татарскіх канцоў. Адна з такіх вуліц, якая так

і звалася — Татарскай, узнікла ў Глыбокім. Тут да 1939 г. было пяць хат, у якіх жылі татары. Частка іншых рассялілася па другіх вуліцах Глыбокага, а таксама ў навакольных вёсках. Так, у вёсцы Мядзвёдкі, што паміж Глыбокім і Лаўцамі, некалькі дзесяцігоддзяў таму жылі чатыры татарскія сям`і. Жылі таксама татары ў Ракаўцах і Абрубу-Беразвецкім.

У глыбоцкіх татар, якія жылі на вуліцах Дуброва, Кракаўскай і Віленскай, асноўным заняткам было гарбарства. Яны мелі ўласныя майстэрні, ці працавалі ў майстэрнях яўрэяў. За польскім часам глыбоцкія татары належалі да Докшыцкай парафіі. У 1930 г. у Докшыцах была ўзведзена мячэць, а ў 1931 г. у Глыбокім быў пабудаваны малітоўны дом, які лічыўся "філіялам" Докшыцкай мячэці.

Для пабудовы Глыбоцкага малітоўнага дома былі выкарыстаны бярвенні былой гаспадарчай пабудовы, якую купілі глыбоцкія татары ў вёсцы Хоцькі, што пад Канстанцінавам. Над малітоўным домам, як і належыць, быў узведзены паўмесяц. У дзень асвячэння малітоўнага дома прыязджаў татарскі муфтэй з Вільні.

Згодна мусульманскага календара, выдадзенага да вайны, на 1 студзеня 1938 года да Докшыцкай парафіі, куды ўваходзіла і Глыбокае, належала 235 асоб мужчынскага і 225 жаночага полу. У Докшыцах узначальваў парафію імам Сулейман Якубоўскі, а ў Глыбокім — мязім (намеснік імама) Ібрагім Багдановіч, які пражываў на Віленскай вуліцы, 87.

У пачатку гэтага стагоддзя глыбоцкія татары спрабавалі атрымаць пляц пад закладку сваіх могілак — мізара ў вёсцы Барок, але гэтаму перашкодзіў тутэйшы пан Донька, які баяўся праязджаць каля могілак. У 1919 г. татары купілі пляц зямлі ў Амбросавічах каля Кавалёў і залажылі мізар, дзе і зараз хаваюць сваіх нябожчыкаў, або на недалёкім мізары ў Докшыцах.

Культ памерлых праяўляецца ў штогадовых сходах татар на могілках, якія адбываюцца вясной і на пачатку лета ў першую квадру месяца ў пятніцу альбо чацвер. Людзі з розных ваколіцаў дамаўляюцца, куды маюцца з`ехацца. На мізары татары чытаюць малітвы, адну чытаюць каля магілы свайго родзіча, адну або дзве — за душы ўсіх пахаваных. Молячыся, татары абходзяць мізары злева направа, але абавязкова пакідаючы магілы па правую руку. Адначасова з малітвамі ідзе добраўпарадкаванне магіл, перш за ўсё тых, хто памёр не на працягу апошняга года, а значна раней. Такое прыкладанне магіл адбываецца, акрамя таго, кожны год вясной або ўлетку.

Глыбоцкія татары носяць звычайныя беларускія прозвішчы, але тым не менш, уласныя імёны надаюць тыповыя для народаў, якія вызнаюць *Іслам*. Большасць з іх лічаць сваёй роднай мовай беларускую. Татары пажылога ўзросту ведаюць і польскую мову, чытаюць тэксты, пісаныя арабскімі літарамі. У хаце Самуіла Канапацкага мне даводзілася бачыць на сцяне мусульманскі мугір, на якім арабскімі літарамі напісана: "*Ў імя Аллаха, Міласцівага, Міласэрнага*".

Самуіл Аляксандравіч усё сваё свядомае жыццё (пры палякаў і пры саветах) працаваў пажарнікам. Аднак, нягледзячы на сумленную працу, у сталінскія часы быў зняволены на дзесяць гадоў.

Сваіх школ татарскіх не было. Па-мусульманску вучыліся ў хатніх настаўнікаў, далей вучыліся ў дзяржаўных школах разам з хрысціянамі, некаторым пашчасціла вучыцца ў гімназіях. Служылі ў польскім войску, у перадваенныя гады ў Новай Вілейцы ў татарскім эскадроне.

Няўмольная хада гісторыі ўнесла свае карэктывы ў жыццё глыбоцкіх татар. У апошнюю вайну згарэў малітоўны дом, як і ўсе дамы на той жа вуліцы. Сама Татарская вуліца пасля вайны была перайменавана ў вуліцу імя Жданава, сёння яна носіць назву Школьная.

Трэба аднавіць у Глыбокім былыя назвы вуліц, у тым ліку вярнуць назоў Татарскай вуліцы, а ў краязнаўчым музеі належным чынам паказаць і гісторыю татар Глыбоччыны.

# ДУМКА ПРАФЕСАРА ЛЕАНІДА ЛЫЧА ПРА КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКІХ ТАТАР

Мінула тры гады, як упершыню ў рукі чытача трапіў квартальнік з зусім нязвычнай для нашага краю назвай — "БАЙРАМ". Толькі па пададзеных ніжэй за ёю словах "Татары на зямлі Беларусі" можна было зразумець, пра што ў ім мелася весці гаворку. Падаравала ж чытачу квартальнік "БАЙРАМ" ініцыятыўная група татар Мінскага грамадска-культурнага аб`яднання **"АЛЬ-КІТАБ"**, створанае пры Мінскім абласным аддзяленні Фонду культуры. Назву квартальнік атрымаў ад вялікага мусульманскага свята **Байрам**. Гэтае слова ў перакладзе на беларускую мову азначае свята. Што ж, зусім лагічна, бо пасля такога працяглага часу маўчання ў друку аб жыцці і праблемах беларускіх татар раптам звярнуцца да іх з пісьмовым словам — гэта і сапраўды вялікае ***Свята*** для для нашых мусульман.

Няхай мне даруюць выдаўцы квартальніка "БАЙРАМ", але калі я даведаўся пра яго выхад у свет, без усялякага сумнення палічыў, што гэта нейкая часовая з`ява. Выйдуць два-тры, ну няхай чатыры нумары, і на гэтым спыніцца яго жыццё, як часта бывала ў той час з многімі перыядычнымі выданнямі, асабліва дэмакратычнага, нацыянальна-патрыятычнага накірунку. Як гісторыку, мне ж добра было вядома, што беларускіх татар не ўзрушыла нават такая важная для ўсіх нацменшасцяў нашага краю, а не толькі для яго карэннага насельніцтва,

падзея, як беларусізацыя 20 — першай паловы 30-х гадоў. З публікацый таго часу ўдалося даведацца, што ў той час існаваў толькі адзін вясковы татарскі дом сацыялістычнай культуры. Нямецкая меншасць на Беларусі змагла стварыць 11 нацыянальных школ, эстонская — адну, літоўская — 12, латышская — 17, а татарская — ніводнай. І вось цяпер, на пачатку 90-х гадоў, яна адважылася на выданне ўласнага квартальніка! Выходзіць, мае сумненні не спраўдзіліся. І я рад, што ён ужо чацвёрты год ідзе да свайго чытача з даволі цікавымі і змястоўнымі публікацыямі, якія заслугоўваюць спецыяльнага разгляду. Паколькі яшчэ ніхто не браўся за асвятленне гэтага пытання, дазволю сабе заняцца ім, наперад ведаючы, што яно не з разраду радавых і лёгкіх.

У прадмове да самага першага нумара часопіса "БАЙРАМ", які выйшаў з друку ў пачатку другога квартала 1991 г., яго галоўны рэдактар Якуб Якубоўскі паведаміў чытачам, што найперш для іх будуць даваць матэрыялы пра асновы **Ісламу**, гісторыю беларускіх татар, іх заняткі і рамёствы, а таксама пра жыццё татар іншых краін. І рэдкалегія часопіса свята выконвае дадзенае слова чытачам. Ужо згаданы першы нумар "БАЙРАМА" коратка знаёміць іх з мінулым беларускіх татар. Цікавыя звесткі наконт гэтага прыводзяцца з прац ураджэнца Навагародчыны, прафесара Пецярбургскага універсітэта Антона Мухлінскага і акадэміка Яўхіма Карскага.

Першынство ў асвятленні гістарычнай праблематыкі, бясспрэчна, належыць сучаснаму гісторыку, дацэнту Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Ібрагіму Канапацкаму, які вельмі многа зрабіў для стварэння і функцыянавання самога згуртавання татар-мусульман на Беларусі **"АЛЬ-КІТАБ"** і выхаду часопіса "БАЙРАМА". З асаблівай зацікаўленасцю чытаў і шмат карыснага для сябе ўзяў і аўтар гэтых радкоў з артыкула І. Канапацкага "Залатая Арда — Дэшт — І — Кыпчак" (1992, № 1).

Выказаная ў ім думка: "Разгром Альгердам (вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, 1345 — 1377 гг. — Л. Л.) ардынцаў у бітве ля Сініх Водаў (1362) дазволіў пашырыць уладанні ВКЛ на поўдні да вусця Дняпра і Днястра, устанавіць уладу Гедымінавічаў над Кіеўскім і Валынскім княствамі, Падоліяй, Чарнігаўшчынай і Северишчынай. Альгерду — за два дзесяцігоддзі да Кулікоўскай бітвы — удалося нанесці першае буйное паражэнне, якое мела не толькі тактычнае, але і стратэгічнае значэнне: страту Ардою кантролю над значнымі тэрыторыямі, якія складалі некалі ядро Кіеўскай Русі" (с. 19), далёка не кожнаму чытачу была знаёма, таму што пра Сінія Воды шмат гадоў раней і ў апошнія часы вельмі мала пісалі рускія і беларускія гісторыкі.

Гэты аўтар выявіў багатыя веды і глыбокае разуменне сутнасці падзей у грунтоўным артыкуле "Крымскае ханства" (1992, № 2). І важна, што ў яго мінулым не прамінутыя тыя з`явы, што мелі пэўныя дачыненні і да Вялікага Княства Літоўскага. Гэта — удзел войскаў апошняга ў выгнанні з Крыма яго хана Катлог-Цімура (1328 г.), садзеянне вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча ў 1443 г. Хаджы-Гірэю (нарадзіўся ў Літве) заняць трон у Крымскім ханстве, уцёк пасля паражэння ў барацьбе за ўладу хана Залатой Арды Сеід Ахмета ў Вільню, абвастрэнне адносін Крыма і Літвы пры Менглі-Гірэі і набегі татар на наш край у 1508, 1510, 1521 і 1527 гг.

Разнастайныя старонкі з жыцця беларускіх татар у далёкім і параўнальна блізкім мінулым асвятляюцца ў артыкулах многіх іншых аўтараў: Т. Байрашаўскайтэ "Мусульманскія мячэці на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю" (1992, № 4), С. Туган-Барановскі "Мяшаныя шлюбы" (1993, № 3) і інш. Знаёмячыся з артыкуламі па гісторыі беларускіх татар, мы, несумненна, пачынаем лепш ведаць мінулае ўсяго нашага краю. Што гэта так, пераконвае і невялічкі паводле аб`ёму, але вельмі змястоўны

артыкул Л. Глагоўскай "Гасан Канапацкі" (1993, № 4). Гэты выхадзец з мінскай шляхецкай сям'і мусульманскага веравызнання быў кінуты ў такую віхуру гістарычных падзей, што некаторыя з іх проста нельга да канца зразумець, не ведаючы адносін да іх самога Гасана Канапацкага. Так, паверыўшы ў беларусафільскія намеры Юзафа Пільсудскага, ён у чыне палкоўніка бярэ самы актыўны ўдзел у стварэнні беларускага войска і становіцца яго першым камандзірам, садзейнічае беларусізацыі вайсковай службы. Пасля падпісання у 1921 г. Рыжскага дагавора пераязджае ў Вільню, дзе ў розныя гады выконваў абавязкі старшыні Рады старэйшых Беларускага музычна-драматычнага гуртка, сакратара Беларускага грамадзянскага сабрання, намесніка старшыні ***Часовай беларускай рады*** (з 1926 г. называлася ***Беларуская нацыянальная рада***), кіраўніка рэдакцыі часопіса "Беларускі радны", а ў гады Другой сусветнай вайны — старшыні бацькоўскага камітэта пры беларускай гімназіі ў Вільні.

Не забываецца квартальнік на ваенныя традыцыі, якія на працягу стагоддзяў займалі адно з найважнейшых месцаў у жыцці беларускіх татар. Гэтай тэме прысвечаны артыкулы Ю. Крыніцкага "Генерал Мацей Сулькевіч" (1991, № 1-2), І. Піваварчыка "Генеалогія роду царэвічаў Астрынскіх (1991, № 4). Зусім невядомымі для многіх з'яўляюцца факты, што прыводзяцца ў невялікім паводле памераў артыкуле "Эскадрон татарскіх уланаў у вайне з немцамі ў 1939", якому не раз даводзілася ўступаць у бой з добра ўзброенымі рэгулярнымі фашысцкімі часцямі. Асабліва цікава склаўся лёс былога ўлана гэтага эскадрона, а цяпер эмігранта ў Англіі клецкага татарына Мустафы Абрамовіча.

У цэнтры ўвагі рэдакцыі "*Байрама*" знаходзіцца асвятленне такіх важных пытанняў, як жыццё беларускіх татар у эміграцыі, ахвяры суродзічаў у час

сталінскіх рэпрэсій, удзел у барацьбе з фашысцкімі акупантамі і інш., дзе вырашалася жыццё гэтай нацменшасці нашага краю. Каго цікавіць першае з пералічаных пытанняў, адрасую да артыкула Ст. Я. "Беларуска-мусульманскія імігранты ў задзіночаных гаспадарствах" (1992, № 4). З яго мы даведваемся, што трапіўшы на пачатку стагоддзя ў ЗША, татары нават у другім пакаленні яшчэ ўжывалі паміж сабой беларускую мову, захавалі беларускія прозвішчы. Знаёмячыся са штоквартальнікам "*Байрам*", знаходзім факты, што і сёння гучыць беларуская мова ў многіх нашых татар, якія жывуць у блізкім ці далёкім замежжы. Вось таму за актыўны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары нашыя суродзічы з Польшчы (г. Гданьска) і Малдовы накіравалі на Першы з`езд беларусаў свету і татар Мусу Канапацкага (ён сын мінчука Гасана Канапацкага), Аміна Гізатуліна (ураджэнец Беларусі, добра валодае яе дзяржаўнай мовай).

У сувязі з набліжэннем 50-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі і 50-годдзя з дня разгрому фашысцкай Германіі квартальнік "*Байрам*" стаў больш увагі надаваць таму, як падзеі Другой сусветнай вайны адбіліся і на лёсе татар. У 4-м нумары за 1993 г. гэтаму прысвечаны цікавы артыкул А. Кавалені "Да пытання ўдзелу татар у партызанскім руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны". Падобнага мне яшчэ не даводзілася чытаць у навуковай літаратуры ці ў публіцыстыцы. У гэтым жа нумары змешчаны дасланыя Л. Драбовіч прозвішчы ўраджэнцаў Татарстана, якія загінулі ў баях за вызваленне Гродзенскага раёна. Сярод іх, як няцяжка вызначыць, пераважаюць татары або іншыя мусульмане.

З асаблівай зацікаўленасцю чытаюць беларускія татары ў квартальніку пра выдатных дзеячаў, што выйшлі непасрэдна з іх асяроддзя. Такія матэрыялы даволі часта трапляюць на яго старонкі. Шмат

адметнага паведаміў ён чытачам з нагоды 70-годдзя выдатнага пісьменніка і вучонага, моцна ўлюблёнага ў беларускі край Сцяпана Александровіча (1991, № 4). Думаю, А. Бельскі меў усе падставы назваць артыкул, прысвечаны слыннаму сыну нашых татар, такімі ўзнёслымі словамі: "Дай Бог, каб кожны беларус так моцна любіў Беларусь, як гэты татарын. Дай Бог!" Правамернасць такой назвы пераканаўча пацвярджаецца зместам артыкула. Толькі адным пералікам у ім прац С. Александровіча пра Беларусь і яе знакамітых людзей можна ўразіць любога чытача, бо здзейсніць такую тытанічную працу дадзена не кожнаму творцу.

З прыемнасцю хочацца адзначыць, што ў С. Александровіча і сёння ёсць шчырыя паслядоўнікі, якія актыўна садзейнічаюць беларускай справе, удала спалучаючы гэта з самаадданай працай на карысць татарскай ідэі. Тут найперш за ўсё хацелася б згадаць навукоўца І. Канапацкага, які пры ўсёй занятасці як віцэ-прэзідэнт згуртавання **"Аль-Кітаб"** чынна ўдзельнічае і ў беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні. Відаць гэта з таго, што ён адным з першых пачаў чытаць лекцыі па гісторыі ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.М. Горкага (цяпер Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт) на нашай дзяржаўнай мове.

З абуджэннем этнічнай самасвядомасці беларускіх татар зусім зразумелай становіцца іх настальгія па роднай мове. Бо ніводзін народ ці толькі яго адгалінаванне не адчуюць сябе ўпэўненымі ў развіцці, калі гэты духоўны скарб знаходзіцца ў занядбанні. У моц не так суб'ектыўных, як аб'ектыўных фактараў гэты скарб у нашых татар занядбаны. Квартальнік імкнецца растлумачыць ім прычыну і паказаць шляхі выйсця з моўнага крызісу. Лічу вельмі слушным, што пры вытлумачэнні дадзенага складанага і супярэчлівага пытання чытачам дазволілі пазнаёміцца з поглядам на яго згаданага вышэй крымскататарскага асветніка Ісмаіла

Гаспрынскага. Вось яго, на першы погляд вельмі прымітыўнае, але выключна правільнае тлумачэнне: "З прычыны таго, што жонкі пасяленцаў-татар (маюцца на ўвазе самыя першыя генерацыі — Л. Л.) не разумелі зусім па-татарску, ужо першае пакаленне літоўскіх* татарчукоў гаварыла больш мовай маці, г. зн. па-літоўску, чым па-татарску, так што праз некалькі пакаленняў татарская мова знікла з ужытку і мова літоўская стала нацыянальнай мовай тамашніх татар" (1991, № 1, с. 14). Са зместу гэтай цытаты лагічна вынікае, калі такую вырашальную ролю жанчына адыграла ў страце татарскай мовы, такую ж ролю яна змагла б адыграць і ў яе аднаўленні. Але дзе ўзяць беларускім маладым татарам такіх жонак, што ведаюць мову сваіх продкаў? Тут, на Беларусі, іх няма, і невядома, калі яшчэ з`явяцца.

І ўсё ж, нягледзячы на неверагодныя цяжкаці, пэўныя крокі ўжо зроблены па далучэнні беларускіх татар да арабскай мовы, на якой ва ўсіх мусульманскіх краінах выдаюцца святыя кнігі. З гэтай мэтай у "*Байраме*" (1992, № 2) змешчаны выдадзены яшчэ ў 1937 г. у Вільні "Практычны падручнік пачатковага чытання па-арабску". Загадзя ведаючы, якія вялікія намаганні запатрабуюцца дзеля авалодання звычкамі чытання арабскага тэксту, пачаткоўца ў гэтай высакароднай справе падбадзёрылі такім змешчаным перад "Практычным падручнікам..." слушным мусульманскім выслоўем: "Калі чалавек добра чытае Кур`ан — гэта пахвальна, а калі слаба чытае, але вельмі стараецца, то гэта яшчэ лепш".

Несумненную карысць па далучэнні татар да роднай мовы прынясе азнаямленне іх з кароткім Беларуска-крымскататарскім слоўнікам, які пачаў друкавацца з 2-3 нумара "*Байрама*" за 1991 г. Усяго ў ім 1100 слоў і сказаў, але такіх, што дазволяць

---

* Пад гэты словам трэба разумець "беларускіх".

хоць на бытавым узроўні карыстацца роднай татарам мовай. Гэты слоўнік склаў Ісмаіл Меметаў.

Найвялікшым і зусім справядлівым клопатам выдаўцоў "*Байрама*" з`яўляецца дапамога сваім суродзічам на Беларусі ў далучэнні да рэлігіі дзядоў і бацькоў — *Ісламa*, дзякуючы толькі якому і захаваліся беларускія татары як адметная этнічная супольнасць. З нумара ў нумар квартальнік багата змяшчае матэрыялаў па дадзенай тэме. У ім з першага нумара за 1991 г. пачаў друкавацца і друкуецца пасёння поўны тэкст свяшчэннай мусульманскай кнігі "**Кур`ан**". Змешчаны таксама Мусульманскі каляндар (турэцкі і арабскі) з падрабязным пералікам святочных і памятных дзён (1992, № 4).

Сведчаннем сур`ёзнага падыходу да адраджэння духоўных традыцый гэтай нацыянальнай меншасці нашай рэспублікі з`яўляецца актыўна распачатая праца па стварэнні энцыклапедычнага даведніка пра татар-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы. Першыя артыкулы на літару "А" з будучага слоўніка былі надрукаваны ўжо ў трэцім нумары за 1992 г. і, на мой погляд, нясуць вельмі цікавую інфармацыю для самага разборлівага і патрабавальнага чытача. Пераканацца ў гэтым можна пазнаёміўшыся з тымі матэрыяламі, якія даюцца ў артыкулах даведніка пад назвамі "Астрынскія", "Ахматовіч Асман", "Віталь Вольскі", "Сям`я", "Стаўбцоўскі бой" (1792 г.) і інш.

Адчуваючы непарыўную повязь з суродзічамі ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, а пазней Рэчы Паспалітай, беларускія татары жыва цікавяцца, а як жа сёння на гэтых землях захоўваюцца іх нацыянальныя традыцыі? І рэдакцыя "*Байрама*" шырока інфармуе пра гэта свайго чытача. Асабліва не забываецца паведаміць пра адкрыццё там мусульманскіх храмаў, нібыта напамінаючы, што шляхі да іх заснавання трэба настойліва шукаць і

тут, на Беларусі, дзе некалі існавала нямала такіх святыняў.

Сённяшняга дасціпнага чытача — і не толькі таго, хто чытае "*Байрам*", — напэўна ж, цікавіць пытанне сучаснага рассялення татараў на Беларусі. Такую даведку можна знайсці ў чацвёртым нумары квартальніка за 1991 г. Шкада толькі, што ў ёй няма адказу на пытанне: колькі ж з іх ліку цадае на асоб спрадвечных родаў беларускіх татар, а колькі на перасяленцаў апошніх дзесяцігоддзяў?

Само сабой зразумела, што ў беларускіх татар, карані якіх сягаюць у сівую мінуўшчыну Беларусі, ёсць нямала адметнага ад сваіх супляменнікаў, што толькі ў першым ці другім пакаленнях жывуць на яе зямлі. Сапраўднай інтэграцыі паміж гэтымі катэгорыямі яшчэ не адбылося і хутчэй за ўсё таму, што апошнія тут, на беларускай зямлі, жывуць не тымі традыцыямі, як першыя. Іх мала цікавяць нацыянальна-культурныя інтарэсы карэннага насельніцтва Беларусі і, адарваўшыся ад сваіх, яны жадаюць у большай меры жыць паводле рускіх культурна-моўных стандартаў, чым беларускіх, паколькі да першых іх лепш дастасавала колішняе жыццё. Нашы ж гістарычныя татары, дзякаваць Богу і Алаху, зыходзяць з зусім іншых пазіцый і часам сваёй павагай да беларускіх культурна-моўных традыцый ніколькі не ўступаюць іх этнічным носьбітам. Верыцца, што з цягам часу павернуцца тварам да іх і татары-імігранты, таму што нельга жыць у абранай у якасці другой радзімы суверэннай дзяржаве, не шануючы яе нацыянальна-культурных традыцый, не ведаючы яе дзяржаўнай мовы, што ні ў якім выпадку не азначае вырачэння ад сваіх уласных духоўных каштоўнасцей. Любові такіх татар-імігрантаў да культуры і мовы карэннага насельніцтва нашага краю, напэўна ж, паспрыяе іх збліжэнне з беларускімі татарамі. Апошнім часам такое збліжэнне становіцца больш прадметным і змястоўным, чаму мэтанакіравана садзейнічае

рэдакцыя часопіса "*Байрам*". На яго старонках ужо надрукаваны шэраг артыкулаў, аўтарамі якіх з`яўляюцца татары, што нядаўна абралі Беларусь сваёй другой радзімай, да прыкладу "Добры дзень! Як добра, што мы з вамі сустрэліся" Р. Архіпавай (1993, № 1-2). Хто рэгулярна чытае дадзенае перыядычнае выданне, не мог не заўважыць, што яно сістэматычна падае цікавыя звесткі пра славутых асоб татарскага паходжання, але не ўраджэнцаў Беларусі. Зразумела, не забылі і пра салістку Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага вялікага тэатра оперы і балета, выпускніцу Ленінградскай кансерваторыі (1980 г.) Нагіму Галееву (1992, № 4). Цудоўны голас гэтай спявачкі гучаў на канцэрце, які ладзіўся ў сакавіку 1993 г. для ўдзельнікаў Першай міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы".

Беларускія татары ў мінулым і цяпер адчувалі і адчуваюць сябе арганічнай часткай сусветнай татарскай супольнасці людзей, што з першых нумароў разглядаемага перыядычнага выдання ўлічваецца яго рэдкалегіяй. Асвятляючы розныя аспекты гісторыі, культуры і побыту мясцовых татар, яна імкнецца друкаваць матэрыялы і пра іх агульную супольнасць. Многія з іх напісаны на высокім прафесійным узроўні, у стане задаволіць густы самых эрудзіраваных чытачоў.

Вечна будзе хваляваць усіх татар — і не толькі іх! — палітыка сталінскага генацыду да іх братоў, што жылі ў Крыме і таму сёння маюць усе правы быць там поўнымі гаспадарамі. Гэта з`явілася б хоць мікрачасцінкай па кампенсацыі віны за тыя жахлівыя чалавечыя ахвяры, што прычынілі крымскім татарам савецкія рэпрэсіўныя органы; за час транспарціроўкі і за паўтара гады жыцця ў высылцы загінула 46% гэтага шматпакутнага народа. Шэраг цікавых артыкулаў па дадзенай праблеме ўжо змешчаны ў квартальніку. "Усё тайнае становіцца яўным. Трэба толькі цярпліва чакаць" (1991, № 2-3),

"Крымскае ханства" (1992, № 2. Уступ да артыкула) і інш.

Сталую прапіску на старонках "*Байрама*" знаходзяць матэрыялы пра жыццё тых адгалінаванняў татарскага народа, якія па розных прычынах знаходзяцца ўдалечыні ад асноўнай тэрыторыі яго сучаснага рассялення, што заканамерна выклікае немалыя цяжкасці ў рэалізацыі нацыянальна-духоўных інтарэсаў. Добра пераконвае аб гэтым, да прыкладу, артыкул Р. Уразава "Горкая доля касімаўскіх татар" (1993, № 3).

Выдаўцы "*Байрама*" заслугоўваюць самай высокай пахвалы за іх сталае імкненне знаёміць чытачоў з выдатнымі асобамі татарскага народа, што нарадзіліся ў Паволжы, Крыме ці іншых краінах. Азнаямленне з такімі матэрыяламі будзіць у чалавека гонар за свой народ, нараджае жаданне і самому штосьці такое зрабіць для яго ўзвышэння. Хто рэгулярна знаёміцца са зместам гэтага выдання, думаю, з вялікай карысцю для сябе прачытаў артыкул пра рэдактара першай у Крыме татарскай газеты Ісмаіла Гаспрынскага ("*Байрам*", 1991, № 1), пяру якога належыць цікавая брашура аб літоўскіх (беларускіх) татарах. Заслужаную павагу народа выкліча, несумненна, у кожнага татарына азнаямленне з прагрэсіўнымі пазіцыямі такога выдатнага грамадскага дзеяча, якім быў класік татарскай літаратуры Гаяз Ісхакі. Пра адраджэнне памяці аб ім паклапаціўся Р. Хакім у артыкуле "Доўгі і цяжкі шлях да волі" ("*Байрам*", 1992, № 4). З усёй багатай творчай спадчыны гэтага выдатнага сына татарскага народа найбольшая ўвага надаецца аналізу яго поглядаў на адукацыю. Аўтар справядліва заўважае, што крылатыя словы Гаяза Ісхакі: "Адукацыя — першы крок на шляху да волі!" і сёння актуальна гучаць для татараў і асабліва беларускіх, бо і на самой справе без належнай асветы

ім вельмі цяжка будзе дасягнуць чагосьці станоўчага ў сваім нацыянальным адраджэнні. Заўважу, што прагрэсіўныя думкі Гаяза Ісахі паступова становяцца рэальнасцю на Беларусі: ужо з восені 1992 г. у Мінску і Іўі пачаліся заняткі ў мусульманскіх школах. Гэтаму прысвечаны два артыкулы: І.Канапацкі "У добры шлях!" і І.Варановіч "Вывучаюць арабскую грамату" (1994, №4). Трэба спадзявацца, што і зацікаўленасць да татарскай супольнасці ўвогуле вырасце ў яе адгалінаванні на Беларусі, калі хтосьці з яго прадстаўнікоў прачытае змястоўную навукова-папулярную працу самога Гаяза Ісхакі "Ідэль-Урал", якую пачаў друкаваць "*Байрам*" з № 1-2 за 1993 г.

Вялікую павагу да рэдакцыі "*Байрама*" выклікае яе сталае імкненне сказаць штосьці пра нашых землякоў, якія ў сваёй навуковай, творчай ці іншай дзейнасці не абыходзілі татарскага пытання. Ужо ў самім такім імкненні можна бачыць жаданне беларускіх татараў жыць у міры і згодзе з карэнным насельніцтвам нашага краю. Такіх жа людзей, што пісалі пра татараў, было і ёсць нямала сярод беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сярод іх самае ганаровае месца займае і будзе займаць ураджэнец Наваградчыны, прафесар Санкт-Пецярбургскага універсітэта, заснавальнік навуковай арабістыкі ў Расіі Антон Мухлінскі (1806-1877 гг.). Пра яго жыццё і творчую дзейнасць гаворыцца ў артыкуле "У галіне арыенталістыкі" (1992, №1) Генадзя Каханоўскага. Цалкам можна пагадзіцца з той высокай ацэнкай, якая тут даецца кнізе А.Мухлінскага "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар" (СПб. 1857 г.), бо такіх падрабязных і верагодных звестак аб нашых суайчынніках не знайсці ў якіх-небудзь іншых публікацыях падобнага роду.

Належную ўвагу надалі ў "*Байраме*" укладу вядомага беларускага грамадскага дзеяча, акадэміка

БелАН Вацлава Ластоўскага ў распрацоўку татарскай прабламатыкі. У квартальніку (1993, №3) змешчаны восем старонак з яго працы "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", прысвечаныя аналізу тэкстаў татарскай святой кнігі "Аль-Кітаб".

Сур'ёзная праца праведзена і вядзецца па адшуканні матэрыялаў пра беларускіх татараў, што трапілі на старонкі газет і часопісаў рэспублікі ў міжваенны перыяд і асабліва ў 20-я гады, калі пад уплывам беларусізацыі вучоныя і публіцысты праяўлялі павышаную зацікаўленасць да гісторыі, культуры і побыту ўсіх нацменшасцяў, якія жылі на нашай зямлі. Даволі змястоўная публікацыя Л. Цьвяткова "Некалькі слоў аб менскіх татарах" ("Наш край", 1927, № 6-7) змешчана ў 2-3 нумары "*Байрама*" за 1991 г. З перадрукаў наступнага нумара за той жа год можна назваць артыкул "Бітва пад Магільным і Койданавам" з кнігі М. Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа" (Мн., 1989 г.) і вельмі грунтоўную публікацыю з кнігі доктара Яна Станкевіча "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом" (маецца на ўвазе выдадзеная ў 1933 годзе кніга данага аўтара — Л.Л.), "З гісторыі паселішчаў татар у Беларусі" А. Грыцкевіча ("Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1981, № 6). З найбольш новых перадрукаў назавем артыкул В. Станкевіча "Бацькава адысея", узяты з літаратурна-навуковага гадавіка "Скарыніч" (Мн., 1993, вып. 3). Такі матэрыял нельга было не змясціць у "*Байраме*" (1993, № 4), бо ў ім гаворка пра выдатнага беларускага даследчыка татарскіх кітабаў Яна Станкевіча.

Такая павага да даследчыкаў татарскай тэматыкі ініцыіруе і сённяшніх вучоных і публіцыстаў актыўна займацца яе вывучэннем, што пацвярджаецца і шырокім колам аўтараў, якія выступаюць на старонках "*Байрама*". Заслугоўвае ўхвалы задума С. Жлобы з Брэсцкага

дзяржпедінстытута распачаць на Беларусі грунтоўныя этнаграфічныя даследаванні татарскай праблемы. У сваім артыкуле "Для этнографаў і этнолагаў" (1993, № 3) ім слушна выкладзены асноўныя напрамкі такой даследчыцкай працы, пры ажыццяўленні якой, несумненна, удасца адкрыць шмат чаго цікавага ў этнагенезе не толькі беларускіх татар, але і самога карэннага насельніцтва нашага краю. Адзінае, з чым нельга цалкам пагадзіцца, — гэта калі С. Жлоба піша, што ў мінулым на беларускіх татар "этнографы амаль не звярталі ўвагі" (с. 47). Увага не звярталася толькі па лініі афіцыйных уладаў, таму такія велізарныя страты ў культуры гэтай нацменшасці Беларусі. Але ж мы ведаем, што шэтыя ўлады вельмі часта былі абыякавымі і да нацыянальных інтарэсаў яе карэннай нацыянальнасці. А вучоных жа цікавіла татарская праблема, пра што сведчыць немалы ўклад іх у яе распрацоўку, асабліва ў гады міжваеннай беларусізацыі.

Сам факт выдання "Байрама" на працягу ўжо больш чым трох гадоў паказвае, што беларускія татары рашуча сталі на шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння, які ні для каго не быў прамалінейным і лёгкім. Ёсць і будзе ён такім і для нашых татар, што, аднак, не павінна выклікаць у іх асяроддзі якіх-небудзь непаразуменняў і сумненняў, бо сёе-тое станоўчага ўжо дасягнута і на сённяшні дзень. Ці ж не сведчыць пра гэта і такі факт, што за даволі кароткі тэрмін ад часу свайго заснавання Згуртаванне татар-мусульман на Беларусі (**"Ал-Кітаб"**) змагло правесці і такое важнае мерапрыемства, як міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па тэме "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы" (сакавік 1993 г.)? У яе працы бралі ўдзел многія грамадскія дзеячы, навукоўцы, у т. л. і запрошаныя з іншых краін. На пленарным пасяджэнні і падчас працы дзвюх секцый заслухана больш за 60 дакладаў

і навуковых паведамленняў. Большасць выступленняў прагучала на беларускай мове. Пачуць тут таксама можна было татарскую і арабскую мовы. Рэкамендацыі (адзначу: вельмі змястоўныя) гэтай канферэнцыі змешчаны ў падвойным 1-2 нумары "*Байрама*" за 1993 г. І лічу за вялікую памылку, што перыядычны друк рэспублікі не азнаёміў з імі масавага чытача, бо ў іх утрымліваецца нямала чаго такога, што навяло б на слушныя думкі і ў дачыненні да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, якое ніколькі не лепш ажыццяўляецца, як у некаторых нашых нацменшасцяў. Іх вопыт для нас, беларусаў, зусім не абыякавы. Ад татар, да прыкладу, многаму можна павучыцца, як у мэтах духоўнага адраджэння трэба выкарыстоўваць патэнцыял рэлігіі сваёй далёкай і блізкай дыяспары. Таму давайце і мы, беларусы, станем актыўнымі чытачамі квартальніка "*Байрам*", бо публікацыі яго скіраваны пераважна на асвятленне праблемы сучаснага нацыянальнага адраджэння, з чым нішто ні ў нас, ні ў татар не можа параўнацца па сваёй надзённасці і актуальнасці.

## ПРАГРАМА "ШМАТГАЛОССЕ" І ЯЕ СТВАРАЛЬНІКІ

У красавіку 1993 года выйшла на экран Беларускага тэлебачання праграма "Шматгалоссе" — перадача на мовах нацыянальнасцяў, што жывуць на Беларусі — пра людзей, прадстаўнікоў гэтых нацыянальнасцяў, іх гісторыю, культуру, традыцыі, сённяшні дзень. Пра побыт, мары, надзеі.

У першай жа праграме разам з расказамі аб палякax, украінцах, яўрэях былі прадстаўлены татары — даўнія суседзі беларусаў. Гледачы разам з карэспандэнтам "пабывалі" у Смілавічах —

старажытным селішчы татар, зайшлі ў хаты, пагаварылі аб мінулым і сучасным. Многія, можа ў першы раз, убачылі мусульманскія мугіры, свяшчэнныя кнігі Курана, напісаныя арабскай вяззю, даведаліся аб некаторых традыцыях, пакланіліся старажытным магілам на мусульманскіх могілках. У наступных перадачах было паказана свята **КУРБАН-БАЙРАМ** у Іўі, урачыстае набажэнства ў мячэці, лагер для адпачынку мусульманскіх дзяцей пад Радашковічамі. Гледачы даведаліся аб блізкім сваяцтве беларускай і татарскай культур, аб вучоных, военачальніках, дзеячах культуры татарскага паходжання, аб ролі татарскай лексікі ва ўтварэнні беларускіх прозвішчаў і тапанімічных назваў...

І не толькі для суседзяў-беларусаў сталі адкрыццём татарскія звычаі і традыцыі. Многія татары самі ўпершыню пачулі гучанне татарскай мовы, вершы татарскіх паэтаў, якія прачытала ў першай праграме Галія Фарытава.

Зараз над праграмай "Шматгалоссе" працуе ўжо цэлая творчая брыгада. А ў пачатку амаль год ёю займаліся толькі два чалавекі — рэжысёр Надзея Калініна і намеснік галоўнага рэдактара, Заслужаны работнік культуры БССР Алена Аўрынская (зараз кіраўнік праграмы).

Алена Аўрынская — журналіст, працуе ў Дзяржтэлерадыё 30 гадоў, доўгі час загадвала аддзелам эканомікі сельскай гаспадаркі. Яна яшчэ да "перабудовы" сказала многа з таго, пра што іншыя асмеліліся гаварыць пасля аб'яўленай галоснасці. "Галоснасць павергла мяне ў крызіс жанру, — гаворыць Алена Сцяпанаўна. — Тэма нацыянальных меншасцяў вывела з яго, бо: па-першае, пра гэта яшчэ амаль нічога не было сказана; па-другое, у наш смутны час гаварыць пра дружбу народаў, спрыяць гэтай дружбе лічу сваім абавязкам".

Аўрынская — беларуска, яе продкі Трукшыны паходзяць з літоўскіх Трокаў, на Беларусь пераселены генералам Мураўёвым пасля падаўлення

паўстання 1863 года. Гэта па бацькоўскай лініі, а маці Ганна Іванаўна Копць паходзіла з беларускіх сялян Гродзеншчыны. Замужам Алена Сцяпанаўна за рускім дваранінам Генадзем Аўрынскім. Дачка Кацярына лічыць сябе беларускай і нядаўна абаранілла дыплом на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта на тэму "Станаўленне тэлевізійнага вяшчання на мовах нацыянальных меншасцяў Беларусі і на прыкладзе праграмы "Шматгалоссе".

Калі хто захоча падказаць праграме "Шматгалоссе" цікавую тэму, прапанаваць адрас для здымкаў, пішыце: 220807, Мінск, Макаёнка, 9. Альбо тэлефануйце: 63-84-98.

# ГАЛАСЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

## Бісміляягі рагмані рахім

Я беларуская татарка-мусульманка. Пачуўшы, што ў Мінску ёсць таварыства татар-мусульман, мне захацелася пабываць там і пазнаёміцца з людзьмі.

Першае маё знаёмства было на сустрэчы Новага 1994 года. Затым я стала наведваць нядзельную школу. Мне вельмі цікава хадзіць на заняткі, дзе вывучаюць арабскую мову, гутарыць з людзьмі, якія вучацца чытаць Кур`ан. У дзяцінстве мая мама навучыла мяне некалькім малітвам на арабскай мове. Я іх запомніла, хоць і не ведала іх значэння. Зараз я ведаю, пра што ў гэтых малітвах. І яшчэ ў нядзельнай школе я даведалася пра многае з таго, што павінен ведаць кожны мусульманін і кожная мусульманка.

Я ўдзячна ўсім, хто клапоціцца аб адраджэнні нашага невялікага народа.

Радкевіч Галіна Амуратаўна, пенсіянерка.

Паэтка Ала Канстанцінаўна Маліноўская нарадзілася на Нясвіжчыне, цяпер жыве пад Мінскам у Ждановічах, працуе ў ждановіцкай сярэдняй

школе. Прыязна ставіцца да згуртавання **"Ап-Кітаб"**. Нядаўна яна даслала нам нізку сваіх вершаў, якія мы прапануем чытачам.

### Рифмы

Прошу меня не кантовать,
Сейчас устроюсь, будто спать,
Сама же буду сочинять —
Люблю я в рифмы поиграть.

Они ко мне давно приходят,
Когда легко, когда с натяжкой,
Во мне роятся, верховодят
И я ищу перо, бумажку.

Как будто мухи с потолка
Слетятся буквы все в тетрадку,
Одна одну начнут толкать,
Пока усядутся порядком.

Порядок тот даёт слова,
Слова выстраивают строчки,
Все в исправлениях сперва —
Так, стих, не стих, а лишь кусочки.

Я те кусочки собираю,
Чтоб получился смысл и стих.
Теперь я вам его читаю
И рада, что так зал притих.

### Пра ягады

Глянь, сунічкі, што за дзіва!
Быццам зорачкі гарадь,
Так мігаюць зіхатліва,
Самі просяць іх сарваць.
Ну, дык рві, ды не лянуйся.
Імі ўволю паласуйся,
А яшчэ красунь-малінаў
І чарніц, і журавінаў...
Столькі розных ягад ёсць тут —
Хопіць нават на ўсю вёску!

### Успамін з дзяцінства

Даўно пішу я свае вершы.
Мне дзесяць год было тады,
Як напісала я свой першы —
Мне самы лепшы назаўжды.
Ужо сівеюць мае скроні,
Але той першы вершык свой
Я памятаю і сягоння,
Ён у ва мне жыве, са мной.
Мяне ён кліча у дзяцінства
І ясна бачу прад сабой,
Як над сялом б`е навальніца,
У небе хмары чарадой.
Пасля дажджу мчаць раўчукі
І брацік мой пусціў караблік,
Малы і смешны ён такі,
Зусім маленькі і нязграбны.
Бяжыць услед па раўчуку,
(Не здагадаецца, каб збоку),
Дагнаў і працягнуў руку
Узяць караблік — той наўцёкі.
Так шмат разоў і ўсё няўдача,
Ніяк не ўзяць караблік той,
Малы ўпаў у ручай і плача,
Ляжыць, змагаецца з вадой.
Шкада малога й смешна неяк —
Караблік той дагнала я,
Малога падняла з каленяк
І хутка ў хату занясла.
Мы разам справіліся з горам,
Усе слёзы высахлі, як бач.
Мой брат... Праз год яму ўжо сорак,
Такі вялікі... барадач!
А мне здаецца зноў убачу,
Прыеду толькі ў сяло,
Той ручаёк, дзе брацік плача —
Як быццам учора ўсё было.

Гультаяватая ж зязюля
Ніколі не была матуляй,
Свае выседжываць яечкі
Яна не ўмее — недарэча.

Дапамагаюць ёй усе птушкі:
І ў лесе, й хатнія нясушкі.
Каб так было сярод людзей —
То не было б сірот-дзяцей.

1994 г.

### Памылка

Мне прынеслі аднойчы стос вершаў напячатаць.
Пісалі вучні школы пра мір і пра салдатаў...
Я ўважліва і пільна ўсе вершы прачытала,
Дзе трэба, як настаўнік, памылкі паспраўляла
І, раптам, нечакана, лаўлю сябе на слове,
Што я шчэ не пісала на беларускай мове!
Люблю сваю Радзіму і мову сваю пылка,
Пісала ж я па-руску, мо ў тым мая памылка?
Але яшчэ не позна, памылку я спраўляю:
Пішу па-беларуску, пішу і размаўляю.

## ЗАКЛАДКА КАМЕНЯ Ў ФУНДАМЕНТ МЯЧЭЦІ Ў ДАНЕЦКУ

Па запрашэнні Татарскага аб`яднання Украіны для ўдзелуў закладцы каменя першай на Украіне мячэці (не лічачы Крыма) ад мусульман Беларусі выязджаў прадстаўнік Упраўлення Мусульманскага рэлігійнага аб`яднання І. М. Александровіч.

Частка запрошаных гасцей ранкам 15 траўня 1994 г. вылецела самалётам з Кіева ў Данецк, дзе з нагоды такой урачыстасці быў ўстаноўлены камень, абгорнуты тканінай, зроблены подыум для выступоўцаў; непадалёк ад месца будучай мячэці знаходзілася зала для правядзення канцэрта.

У 11 гадзін пачалася ўрачыстая частка. Шаноўнага ўзросту імам Данецка прачытаў малітву, затым аяты з Кур`ана, 36-` суры Я-СІН і завяршыў рэлігійную частку ўрачыстасці чытаннем першай

суры з Кур'ана — АЛЬ-ФАТЫХАЙ. Пасля гэтага была знята тканіна з каменя і вачам вернікаў адкрыўся надпіс, які сведчыць аб тым, што на гэтым месцы будзе ўзведзена мячэць г. Данецка. Камень устаноўлены 15.05.1994 г. (4-га зіль-хаджджа 1414 г. Хіджра). Затым старшыня Татарскага аб'яднання Данецка (ён кіраваў гэтай падзеяй) перадаў слова для вітанняў і пажаданняў прадстаўнікам рэспублікі і горада. Першым выступіў прадстаўнік галоўнага спонсара будаўніцтва — турэцкай амбасады ў Кіеве, затым — прадстаўнікі амбасад Алжыра, Ірана, Туніса, намеснік муфтэя Крыма, памочнік муфтэя Украіны, старшыня Упраўлення Мусульманскага рэлігійнага ўпраўлення Беларусі, імам Растова-на-Доне, мэр Данецка, дырэктар шахты — аднаго са спонсараў будаўніцтва мячэці, прадстаўнік урада Украіны і інш.

Пасля рэлігійнага мітынгу для яго ўдзельнікаў быў дадзены канцэрт, у якім бралі ўдзел самадзейныя калектывы татарскіх згуртаванняў Кіева і Харкава. Выконваліся татарскія народныя песні, танцы, чыталіся вершы татарскіх паэтаў, гучала народная музыка.

Абменьваючыся думкамі аб выніках гэтай падзеі, амаль усе прыйшлі да высновы, што мусульмане былога Савецкага Саюза імкнуцца да духоўнага адраджэння і ёсць надзея на падтрымку добрых мусульманскіх спраў ва ўсіх краінах. З гэтай надзеяй і імкненнем змяніць сітуацыю на лепшае развіталіся ўдзельнікі закладкі мячэці ў Данецку.

**І. Кпецкі.**

# ВЕСТКІ ПРЫЕМНЫЯ

У сярэдзіне чэрвеня 1994 г. зарэгістравана 14-я мусульманская абшчына на Беларусі. Адраджаецца мусульманская вера ў гарадскім пасёлку Відзы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Калісьці гэта быў цэнтр аднаго з самых мнагалюдных мусульманскіх джаміятаў у Польшчы, была мячэць. У час мусульманскіх свят тут, на мізары сустракаюцца татары, чые продкі і родзічы пахаваны на гэтым месцы.

Як мы ўжо паведамлялі ў мінулых выпусках "Байрама" (№№ 1-2 за 1993 г.), у Менск двойчы прыязджаў з Татарстана з Набярэжных Чаўноў прадстаўнік гандлёвага дома братоў Кашапавых — Фаніс Аглямавіч Шайхутдзінаў. Ён прывёз навучальную літаратуру для нядзельных школ і каштоўны падарунак — насценны гадзіннік для мячэці, якая, калі на гэта будзе ласка Аллаха (Іншалла), будзе пабудавана ў Менску.

Браты Рафіс і Нафіс Кашапавы вядомы сваёй дабрачыннай дзейнасцю сярод нашых мусульман. На іх сродкі будуецца саборная мячэць у Набярэжных Чаўнах. 17-18 траўня (напярэдадні 50-годдзя праведзенай па загаду Сталіна дэпартацыі татар з Крыма) у Сімферопальскі раён Крыма быў пасланы гэтымі братамі гуманітарны груз: 160 мяхоў мукі, 100 мяхоў цукру, 8 тон бульбы, падарункі для татарскіх дзяцей.

15 чэрвеня ў Менску былі прадстаўнікі гандлёвага дома братоў Кашапавых — Мансур Курбанаў і Наіль Хафізаў. Яны прывезлі для нас шмат літаратуры па гісторыі, культуры, навучальнай літаратуры для нядзельных школ, каштоўныя падарункі для татарскіх жанчын — прыгожыя нацыянальныя хусткі.

У прыёмнай Вярхоўнага Савета Беларусі яны пакінулі каштоўны падарунак — вялікі насценны гадзіннік з надпісам: "У дар парламенту Беларусі ад

Татарскага Грамадскага Цэнтра, братоў Кашапавых і Саюза Татарскай Моладзі "Азатлык".

Шчыры беларускі дзякуй і вялікі татарскі рахмет братам Кашапавым і іх прадстаўнікам. Няхай ухваліць Аллаг стараннасць вашу ў імя Яго.

**3 чэрвеня 1094 г.** адбылося адкрыццё ***Цэнтра нацыянальных культур*** у Менску. Гэты Цэнтр размяшчаецца ў будынку Дома ветэранаў (вул. Я. Купалы, 21). Сродкі на ўтрыманне Цэнтра вылучыў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Тут будзе працавасць11 нацыянальна-культурных згуртаванняў, што зарэгістраваны ў нашай рэспубліцы. Для паслуг наведвальнікаў прадастаўлена актавая зала, бібліятэка, аудыторыі.

**10 чэрвеня** мусульмане г. Менска мелі магчымасць адзначыць наступленне Новага (*1415-га па мусульманскаму календару*) года. У гэтым святкаванні прынялі ўдзел каля 60 мясцовых татар, арабскія студэнты, прадпрымальнікі з мусульманскіх краін, быў запрошаны ў госці памочнік мітрапаліта Філарэта. Прысутныя павіншавалі Галію Фатыхаву, у якой з Новым мусульманскім годам супаў Дзень яе нараджэння. Святкаванне адбылося ў Цэнтры нацыянальных культур.

**12-13 чэрвеня** ў Менску адбывалася міжнародная навуковая канферэнцыя "Культура беларускага замежжа", арганізаваная Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. У канферэнцыі прынялі ўдзел грамадскія дзеячы, славутыя вучоныя сталага ўзросту і навуковая моладзь, пісьменікі — больш за 150 вучоных з далёкага і блізкага замежжа — прадстаўнікоў беларускай дыяспары.

На канферэнцыі сярод іншых выступілі члены Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Галія Фатыхава (член Саюза журналістаў Беларусі, мастацтвазнаўка, рэдактар выдавецтва

"Беларуская Энцыклапедыя") і Ібрагім Канапацкі (кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта).

**16 чэрвеня** ў штаб-кватэры Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" адбылася сустрэча сябраў "Аль-Кітаба" з удзельнікамі канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Удзельнічалі Вітаўт Кіпель — доктар геалогіі, дырэктарБеларускага інстытута навукі і мастацтва, Ганаровы доктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы, Зора Кіпель — рэдактаргазеты "Беларус", Алеся Кіпель — грамадская дзяячка, праваВед. Ад "Аль-Кітаба" бралі ўдзел віцэ-прэзідэнт згуртавання Ібрагім Канапацкі і арганізатар квартальніка "Байрам" Якуб Якубоўскі. Былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва рэдакцыі газеты "Беларус" і квартальніка "Байрам", магчымасці сувязі беларускамоўных амерыканскіх татар і інфармацыі беларусаў свету аб жыцці аб`яднання "Аль-Кітаб".

Татары выказваюць падзяку рэдакцыі газеты "Беларус" і яе пасрэдніку НВК "Тэхналогія" за рэгулярную дасылку "Аль-Кітабу" данай газеты як акт дабрачыннасці і ўвагі да нашага нешматлікага народа. Рахмат — Дзякуй!

**Напрыканцы чэрвеня** гэтага года выдавецтва "Навука і тэхніка" выпусціла кнігу ***"Бераг вандраванняў, ці адкуль на Беларусі мячэці"***, аўтар якой — вядомы спецыяліст, доктар архітэктуры А. І. Лакотка, навуковы рэдактар — М. Ф. Піліпенка. Кніга вельмі добра ілюстравана. На супервокладцы — выявы мячэцяў, якіх ужо даўно няма.

Ужо ў першыя дні, як завезлі гэту кнігу ў кнігарні, яе тут жа раскупілі. У кароткай анатацыі да гэтага кніжнага шэдэўра сказана: "Кніга прысвечана культурнай спадчыне беларускіх татар. Яны праз стагоддзі пранеслі пачуццё і ўсведамленне сваёй супольнасці і сёння захоўваюць звычаі і нормы традыцыйнага грамадскага ўкладу.

Адрасавана краязнаўцам, мастацтвазнаўцам, рэстаўратарам, этнографам" (ад сябе дадам — усім беларускім татарам. — Рэд.).

Спадзяёмся, што набыць гэту кнігу татары змогуць у Беларускім згуртаванні татар-мусульман "Аль-Кітаб".

# ВЕСТКІ СУМНЫЯ

**19 красавіка 1994 г.** ва ўзросце 96 гадоў у Клецку памёр шчыры мусульманін Александровіч Шабан Алеевіч. Нарадзіўся ён у 1898 г. у даволі вялікай (па цяперашняму часу) сям`і. Бацька Шабана — Алей Адамавіч Александровіч, маці — Зейнаб Давыдаўна з Якубоўскіх (родам з Узды). Акрамя Шабана ў сям`і былі Фурша, Адам, Айша, Фатыма, Аміня, Давыд і Ева. Цяпер жыве, дзякуй Аллагу, яго сястра Аміня (1904 г. нараджэння, маці імама Якубоўскага Бекіра з Гданьска, Польшча).

Шабан Алеевіч браў шлюб з Евай, родам з Міра, дзявочае прозвішча Шынкевіч (памерла ў 1990 г.). У іх было трое дзяцей — Сюлейман, 1930 г. нараджэння, скончыў два інстытуты, цяпер жыве і працуе ў Гродне; Адам (1903-1984) — заўчасна памёр, жыў і працаваў доктарам-ветэрынарам; Фарыда, 1939 г. нараджэння, жыве і працуе ў Менску ў навуковым эканамічным інстытуце. У дзяцей Шабана і Евы ёсць дзеці.

Пахаванне Шабана Алеевіча адбылося па мусульманскаму звычаю 20 красавіка 1994 г. на мізары ў Асмолаве, дзе хаваюць усіх мусульман з Клецка, блізкага і далёкага наваколля.

**5 чэрвеня 1994 г.** на 85-м годзе жыцця памёр у Менску Сарсенаў Нігмат Іскакавіч, мусульманін,

казах па нацыянальнасці, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, маёр у адстаўцы.

Нігмат Іскакавіч прайшоў слаўны баявы шлях на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Ён камандаваў кулямётнай ротай. За баявыя заслугі адзначаны Ордэнам Чырвонага Сцяга, двума Ордэнамі Айчыннай вайны, двума Ордэнамі Чырвогай Зоркі, шматлікімі медалямі.

Я добра ведаў, сябраваў з ім. На пахаванні, якое адбылося 7 чэрвеня 1994 г. на Паўночных могілках, было сказана: "Нігмат Іскакавіч Сарсенаў быў чалавек высокай маралі. Ён імкнуўся справай і словам дапамагаць людзям. Вёў вялікую грамадскую работу ў згуртаванні ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ў ЖЭС-14 і Маскоўскага раёна г. Менска. Цяжка перабольшыць ацэнку гэтага дружалюбнага, таварыскага і сціплага чалавека. Ён ведаў многіх і яго ведалі многія ў Менску.

Нарадзіўся ён 15 траўня 1910 г. у Казахстане, а пахаваны на беларускай зямлі. Няхай гэтая зямля будзе яму пухам. Усе, хто яго ведаў, будуць памятаць Нігмата Іскакавіча да канца сваіх дзён. Са старонак "Байрама" мы яшчэ раз выказваем спачуванне блізкім Нігмата Іскакавіча Сарсенава.

Спі спакойна, дарагі сябра.

Эмир Алла, башынъыз сагъ олсун. Аллах рахмет эйлесин.

**11 чэрвеня 1994 г.** на 45-м годзе жыцця ў Смілавічах раптоўна памёр Ільясевіч Мухамед, сын Галіі (з роду Асановічаў) і Мухамеда. Засталіся маці, бацька і дачка Наташа. Пахаваны на мізары ў Смілавічах.

**12 чэрвеня 1994 г.** пасля цяжкай хваробы памёр у Менску Ільясевіч Мустафа, сын Аміні (з роду Асановічаў) і Мухарэма. Нарадзіўся Мустафа Мухарэмавіч у Смілавічах у 1926 г. 18-гадовым юнаком у 1944 г., разам з бацькам пайшоў на фронт. Бацька з вайны не вярнуўся (загінуў у Польшчы). Мустафа застаўся жывы. Яго баявыя заслугі на вайне

адзначаны медалём "За адвагу" і Ордэнам Айчыннай вайны.

Пасля вайны напружана вучыўся. Скончыў механічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, а затым працаваў начальнікам цэха, тэхнолагам Менскага мотавелазавода. Быў заслужаным рацыяналізатарам. Пахаваны на мізары у Смілавічах. Засталіся жонка Марыя, дачка Ліля і сын Генадзь.

***Няхай светлы Рай усім памерлым будзе.***

# У РЭДАКЦЫЮ "БАЙРАМА" ПІШУЦЬ

З Браслаўшчыны настаўнік-пенсіянер Фёдар Васільевіч Фёдараў паведамляе: "Ад маёй хаты, можа, за 2 км, знаходзіцца татарскі мізар. Там спачываюць многія з тых мусульман, якіх я ведаў. Часам заходжу на могілкі, каб пастаяць каля магіл. Сумленныя і працавітыя гэта былі людзі. Дасылаю ў рэдакцыю "Байрама" цікавыя, на мой погляд, матэрыялы пра татар, якія друкуюцца ў мясцовай прэсе".

Дзякуй Вам, Фёдар Васільевіч, два матэрыялы мы перадрукуем. Вось гэтыя матэрыялы: Тры ўраджаі ва ўмовах Беларусі — піша Іван Говар, настаўнік, жыхар г. п. Іўе:

"Нямала я аб`ездзіў гарадоў і гарадскіх пасёлкаў Беларусі, аднак нідзе падобнага таму, што штогод назіраю ў сваім райцэнтры, гарпасёлку Іўе, не даводзілася бачыць ці нават пачуць або недзе прачытаць, каб так многа людзей займаліся вырошчваннем гародніны і перш за ўсё агуркоў, радыскі, капусты і памідораў. Не, не толькі для сябе, а і на продаж.

Калі сёння прайсці па вуліцах гарпасёлка, то кідаецца ў вочы тое, што ўвесь агарод у вельмі многіх знаходзіцца пад плёнкай. Акрамя гародніны, людзі ў

парніках ранняй вясною вырошчваюць і кветкі. Кажуць, што разумнаму выкарыстанню зямлі, уменню вырошчваць памідоры і агуркі маіх землякоў навучылі мясцовыя татары. Менавіта яны здаўна славіліся як выдатныя агароднікі. А іх на Іўеўшчыне жыве многа.

Уявіце сабе, што ва ўмовах роднай Беларусі з поля ёсць магчымасць сабраць тры ўраджаі. І збіраць.

Дык вось, восенню, калі ўжо сабрана ўся гародніна, многія высаджваюць у сваіх агародах кветкі расадай. Ранняй вясной кветкі расады выкопваюць і прадаюць, а на гэтым месцы пікіруюць радыску.
Вядома, што радыска расце вельмі хутка і праз пэўны прамежак часу ідзе ўжо на продаж, а свабодныя ад яе градкі якраз паспяваюць пад пасадку капусты, памідораў у адкрытым грунце. Зазначу, што нярэдка мы лічым перш за ўсё чужыя грошы, а падчас і зайздросцім іх уладальнікам. Але працуюць людзі на сябе, на сваю карысць. Вось чаму і стараюцца."

І вось яшчэ адна публікацыя пад назвай "Вяртанне Бога":

" — Мы таксама, як і ўсе людзі, хочам нараджацца і паміраць з верай, — сказала па пасяджэнні Браслаўскага райвыканкама М. А. Гембіцкая, якая прадстаўляла інтарэсы больш як паўсотні грамадзян мусульманскага веравызнання з г. п. Відзы і наваколля, вырашыўшых стварыць рэлігійную суполку. У гэтым праве ім не адмоўлена і райвыканкам звярнуўся ў аблвыканкам з просьбай зарэгістраваць абшчыну. А перад Відзскім пассаветам пастаўлена задача знайсці памяшканне для рэлігійных адпраў мусульман."

# ЗМЕСТ